# ПРАДМОВА

У беларускім мовазнаўстве ўпершыню распачата комплекснае даследаванне беларускай народнай тэрміналогіі і наменклатуры, якая звязана з матэрыяльнай і духоўнай культурай народа, традыцыйнымі заняткамі насельніцтва, вытворчасцю і інш. У рамках гэтага даследавання плануецца стварэнне серыі прадметна-тэматычных слоўнікаў і шэрагу манаграфічных прац. Два слоўнікі: «Жывёльны свет» (1999 г.) і «Раслінны свет» (2001 г.) ужо апублікаваны.

Зараз прапануецца ўвазе чытачоў тэматычны слоўнік «Чалавек». Гэта праца, у адрозненне ад папярэдніх, значна большая па аб'ёму, бо ў яе ўключана эмацыянальна-экспрэсіўная і ацэначная лексіка – вельмі багаты і да гэтага часу недастаткова распрацаваны пласт лексікі. У слоўнік уключана лексіка, звязаная з фізічнымі і псіхічнымі характарыстыкамі чалавека, яго паводзінамі, а таксама лексіка, якая характарызуе чалавека як грамадскага дзеяча, вызначае род яго заняткаў, сацыяльнае становішча і г. д.

Крыніцай для стварэння картатэкі паслужылі дыялектныя слоўнікі, атласы, навуковыя даследаванні, звязаныя з тэмай, а таксама новы матэрыял, сабраны ў дыялекталагічных экспедыцыях.

Аўтарская работа выканана наступным чынам:

1. Агульныя назвы груп людзей – Клімчук Ф. Д.
2. Агульныя назвы чалавека па ўзросту і полу – Астрэйка В. Дз.
3. Назвы дзяцей – Бунько Н. М.
4. Назвы чалавека па роднасці і сваяцтву – Ісачанкава М. А., Сівіцкая Н. В.

5. Назвы чалавека па нацыянальнасці і месцы пражывання – Клімчук Ф. Д.
6. Назвы чалавека па прафесіі і роду заняткаў – Астрэйка В. Дз.
7. Назвы людзей па сацыяльным становішчы – Шаблоўскі А. І.
8. Назвы частак цела чалавека – Трухан Т. М.
9. Назвы чалавека па знешнім выглядзе – Кунцэвіч Л. П.
10. Назвы чалавека па ўнутраным і эмацыянальным стане – Крывіцкі А. А.
11. Назвы чалавека па разумовых здольнасцях – Крывіцкі А. А.
12. Назвы чалавека па паводзінах – Курцова В. М.
13. Назвы чалавека па адносінах да працы – Ксяндзова А. У.
14. Назвы чалавека па адносінах да людзей – Трухан Т. М.
15. Назвы чалавека па некалькіх якасцях – Бунько Н. М., Шаблоўскі А. І.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## НАЗВЫ ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ

| | |
|---|---|
| АЛА — | Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. Архіў матэрыялаў па населеных пунктах Беларусі сеткі атласа. Захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. |
| Бялькевіч — | Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970. |
| Варлыга — | Варлыга А. Краёвы слоўнік Лагойшчыны. Нью-Йорк, 1970. |
| ГЧ — | Гавораць чарнобыльцы. Мн., 1994. |
| ДАБМ — | Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963. |
| Дабравольскі — | Добровольский В. В. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914. |
| ДСБ — | Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мн., 1989. |
| ЖНС — | Жывое народнае слова. Мн., 1992. |
| ЖНшС — | Жывое наша слова. Мн., 2001. |
| ЖС — | Жывое слова. Мн., 1978. |
| З нар. сл. — | З народнага слоўніка. Мн., 1975. |
| Каспяровіч — | Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік. Мн., 1927. |
| Кучук –– | Кучук І М., Малюк А. К. Палескі слоўнік: Лельчыцкі р-н., Мазыр, 2000. |
| ЛАБНГ — | Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. Т. 3. Чалавек. Мн., 1996. |
| ЛП — | Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. Мн., 1968. |
| Мат. апыт. — | Матэрыялы, сабраныя ў час спецыяльных экспедыцыйных выездаў, у выніку апытанняў прадстаўнікоў гаворак і інш. |
| Мат. Гом. — | Матэрыялы да дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства. Мн., 1975–1982. Вып. 3–10. |
| Мат. Гродз. — | Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972. |
| Мат. Маг. — | Матэрыялы для абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мн., 1981. |

Мат. мін.-мал. — Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мн., 1970–1977. Вып. 1–3.
Мат. дыял. сл. — Матэрыялы для слоўніка народна-дыялекнай мовы. – Мн., 1960.
Насовіч — Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983.
НЛ — Народная лексіка. Мн., 1977.
НЛГ — Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік. Мн., 1983.
НС — Народнае слова. Мн., 1976.
Н. сл-сць — Народная словатворчасць. Мн., 1979.
Растаргуеў — Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973.
Сл. Гродз. — Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн., 1983.
СРЛГ Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / Пад рэд. М. А. Даніловіча, П. У. Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 1999.
СПЗБ — Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парагранічча: У 5 тамах. Мн., 1979–1986.
Станкевіч — Станкевіч. Я. Белорусско-русский (Великолитовско-русский) словарь. Нью-Йорк, 1990.
СЦБ — Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У 2 т. Мн. 1990. Т. 1.
Сцяцко — Сцяцко П. У. Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны. Мн., 1970; Сцяцко П. У. Народная лексіка. Мн., 1970.
Сцяшковіч — Сцяшковіч Т. Ф. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Гродна, 1959.
ТС — Тураўскі слоўнік: У 5 т. Мн., 1982–1987.
Цыхун — Цыхун А. П. Скарбы народнай мовы. Гродна, 1994.
Шаталава — Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. Мн., 1975.
Шатэрнік — Шатэрнік М. В. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Мн., 1929.
ЭСБМ — Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978–1993. Т. 1–8.
Юрчанка — Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік (з гаворак Мсціслаўшчыны). Мн., 1966; Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мн., 1969; Юрчанка Г. Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворак Мсціслаўшчыны. Мн., 1981–1985. Вып. 1–3; Юрчанка Г. Ф. Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік. Мн., 1968; Юрчанка Г. Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік: А – Н. Мн., 1993.
Янкова — Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982.
Янкоўскі — Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік. Мн., 1959–1970. Вып. 1–3.
Яўсееў — Яўсееў Р. М. Маці казала так...: З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мн., 1978.

## НАЗВЫ ДЫЯЛЕКТНЫХ ГРУП ГАВОРАК

агульн. — агульнавядомае
асн. мас. г. — асноўны масіў гаворак
зах.-пал. г. — заходнепалескія гаворкі
паўдн.-зах. д. — паўднёва-заходні дыялект
гродз.-бар. г. — гродзенска-баранавіцкая група гаворак
сл.-маз. г. — слуцка-мазырская група гаворак
паўн.-усх. д. — паўночна-ўсходні дыялект
віц.-маг. г. — віцебска-магілёўская група гаворак
пол.-мін. г. — полацка-мінская група гаворак
сярэд.-бел. г. — сярэднебеларуская група гаворак
усх.-маг. г. — усходне-магілёўская група гаворак

## АСНОЎНЫЯ ДЫЯЛЕКТНЫЯ ЗОНЫ

цэнтр. з. — цэнтральная зона
паўн.-зах. з. — паўночна-заходняя зона
паўдн.-усх. з. — паўднёва-ўсходняя зона
зах. з. — заходняя зона
усх. з. — усходняя зона

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ РЭГІЁНЫ

Беластоц. р. — Беласточчына (Польшча)
Бярэз. р — У наваколлі р. Беразіны
Вілен. р. — Віленшчына
Віц. р. — У наваколлі Віцебска
Гом. р. — У наваколлі Гомеля
Гродз. р. — У наваколлі Гродна
Зах.-бран. р. — Заходняя Браншчына (Расія)
Латгал. р. — Латгальскі рэгіён
Маг. р. — Магілёўскі рэгіён
Мін. р. — Мінскі рэгіён
пал. р. — палескі рэгіён
Панямонне р. — Панямонне
паўдн. р. — паўднёвы рэгіён
паўн. р. — паўночны рэгіён
Случ. р. — Слуцкі рэгіён
Смален. р. — Смаленскі рэгіён
усх.-маг. р. — усходнемагілёўскі рэгіён
усх.-пал. р. — усходнепалескі рэгіён
Чэрв. р. — Чэрвенскі рэгіён

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

адзінк. — адзінкавае
адм. — адмоўнае
дзіц. — дзіцячае
ж. — жаночы род
зак. — закончанае трыванне
зб. — зборнае
зневаж. — зневажальнае
іран. — іранічнае
ласк. — ласкальнае
м. — мужчынскі род
метаф. — метафарычнае
мн. — множны лік
мясц. — мясцовае
н. — ніякі род
незак. — незакончанае трыванне
павеліч. — павелічальнае
павел.-адм. — павелічальна-адмоўнае
памянш. — памяншальнае
памянш.-ласк. — памяншальна-ласкальнае
прым. — прыметнік
фалькл. — фальклорнае
экспр. — экспрэсіўнае

## НАЗВЫ РАЁНАЎ

Акц. – Акцябрскі
Арш. – Аршанскі
Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бабр. – Бабруйскі
Бар. – Баранавіцкі
Барыс. – Барысаўскі
Бераст. – Берастаўіцкі
Беш. – Бешанковіцкі
Браг. – Брагінскі
Брасл. – Браслаўскі
Брэсц. – Брэсцкі
Буда-Каш. – Буда-Кашалёўскі
Бых. – Быхаўскі
Бял. – Бялыніцкі
Бяроз. – Бярозаўскі
Бярэз. – Бярэзінскі
Верхнядзв. – Верхнядзвінскі
Ветк. – Веткаўскі
Віл. – Вілейскі
Віц. – Віцебскі
Воран. – Воранаўскі
Ганц. – Ганцавіцкі
Гарад. – Гарадоцкі
Гл. – Глускі
Глыб. – Глыбоцкі
Гом. – Гомельскі
Гор. – Горацкі
Гродз. – Гродзенскі
Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Добр. – Добрушскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Дрыб. – Дрыбінскі

Валож. – Валожынскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Ельск. – Ельскі
Жаб. – Жабінкаўскі
Жлоб. – Жлобінскі
Жытк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Іван. – Іванецкі
Іўеў. – Іўеўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Капат. – Капаткевіцкі
Капыл. – Капыльскі
Карм. – Кармянскі
Карэл. – Карэліцкі
Касц. – Касцюковіцкі
Кір. – Кіраўскі
Клецк. – Клецкі
Клім. – Клімавіцкі
Кліч. – Клічаўскі
Кобр. – Кобрынскі
Краснап. – Краснапольскі
Круп. – Крупскі
Крыч. – Крычаўскі
Лаг. – Лагойскі
Лельч. – Лельчыцкі
Леп. – Лепельскі
Лёзн. – Лёзненскі
Лід. – Лідскі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі
Маг. – Магілёўскі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Малар. – Маларыцкі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Мёрскі
Мін. – Мінскі
Дубр. – Дубровенскі
Кругл. – Круглянскі
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Нараўл. – Нараўлянскі
Нясв. – Нясвіжскі
Паст. – Пастаўскі
Петр. – Петрыкаўскі
Пін. – Пінскі
Пол. – Полацкі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі
Раг. – Рагачоўскі
Рас. – Расонскі
Рэч. – Рэчыцкі
Саліг. – Салігорскі
Светлагор. – Светлагорскі
Свісл. – Свіслацкі
Сен. – Сенненскі
Слаўг. – Слаўгарадскі
Слон. – Слонімскі
Слуц. – Слуцкі
Смал. – Смалявіцкі
Смарг. – Смаргонскі
Старадарож. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі
Тал. – Талачынскі
Уздз. – Уздзенскі
Ушацк. – Ушацкі
Хойн. – Хойніцкі
Хоц. – Хоцімскі
Чав. – Чавускі
Чач. – Чачэрскі
Чэрв. – Чэрвеньскі
Чэрык. – Чэрыкаўскі
Шарк. – Шаркаўшчынскі
Шкл. – Шклоўскі
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

1а Зак. 1352

## 1. АГУЛЬНЫЯ НАЗВЫ ГРУП ЛЮДЗЕЙ

### Басякі, бедныя людзі

*басата́* зб. ж. – Віл., Зах.-бран. р. (СЦБ, Растаргуеў), *басатва́* зб. ж. – Віц. р., Чэрв. р. (Станкевіч), *басато́рыя* зб. ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *басо́та* зб. ж. – Віц. р., Чэрв. р., Драг., Стол., Зах.-бран. р. (ТС, Растаргуеў, Станкевіч, Мат. апыт.), *бе́дны* прым. м. – агульн. (Станкевіч, Мат. апыт.), *гало́та* зб. ж. – Кам., Стол. (ТС, ЖНС, Насовіч), *галытва́* зб. ж. – Чав. (НС), *галыты́р* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *голь* зб. м. – мясц. (Насовіч), *мізе́рыя* зб.– Зах.-бран. р. (Растаргуеў).

### Госці

*бясе́дачка* ж. – Брасл. (НС), *го́сці* мн. – агульн. (СЦБ, Мат. апыт.), *чэсь* ж. – Пух. (З нар.сл.).

### Грамада, грамадства

*во́бчаства* н., *о́бчаства* н. – Жытк., Гом. р. (ТС, НЛГ), *грама́да* ж. – мясц. (Насовіч), *грамада́* ж. – мясц. (Станкевіч); *грумада́* ж. – Смарг. (Станкевіч), *грама́дзтва* ж. – мясц. (Станкевіч), *мір* м. – Стол., Жытк. (ТС), *міро́та* ж. – Жытк. (ТС).

### Група людзей, гурт, натоўп

*абла́ва* ж. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *ара́ва* ж. – Жытк., Гом. (ТС, Н. сл-сць), *балага́н* м. – Стол. (ТС), *бу́рса* ж. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *вя́тня* ж. – Мёр. (НС), *га́вяда* ж. – Ушацк. (НС), *га́муз* м. – Мсцісл. (Юрчанка, Станкевіч), *гане́йка* ж. – Лоеў. (Янкова), *гармі́дар* м. – Барыс. (Мат. мін.-мал.), *го́рба*

ж. – Свісл. (Шаталава), *грамáда* ж. – Чэрв. р., Смарг., Гродз., Жытк. (ТС, Цыхун, Станкевіч), *грамадá* ж. – Лаг., Бяроз., Лоеў. (Насовіч, Варлыга., Янкова, Шаталава), *груд* м. – Віц. р., Мсцісл. (Станкевіч), *грумáда* ж. – Гродз. (Цыхун), *грумадá* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *гужóлка* ж. 'гурт'. – Люб. (Н. сл-сць), *гýра* ж. – Пін., Стол., Жытк. (ТС, Шаталава), *гýрбá* ж. – Зах.-бран. р. (Станкевіч), *гýрбачка* ж. 'невялікі натоўп' – мясц. (Станкевіч), *гýрмá* ж. – Лаг., Смален. р., Зах.-бран. р. (Станкевіч), *гурт* м. – Лаг., Буда-Каш., Стол., Жытк., Маз. (Варлыга, ТС, ГЧ), *збор* м. – мясц. (Насовіч), *збóрня* ж. – Саліг. (Н. сл-сць), *кагáл* м. – Мядз., Чач., Лоеў. (СЦБ, Янкова, Насовіч, Мат. апыт.), *карагóд* м. – Смален. р. (Станкевіч), *качагýра* ж., *кучугýра* ж. – Жытк. (ТС), *ключ* м. – Лоеў. (Янкова), *кýпа* ж. – Стол., Жытк. (ТС, Насовіч), *кýпка* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *куча* ж., *кучка* ж. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *мардвá* ж. 'шумнае зборышча' – мясц. (Насовіч), *набрóд* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *нарóдзішча* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *натóўп* м. – Лаг. (Варлыга), *плóйма* ж. – Лаг., Ветк., Драг. (Варлыга, Мат. Гом., Станкевіч, Мат. апыт.), *рýйца* ж. 'гурт'. – Кам. (ЖС), *свет* зб. м. 'вялікая колькасць людзей' – Мсцісл. (Юрчанка), *субóр* – Маст. (НС), *сýтарма* ж. 'вялікая колькасць людзей' – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *табалá* ж. – Дзярж. (НС), *таўпá* ж. – Зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў); *талпá* ж. – Лоеў. (Янкова), *тýбыль* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *ціжба* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *чакірдá* ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *чат* м. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *чáта* ж., *чáты* мн. – Лельч., Нараўл., Лоеў., Браг. (ЛАБНГ, Кучук).

### Група людзей у танцы

*карагóд* м. – Лаг. (Варлыга), *кóла* н. – Стол. (ТС), *круг* м. – Драг. (Мат. апыт.), *танóк* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў).

### Групы людзей, якія знаходзяцца на нізкай ступені развіцця

*дзікарыí* мн. – Кобр., Драг. (Мат. апыт.), *дзíкія* прым. мн. – Лун. (Мат. апыт); *дзíкі* прым. м. Смарг. (Станкевіч), *першабýтныя* мн. 'людзі, якія жылі даўней' – Жытк. (ТС).

## Дзеці

**агульныя назвы дзяцей**: *басатá* зб. ж. 'хлапчукі-свавольнікі, што чыняць шкоду' – Уздз. (СЦБ), *блазнатá* зб. ж. – Віц. р., Лід. (Каспяровіч, СПЗБ), *блазнóта* зб. ж. – мясц. (Насовіч), *бубначы́* мн. – Зэльв. (Сцяцко), *гайня́* зб. ж. 'дзеці-свавольнікі' – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *дзéтвара* ж. зб. – Стол. (ТС), *дзéтухны* мн. – Лаг. (Варлыга), *дзéці* мн. – агульн. (ГЧ, Станкевіч, Мат. апыт.), *дзятвá* зб. ж. – Смарг., Гом. р., Смален. р. (НЛГ, Насовіч, Станкевіч, Дабравольскі), *дзяці́нства* зб. н. – Лаг. (Мат. мін.-мал., СЦБ), *дзяццё* зб. н. – Жытк. (ТС), *драбнатá* зб. ж. – Зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў), *драбязá* зб. ж. – Смарг., Лаг. (Насовіч, Станкевіч), *жамярá* зб. ж. – Віл. (ЖС), *жамярвá* зб. ж. – Зэльв. (Сцяцко), *жэ́мяць* зб. ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *канарэ́зь* зб. ж. 'хлапчукі-свавольнікі' – Мсцісл. (Юрчанка), *лятуны́* мн. 'хлопцы-аднагодкі, падлеткі' – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *малéнства* н. 'маленькае, ласкавае дзіця' – Кам. (ЖНС, Насовіч), *малéча* зб. ж. – мясц. (Насовіч), *малігá* зб. ж. 'падлеткі' – Уздз. (СЦБ), *мальгвá* зб. ж. – Слаўг. (Н. сл-сць), *мальгвéча* зб. ж. – Слаўг. (Н. сл-сць), *мардá* зб. ж. 'свавольнікі, крыкуны' – мясц. (Насовіч), *мілюзгéча* зб. ж. – Слаўг. (Н. сл-сць), *мілюзня́* зб. ж. – Слаўг. (Н. сл-сць), *нéўдалле* зб. н., *нéўдаль* зб. ж. 'няўдалыя дзеці' – Мсцісл. (Юрчанка), *плéвень* зб. ж. 'пра дзяцей, якія аб'ядаюць сады' – Стол., Жытк. (ТС), *рабя́та* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *чэ́кар* зб. ж. – Лаг. (Варлыга), *чэ́ляць* зб. ж. – Пух. (З нар. сл.), *шэ́карадзь* зб. ж. – Мсцісл. (З нар. сл., Мат. апыт.), *ю́рдыка* зб. ж. 'група гарэзлівых дзяцей' – Дзятл. (ЖС).

## Дзяўчаты

*дзéўкі* мн. – асн. мас. г. (Мат. апыт.), *дзя́ўкі* мн. – зах.-пал. г. (Мат. апыт.), *дзяўчáты* мн. – агульн. (ГЧ, Мат. апыт.), *дзявóства* зб. 'шмат дзяўчат' – Люб. (ЖС), *шару́йка* зб. ж. 'зборышча дзяўчат на вуліцы' – Валож. (ЖС).

## Зборышча, згуртаванне людзей

*ача́та* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *бра́тчыны* мн. – мясц. (Насовіч), *бра́цце* зб. н. – мясц. (Насовіч), *гама́рня* ж. ’шумнае зборышча’ – Браг. (З нар. сл.), *гамэ́рня* ж. – Мёр. (НС), *гу́рба́* ж. – Зах.-бран. р. (Станкевіч), *дружы́на* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *забра́нне* н. – мясц. (Насовіч), *кага́л* м. – Мядз., Раг., Зах.-бран. р. (СЦБ, Мат. дыял. сл., Растаргуеў), *ко́ла* н. – Стол. (ТС), *пае́зд* м. ’пры выкананні пастаўленай задачы’ – мясц. (Насовіч), *па́чка* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *пло́йма* ж. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *су́барніца* ж. – Мёр. (НС), *субо́р* м. – Маст. (НС).

## Жанчыны

*ба́бы* мн. – Слаўг. (ГЧ), *бабы́* мн. – зах.-пал. г. (Мат. апыт.), *жанкі́* мн. – Стол. (Мат. апыт.), *скудзе́льніцы* мн. ’зборышча жанчын пры прадзенні’ – Карэл. (ЖНС).

## Кампанія

*бу́рса* ж. – Стаўб. (СЦБ), *бясе́да* ж. ’звычайна ў застоллі’ – агульн. (ЛАБНГ, Янкова), *вал* м. ’кампанія, зборышча’ – Чач. (Мат. апыт.), *ва́лка* ж. – Лоеў. (Янкова), *га́ўгаліца* ж. – Лоеў. (Янкова), *гра́нда* ж. – Зэльв. (ЖС), *дрэ́йма* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *кампа́нія* ж. – Мсцісл., Гл. (Юрчанка, Янкоўскі), *канпа́нія* ж. – Слаўг. (ГЧ), *кумпа́нія* ж., *кунпа́нія* ж. – Чачэрск. (Насовіч, Мат. апыт.), *надо́б'е* н. ’у застоллі’ – Чэрв., Кір. (ЛАБНГ), *патрэ́ба* ж. ’у застоллі’ – Ушац., Мядз., Валож., Віл., Круп., Дзятл., Слон., Краснап., Хоц., Гл., Гом., Добр. (ЛАБНГ), *сві́та* ж. – Стол. (ТС), *тавары́ства* н. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *хе́ўра* ж. – Стол. (ТС), *хэ́ўра* ж. – Пух. (Мат. мін.-мал.).

## Людзі наогул, народ

*люд* зб. м. – Слаўг., Чач., Драг., Маз., Лоеў., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі, Янкова, ГЧ, Мат. апыт.), *лю́дзі* м. –

агульн. (ГЧ, Дабравольскі, Мат. апыт), *людзіна* ж. 'чалавек' – Кобр., Драг., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *людко́ве* мн. – Гродз. (Мат. Гродз.), *лю́днасць* ж. – мясц. (Насовіч), *лю́дства* зб. н. – мясц. (Насовіч), *мір* зб. м. – Пух., Светлагор., Чач., Драг., Лоеў. (НС, Янкова, Мат. Гом., Мат. апыт.), *наро́д* зб. н. – агульн. (ТС, ГЧ, Мат. апыт.).

### Моладзь

*га́вель* ж. – Гродз. (ЖНС), *маладзе́ж* ж. – Уздз., Стол. (Мат. мін.-мал., ТС), *маладзе́жа* ж. – Жытк., Хойн. (ТС, Мат. Гом.), *маладзёж* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *маладзя́ж* ж. – Лаг., Віл., Валож. (СЦБ, Варлыга), *маладня́к* зб. м. – Пух., Стаўб., Драг. (СЦБ, Мат. мін.-мал., Мат. апыт.), *маладыя́* мн. – агульн. (Янкоўскі, ГЧ, Мат. апыт.), *мо́ладзеж* зб. ж. – Мсцісл., Зах.-бран. р., (Юрчанка, Растаргуеў), *мо́ладзь* ж. – Мясц. (Насовіч), *слімяннё* зб. н. 'маладыя здаровыя дужыя людзі' – Мсцісл. (Юрчанка).

### Мужчыны

*мужчы́ны* мн. – агульн. (Мат. апыт.), *мужыкі́* мн. – агульн. (Мат. апыт.), *чалавякі́* мн. – Драг. (Мат. апыт.).

### Нягоднікі, мярзотнікі

*барбасня́* зб. ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *благата́* зб. ж. – Гл. (Н. сл-сць), *бруд* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *гадаўё* зб. н. – Лаг., Чэрв. р. (Варлыга, Шатэрнік, Станкевіч), *жуля́бія* зб. ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *зброд* зб. м. – мясц. (Насовіч), *на́талач* зб. ж. – мясц. (Насовіч), *некая́нства* зб. н. – Мсцісл. (Юрчанка), *не́чысць* зб. ж. – Жытк. (ТС), *паганнё* зб. н., *пага́нства* зб. н. 'зборышча іншаверцаў' – мясц. (Насовіч), *партаччо́* зб. н. – мясц. (Насовіч), *паску́дства* зб. н. – мясц. (Насовіч), *плюга́ўства* зб. н. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *по́гань* зб. ж. – мясц. (Насовіч), *по́скудзь* зб. ж. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *сатаннё* зб. н. – мясц. (Насовіч), *свалата́* зб. ж. – Жытк. (ТС), *су́талач* зб. ж. –

мясц. (Насовіч), *чартаўё* зб. н. – мясц. (Насовіч), *шалу́дзі* мн. – Пух. (СПЗБ), *шка́радзь* зб. ж. – мясц. (Насовіч).

## Продкі

*бацькі́* мн. – Лоеў. (Янкова, Насовіч), *дзяды́* мн. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Янкова, Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *пра́дзеды* мн. – большая частка тэрыторыі Беларусі; у паўднёва-ўсходняй частцы спарадычна (ЛАБНГ), *пра́ра-ды* мн. – Светлагор. (ЛАБНГ), *праро́дзікі* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *пра́шчур* м. – Лаг. (СПЗБ), *про́дкі* мн., *про́дак* м. – Барыс., Кругл., Шкл., Слуц., Бял., Краснап., Хоц., Слон., Лун., Жытк., Рэч., Лоеў., Лельч., Ельск. (ЛАБНГ, Янкова, ЖНшС, Насовіч), *прэ́дкі* мн., *прэ́дак* м. – паўдн.-усх. з., спарадычна зах.-пал. г., Шарк., Ушацк., Арш., Навагр., Карэл., Чэрв., Драг., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Мат. апыт.).

## Радня, род

*атчы́ннік* м. ’нашчадак па бацьку’ – мясц. (Насовіч), *грунт* м. ’род, племя, народ’ – Пух. (ЖС), *за́вадзь* ж. – Стаўб. (СЦБ), *злажэ́нне* н. – Гом. р. (НЛГ), *кага́л* м. – Стол., Жытк. (ТС, Н. сл-сць), *кагало́* н. – Лун., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гом.), *кага́льства* н. – Мазыр. (ГЧ), *кале́на* н. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *ко́дла* н. – Бялын., Люб., Светлаг., Жлоб., Чач., Карм., Драг., Лун., Стол., Жытк., Маз., Зах.-бран. р. (ТС, Мат. Гом., ЖС, З нар. сл., Яўсееў, Растаргуеў), *краўнякі́* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *кроў* м. ’карані роду’ – мясц. (Насовіч), *кро́ўныя* мн. – Ушацк., Тал., Клім. (ЛАБНГ), *крэ́ўныя* мн. – Шарк., Астр., Тал., Клім., Асіп., Нясв., Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *крэ́ўшчына* ж. – Стол. (ТС), *ку́дла* н. – Лаг. (Варлыга), *куст* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *насле́ддзе* н. – мясц. (Насовіч), *насле́днікі* мн. – Ваўк., Старадарож. (ЛАБНГ), *насле́ннікі* мн. – Круп. (ЛАБНГ), *насле́дства* н. – Навагр., Уздз., Добр. (ЛАБНГ), *нашча́дкі* мн. – Маст., Слон. (ЛАБНГ), *на́шы* мн. – Чэрв. р., Віл. (СЦБ, Шатэрнік), *падво́рня* ж. – Стол. (ТС), *падно́жжа* н. – Жытк. (ТС), *пакале́нне* н. – Воран., Раг., Чэрык., Касц., Брэсцк.,

Кам., Кобр., Драг., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі, Мат. апыт.), *парадня́* ж. – Стол. (ТС), *паро́ддзе* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *паро́дня* ж. – Стол. (ТС, Кучук), *пасле́дак* м. – мясц. (Насовіч), *пато́мкі* мн. – паўн.-усх. д, спарадычна цэнтр. з., зах.-пал. г., цэнтральная частка палес. р. (ЛАБНГ), *пато́мства* н. – агульн. (ЛАБНГ, ТС, ГЧ), *пле́ме* н. – Стол. (ТС, Насовіч), *пле́мень* м. – Стол. (ТС), *пле́мя* н. – Слон., Стаўб., Буда-Каш., Ветк., Гом., Браг. (Мат. мін.-мал., Мат. Гродз., Мат. Гом., Станкевіч), *пле́мянства* н. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *племяўство́* н. – Стол. (ТС), *плы́нне* н., *плы́мне* н. – Драг. (Мат. апыт.), *пляме́нства* н. – Стол., Жытк. (ТС), *по́вад* м. – Стол. (ТС), *пра́ўнукі* мн. – Віц., Паст., Верхнядзв., Светлагор., Брэсц., Драг. (ЛАБНГ), *пра́шчуры* мн. – Маз. (ЛАБНГ), *прыро́д* м. – Жытк. (ТС), *прыро́да* ж. – Ушацк., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *прыро́ддзе* зб. н. – Мсцісл., Чач. (Юрчанка, ЖС), *радакі́* мн. – Драг. (ЛАБНГ), *радзе́нька* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *радзі́вы* прым. м. 'добрага роду' – Валож. (ЖС), *радзі́ма* ж. – Чэрв. р., Валож., Клім. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *радзі́на* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, НЛГ, Мат. Гродз., Мат. Гом., ЖС, Н. сл-сць, Насовіч, Варлыга, Дабравольскі, Растаргуеў, Янкова, Станкевіч, Мат. апыт.), *радны́я* мн. – Дзятл. (ЛАБНГ), *радня́* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ГЧ, Шатэрнік, Каспяровіч, Варлыга, Дабравольскі, Станкевіч, Мат. апыт.), *радство́* н., *раство́* н. – Тал., Дзятл., Слуц. (ЛАБНГ), *род* м. – агульн. (ЛАБНГ, ТС, ГЧ, Насовіч, Янкова, Кучук, Станкевіч, Мат. апыт.), *ро́дзіна* ж. – Віц. р., Валож., Ушацк., Глыб., Барыс., Валож., Ганц., Лун., Смален. р. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Насовіч, Дабравольскі, Мат. мін.-мал., Станкевіч), *ро́дзічы* мн. – агульн., акрамя паўн. усходу (ЛАБНГ, Растаргуеў), *ро́дзішча* н. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *ро́дны* прым. м. – Мсцісл. Юрчанка, *ро́дныя* мн., *ро́дны* прым. м. – Паст., Ушацк., Кругл., Іўеў., Стаўб., Івац., Кобр., Хойн., Брагін. (ЛАБНГ, ГЧ), *ро́дня* ж. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *ро́дства* н. – Брасл., Кам., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *ро́суцвіннікі* мн., *ро́дсцвіннік* м. – Арш., Слаўг. (ЛАБНГ, ГЧ), *сваé* мн. – Ушац., Тал., Клім., Слаўг., спарадычна паўн.-зах. з. і паўдн. р. (ЛАБНГ, ГЧ), *сваі́на́* ж. – Лоеў. (Янкова), *свайство́* н. – Ушацк.,

Мсцісл., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Юрчанка), *сваякі* мн., *сваяк* м. – Чэрв. р., Саліг., Гом., Малар. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *сваяўство́* зб. н. – Чэрв. р., Уздз., Гл. (Мат. мін.-мал., Шатэрнік, Янкоўскі, Станкевіч), *сво́йства* н. – Гом. р. (НЛГ), *се́мя* н. – Мсцісл. (Юрчанка, Насовіч), *смуг* м. – Стол. (ТС), *срастьво́* н. – Ушацк., Беш., Тал., Лёзн., Бярэз., Рэч., Ветк. (ЛАБНГ), *сро́дзічы* мн. – Клім., Жытк., Смален. р. (ЛАБНГ, ТС, Дабравольскі), *сро́дства* н., *сро́ства* н. – Чэрв., Мсцісл., Бых., Гл., Чач., Калінк., Лоеў., Брагін. (ЛАБНГ, ГЧ, Юрчанка, Янкова, Янкоўскі, Мат. Маг., Мат. апыт.), *сро́дствіе* зб. н. – Смален. р. (Дабравольскі), *сро́сцвеннікі* мн. – Віц., Арш., Лід. (ЛАБНГ), *уро́д* м. – Жытк. (ТС), *фамі́лія* ж. – Воран., Шчуч. (Мат. Гродз., 3 нар. сл.), *ча́да* н. – Стол., Лельч. (ТС, Кучук).

### Талака, узаемадапамога

*талака́* ж. – Стол., Жытк., Зах.-бран. р. (ТС, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч), *то́лака* ж. – Стол., Жытк. (ТС).

### Хлопцы

*хлапя́ты* мн. 'хлопчыкі' – мясц. (Насовіч), *хло́пцы* мн. – агульн., акрамя Падзвіння (ЛАБНГ), *ма́льцы* мн. – Падзвінне (ЛАБНГ).

### Чарада дзяцей

*ара́ва* зб. ж. – Зах.-бран. р. (Рстаргуеў), *арда́* зб. ж. – Зах.-бран. р. (Рстаргуеў), *вэ́жгар* зб. м. – Віц. р. (Каспяровіч), *га́вяда* зб. ж. – Ушацк. (НС), *гайня́* зб. ж. – Уздз., Стаўб. (СЦБ), *галачва́* зб. ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *гандля́* зб. ж. – Уздз., Стаўб. (СЦБ), *гання́* зб. ж. – Уздз., Стаўб. (СЦБ), *драбната́* зб. ж. – Зах.-бран. р. (Рстаргуеў), *жу́жма* зб. ж. – Віл., Чэрв., Светлагор. (ЛАБНГ), *плен* зб. м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пло́йма* зб. ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пу́плы* мн. – Віц. р. (Каспяровіч. Станкевіч), *руі́на* зб. ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *руя́* зб. ж. – Шчуч., Старадарож., Лун., Пін., Стол., Жытк., Маз. (ЛАБНГ, ТС), *сарана́* зб. ж. – Лоеў. (Янкова), *чамярва́* зб. ж. – Гом. р. (НЛГ), *чэ́кер* зб. м. – Лоеў. (Янкова).

# 2. НАЗВЫ ЧАЛАВЕКА ПА ЎЗРОСТУ І ПОЛУ

## Дзіця

Малалетні хлопчык або дзяўчынка ад нараджэння да падлеткавага ўзросту.

*дзіця́* н., *дзіця́тачка* н. памянш., *дзе́ці* мн. – агульн., акрамя віц.-маг. г., спарадычна зах.-пал. г., Вілен. р., Смален. р. (ДАБМ, ТС, СПЗБ, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Мат. дыял. сл., Бялькевіч, Дабравольскі, Янкова, Цыхун, Юрчанка, Янкоўскі), *дзі́ця* н. – спарадычна ўсх.-пал. р. (ДАБМ), *дзіця́тка* н. – спарадычна паўдн.-зах. д., Віц., Круп., Віл., Беластоц. р., Зах.-бран. р. (ДАБМ, СПЗБ, ТС, ГЧ, Шатэрнік, Янкова, Янкоўскі, Растаргуеў), *дзі́цятка* н. – Маз., Смален. р. (ГЧ, Дабравольскі), *дзе́цятка* н. – Стол. (ТС), *дзіцё* н. – спарадычна агульн., Смален. р., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гом., Мат. мін.-мал., Дабравольскі, Станкевіч), *дзіцяня́* н. – Жытк., Зэльв., усх-маг. р. (СПЗБ, ТС, Бялькевіч), *дзіцяня́тка* н. памянш.-ласк. – Брасл., Шчуч., Ваўк. (СПЗБ), *дзіцянко́* н. памянш.-ласк. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ), *дзіця́ця* н. – Драг., Смален. р. (ДАБМ, Дабравольскі), *дзіця́ценька* н. памянш. – Смален. р. (Дабравольскі), *дзіця́тушка* н. памянш. – Гом. р., Смален. р. (НЛГ, Дабравольскі), *дзіця́тухна* н. – усх.-маг. р., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі), *дзе́тухна* н. – Віц. р., усх.-маг. р., Ваўк. (Бялькевіч, Каспяровіч, Мат. Гродз.), *дзіцёнак* м. – паўн. р., усх. з., акрамя ўсх.-пал. р., Смален. р., Зах.-бран. р. (ДАБМ, СЦБ, ГЧ, Мат. Гом., Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Юрчанка, Мат. апыт.), *дзіцянё* н. – Лаг., Мін., Чэрв., Воран., Слон. (ДАБМ, Варлыга, Шатэрнік). *дзе́тка* м. і ж. памянш., *дзе́тачка* м. і ж. памянш. –

Віц. р., усх.-маг. р. (Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Бялькевіч), *дзеткі* м. і ж. – Стол., Жытк. (ТС), *дзіцяк* м., *дзіцякі* мн. – Карэл., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *дзяціна* ж. – зах.-пал. г., Лоеў. (СПЗБ, ДСБ, ЖНшС, Янкова), *дзяціска* н. – Слон., Шчуч. (СПЗБ, ЖНшС), *дзéціска* н. – Ваўк. (СПЗБ), *дзяцішча* н. пагардл. – Стол. (ТС), *дзіця́цішча* н. пагардл. – Смален. р. (Дабравольскі), *дзятвá* н. зб. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *дзетвары́шча* н. зб. – Мсцісл. (Юрчанка), *рабёнак* м. – Брасл., Паст., Мёр., Лоеў., Латгал. р. (ДАБМ, СПЗБ, Янкова), *рабяцёнак* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *рабёшка* м. і ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *рабёшак* м. – Віц. р. (Каспяровіч), *малы́* м. – Гродз., усх.-пал. р., Смален. р. (Мат. Гом., Дабравольскі, Насовіч, Цыхун), *малóе* н. – Гл., Зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў, Янкоўскі), *маладзéнец* м. – Калінк. (Мат. Гом.), *малы́ш* м. – мясц. (Насовіч), *чáда* н. – Стол., Жытк. (ТС), *чаду́лька* н. – Віц. р. (Каспяровіч), *чáджка* м. і ж. – мясц. (Насовіч), *плодзь* ж. – Гом. р. (НЛГ), *ля́лька* ж. – Мсцісл., Зах.-бран. р. (Растаргуеў, Юрчанка), *ляля* ж., *ля́лечка* ж. памянш. – Віц., Смарг., Зэльв., Мсцісл., Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч, Сцяцко, Юрчанка), *паўшабэ́лак* м. – Леп. (ЖНшС), *лю́ба* ж. 'добрае дзіця' – Смален. р. (Дабравольскі), *навaрóждзены* прым.'нованароджанае дзіця' – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *склязнёнак* м. 'нованароджанае недаразвітае дзіця' – Гор. (Мат. Маг.), *сігалéтак* м. 'дзіця, народжанае сёлета' – Ушацк. (ЛАБНГ), *бабáй* м. 'дзіця, народжанае ля печы, калі маці паліла печ' – Паст. (СПЗБ), *бáбіч* м. 'дзіця, народжанае бабкай-павітухай' – Навагр., Чэрв., Стол., Жытк. (ТС, Мат. Гродз., Станкевіч), *байчу́к* м. 'дзіця, якое бабіла бабка' – Воран. (Мат. Гродз.); **зусім маленькае дзіця, немаўля**: *дзецянё* н., *дзецянётка* н. памянш. – Смарг. (Станкевіч), *маладзéнец* м., *младзéнец* м. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *малю́шачка* ж. ласк. – Гом. р. (НЛГ, Мат. апыт.), *апóўзлік* – Леп. (ЖНшС), *крыксу́н* м. жарт., *крыксунёк* м. жарт. – Смален. р. (Дабравольскі), *курдаяка* м. і ж. 'дзіця, якое вучыцца гаварыць' – Бял. (Яўсееў), *нямóй* м., *нямцю́лька* м. і ж., *нéмчык* м., *немáчка* ж. 'дзіця, якое не ўмее гаварыць' – Смален. р. (Дабравольскі); **грудное дзіця**: *грудня́к* м., *груднячóк* м. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка),

*цмактýн* м., *цмактунóк* м. памянш., *цмактýнчык* м. памянш., *цмактýнніца* ж., *цмактýха* ж., *цмактýшка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *смактýн* м. – Іўеў. (СПЗБ), *ссáннік* м., *ссáнніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *малазён* м. – Віц. р. (Федароўскі), *дýда* ж., *дýдлік* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *дудóля* ж., *цыра* ж. ласк. – Смален. р. (Дабравольскі), *падсóс* м. 'дзіця, якога маці хутка адлучыць ад грудзей' – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *балэ́шак* м. 'дзіця некалькіх дзён ад роду' – Свісл. (Сл. Гродз.), *пялю́шкавы* прым. 'які яшчэ ў пялёнках (пра дзіця)' – Дзятл. (Сл. Гродз.); **народжанае датэрмінова дзіця:** *недано́сак* м. і ж. – Чач., Стол. (ТС, Мат. апыт.), *нявы́насак* м. – Гом. р. (НЛГ), *скі́дыш* м. – мясц. (Насовіч), *няўпóрны* прым. – Карэл., Гродз. (СПЗБ); **дзіця гадавога ўзросту**: *гадýн* м., *гадунóк* м. памянш., *гадунóчак* м. памянш., *гадунéц* м. – Гл. (Янкоўскі), *гадаві́к* м., *гадаві́чка* ж. – мясц. (Насовіч), *гадавáлы* прым. – Воран. (Мат. Гродз.); **маленькае дзіця**: *малы́* м. – Гл., Чач., Хойн. (ГЧ, Янкоўскі), *мáлы* м. – Мсцісл., Чач., Смален. р. (ГЧ, Дабравольскі, Юрчанка), *малéначкі* прым. – Астр., Воран., Гродз., Вілен. р. (СПЗБ), *мáлка* ж., *малы́шка* м. і ж. – мясц. (Насовіч), *малюпáхтачка* ж., *мальгáвінка* ж., *мальгáвачка* ж., *мальгáўка* ж., *мальгвá* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *мальгá* ж. зб. – Бял. (Яўсееў), *маль* ж. зб. – Жытк. (ТС), *малéча* ж. зборн. – Мсцісл., Зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў, Юрчанка), *малéнства* н. зб. – Стол. (ТС), *мелюзгá* ж. зб. – Смален. р. (Дабравольскі), *малалéтак* м. – Жытк. (ТС, Насовіч), *бязлéтак* м. – мясц. (Насовіч), *недарóстак* м. – Лоеў. (Янкова), *драбязóк* м. – мясц. (Насовіч), *драбя́зь* ж. зб. – Смален. р. (Дабравольскі), *драбнатá* ж. зб. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *драбнóта* ж. зб. – Смален. р. (Дабравольскі), *шкарупля́к* м. перан. – Жытк. (ТС), *крашы́начка* ж. перан. – Мсцісл. (Юрчанка), *крóшка* м. і ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *каранты́ш* м. – Ветк. (Мат. Гом.), *карандáш* м. – Чэрв. (Мат. мін.-мал.), *казя́ўка* ж. перан. – Мядз. (СЦБ), *машкарá* ж. зб. – Смален. р. (Дабравольскі), *жабелю́ха* ж. – Жытк. (ТС), *жэ́мяць* ж. зб. – мясц. (Станкевіч), *бубнача́* мн. – Смарг. (Сл. Гродз.), *карапýза* м. і ж. – Бых. (ЛАБНГ), *карапýз* м., *карапýзік* м. памянш. –

Мсцісл. (Юрчанка), *кардупаль* м. эмац. – Карэл. (ЛАБНГ), *кержо́к* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *смарка́ч* м. – Віц. р., Чэрв. р. (Каспяровіч, Шатэрнік), *блазён* м. – мясц. (Станкевіч, Насовіч), *бла́зен* м., *блазнёнак* м. памянш. – мясц. (Насовіч), *бла́зні* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *блазню́к* м., *блазючо́к* м. памянш. – Віц. р. (Насовіч, Станкевіч), *блазно́та* ж. зб. – Чэрв. р., Сен., Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *галапу́пец* м. – Чэрв., Слон. (ЖНС, Станкевіч), *пу́пачка* ж. ласк., *пы́пка* ж. жарт. – Смален. р. (Дабравольскі), *завіня́тка* н. – Ваўк. (Сл. Гродз), *каро́лік* м. – Дзятл. (СПЗБ), *трапяту́н* м. – Ашм. (Мат. мін.-мал.), *бясштэ́ннік* м. ’малое дзіця без штаноў’ – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *трыфу́нцік* м. ’малое дзіця, якое не дабірае вагі да нормы’ – Стаўб. (Мат. мін.-мал.); **падлетак**: *падле́так* м. – Ушацк., Слаўг., Зэльв., Чэрв., Гл., Навагр., Стол., Жытк., Лельч., Кір., Маз., Ельск. (ЛАБНГ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Шатэрнік, Янкоўскі), *по́длетак* м. – пал. р. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гом., ГЧ), *падлётак* м. – Віц. р., Бых. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *падлётух* м. – Ветк. (Мат. Гом.), *падляту́ха* ж. – Гродз. (СРЛГ), *недале́так* м. – Гл. (Янкоўскі), *малале́тка* ж. – Смарг., Вілен. р. (СПЗБ), *падро́стак* м. – паўдн.-усх. з., паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ТС, СЦБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Янкоўскі), *по́драстак* м. – Пух., Старадарож., Раг., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, СЦБ), *падраста́к* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *падуро́стак* м. – Верхнядзв., Ушацк., Докш., Арш., Мсцісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Юрчанка), *падуро́ста* м. і ж. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *падро́стыч* м. – Слон. (Мат. Гродз.), *по́драсцень* м. – Гом. (Мат. Гом.), *недаро́стак* м. – Шкл., Пух., Добр., Пруж., Маз., Малар. (ЛАБНГ, Станкевіч), *недаро́слік* м. – Тал. (ЛАБНГ), *вы́растак* м. – Івац., Пін., Чач. (ЛАБНГ, ДСБ, ЖС), *выро́стак* м. – спарадычна зах.-пал. г., Глыб. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС), *бальшу́н* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч, Насовіч), *падшпа́рак* м. – Шчуч., Дзятл., Слон., Слуц. (ЛАБНГ, ЖНС, Н. сл-сць), *падчачу́рак* м. – Мядз. (СЦБ), *падшыва́нец* м. – Чач. (Мат. апыт.), *атро́к* м. – Гом. р. (НЛГ), *пад’е́дак* м. ’дзіця, якое ўжо даволі з’ядае, але яшчэ не гадзіцца да работы’ – Смален. р. (Дабравольскі); **апошняе дзіця ў сям’і:** *аскрэ́бак* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *паскрэ́бак* м. – Ашм.

(Сл. Гродз.), *падскро́бак* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *пашкры-бач* м. – Малар. (ДСБ), *зно́сак* м. – Чэрв. (Шатэрнік).

**Хлопчык, дзіця або падлетак мужчынскага полу**: *хло́пчык* м. – пераважна агульн., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Янкоўскі), *хло́пцык* м. – Гар. (ЛАБНГ), *пахло́пчык* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *хлапе́ц* м. – пераважна цэнтр. з., Слон., Зах.-бран. р., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік), *падхлапе́ц* м. – Гродз. р. (СРЛГ), *хлапе́чык* м. – усх.-маг. р., Карм. (ЛАБНГ), *хлапча́к* м. – паўн.-зах. з., зах.-пал. г., усх.-пал. р., Гродз. р., Маг. р., Бых., Слаўг., Слуц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ДСБ, ГЧ, ЖНшС, Сцяцко, Мат. апыт.), *хлапча́х* м. – Воран. (СПЗБ), *хлапчу́к* м. – спарадычна зах. з., спарадычна паўдн. р., Бярэз., Чэрв., Бял., Бых., Гл., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ДСБ, Янкоўскі, Шатэрнік, Мат. апыт.), *хляпчу́к* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *хлап-чы́на* м., *хлапчы́нка* м. памянш. – Мсцісл. (Насовіч, Юрчанка), *хлапчо́нка* м., *хлапчано́к* м. – Мсцісл., Гом. (ЛАБНГ, Юрчанка), *хлапчаню́к* м. – Пін. (ЛАБНГ), *хлапчо́нак* м. – Мсцісл., Зах.-бран. р. (Растаргуеў, Юрчанка), *хлапчаня́* н. – Гл., Зэльв., Навагр., Жытк. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Янкоўскі), *хлапчаня́тка* н. – Слон., Бяроз., Гом. р. (ДСБ, ЖНС, НЛГ), *хлапчанё* н. – Віл., Чэрв., Асіп. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *хлапчанёнак* м. – Добр. (ЛАБНГ), *хлапчы́шка* м. – Мсцісл., Зах.-бран. р. (Растаргуеў, Юрчанка), *хлапчы́ска* н. – Шчуч., Зэльв. (СПЗБ, Мат. Гродз., Н. сл-сць), *хлапчуга́н* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *хло́пец* м., *хлапе́ц* м., *хлапёнак* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *хлап'я* н. – Маладз., Калінк., Лоеў., Зах.-бран. р. (СПЗБ, Мат. дыял. сл., Растаргуеў, Янкова), *ма́лец* м. – Віц. р., Чэрв. р., усх.-маг. р., Смален. р., Бял., Лун. (ЛАБНГ, Мат. Маг., Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік, Юрчанка, Яўсееў), *мальчаня́* н. – Верхнядзв., Брасл. (СПЗБ), *мальчаня́тка* н. – Пол. (ЛАБНГ), *мальчанёнак* м. – Ушацк., Мёр., Круп. (ЛАБНГ), *мальчо́нак* м. – Верхнядзв., Брасл., Мёр., Ушацк., Мсцісл., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі, Юрчанка), *мальчы́на* м., *мальчы́нка* м. памянш., *мальчо́н-ка* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *ма́льчык* м. – Астр., Латгал. р.,

Зах.-бран. р. (СПЗБ, Растаргуеў), *мальчы́шка* м. – усх.-маг. р., Верхнядзв. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *мальчу́к* м. – Ушацк., Беш. (ЛАБНГ, НС), *мальчу́га* м. павеліч. – Воран. (СПЗБ, Насовіч), *малы́* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *дзяцю́к* м. – Чэрв., Гл., Пін., Кобр., Малар. (ЛАБНГ, ДСБ, НЛ, Насовіч, Янкоўскі), *паца́н* м. – Леп., Лун., Жлоб., Браг. (ЛАБНГ), *падшыва́нец* м. – Гом. р., Уздз., Маладз., Лаг., Мядз. (СЦБ, НЛГ, Мат. апыт.), *падшыва́лец* м. – Гом. р. (НЛГ), *пацане́ц* м. – Жытк. (ТС), *ке́йбал* м. іран. устар. – Гродз. (Цыхун), *стрынгаля́* н. – Маст. (Сл. Гродз.), *падшпа́рак* м. іран. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *паўкавале́ра* м. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *кавале́р* м. ’хлопец-падлетак паміж 14 – 18 гадамі’ – Кобр. (ЖНшС), *гіцаль* м., *ду́бас* м. ’хлопец-пераростак’ – Бял. (Яўсееў), *бальшу́н* ’большы хлопчык сярод іншых дзяцей’ – Гл. (Янкоўскі), *верхала́з* м. насм. ’хлопчык, які лазіць па дрэвах’ – Чэрв. р. (Шатэрнік); **невялікі маленькі хлопчык**: *малю́так* м. – Мядз. (СЦБ), *бязьле́так* м. – мясц. (Станкевіч), *лэ́бусь* м. – Гродз. (Цыхун), *хо́хлік* м. – Стол. (ТС), *шкет* м., *шкрэд* – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *галапу́пец* м. жарт. – Бераст. (Сл. Гродз.); *бяспо́рташнік* м., *бясшто́нік* м. ’малы хлопчык, які яшчэ ходзіць без штаноў’ – Віц. р. (Каспяровіч), *дзеўчачу́р* м., *дзяўчу́р* м. ’хлопчык, які паводзіць сябе як дзяўчынка’ – Стол., Жытк. (ТС).

**Дзяўчынка:** *дзяўчы́нка* ж. – цэнтр. з., паўдн.-усх. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Станкевіч), *дзе́ўчынка* ж. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г., Тал., Пух., Саліг., Бабр., Калінк., Івац., Лях., Люб., Раг., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *дзе́ўчына* ж. – Саліг. (ЛАБНГ), *дзяўчо́нка* ж. – усх. з., акрамя ўсх.-маг. р. (ЛАБНГ), *дзяўчо́начка* ж., *дзяўчы́начка* ж., *дзяўчы́ніца* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *дзяўчыне́нка* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *дзяўчане́тка* ж. – Полац. (ЛАБНГ), *дзеўчыне́ха* ж. – Паст., Віл., Глыб., Мядз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *дзяўчыне́шка* ж. – Ушацк., Мёр., Верхнядзв. (ЛАБНГ), *дзеўчаня́* н., *дзеўчаня́тка* м. памянш. – Гл., Люб., Зэльв., Лельч. (ЛАБНГ, ЖНшС, Янкоўскі), *дзеўчане́* н. – Барыс., Навагр., Бярэз. (ЛАБНГ), *дзяўчо́* н. – Гом. р., Навагр., Дзятл., Карэл., Клецк., Асіп. (ЛАБНГ, НЛГ, Мат. апыт.), *дзяўча́* н. – Дзятл.,

Зэльв., Слон., Нясв., Лун. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *дзéўча* н. – Гом. р., Круп. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛГ), *дзяўчýк* ж. – спарадычна гродз.-бар. г., пал. р., Беластоц. р., Ушацк. (ЛАБНГ, ТС, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНС, ЖНшС, Цыхун), *дзяўчýшка* ж. – Гар., Арш. (ЛАБНГ), *дзяўчóшка* ж. – Гом. р. (НЛГ), *дзяў́чатка* ж., *дзéўчатка* ж. – Воран. (СПЗБ), *дзéвачка* ж. – усх. з., Смален. р., Астр., Смарг., Карэл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ГЧ, Бяль-кевіч, Дабравольскі, Янкова, Мат. апыт.), *дзявýля* ж. – Докш., Свісл. (Мат. Гродз., Мат дыял. сл.), *дзяўчынёшка* ж. – поўнач паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *дзіўгá* ж. – Круп. (ЛАБНГ), *паддзеўка* ж. – Дзятл., Пін. (СПЗБ, ЖС), *падтанéчніца* ж. – Жытк. (ТС), *падчачýрка* ж. – Лаг. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *падрастáчка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *падрасцяк* м. – Астр. (СПЗБ), *малáя* ж. – мясц. (Насовіч), *гадавíчка* ж. 'аднагадовая дзяўчынка' – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *дзéўка* ж. 'дзяўчынка паміж 14 – 18 гадамі' – Кобр. (ЖНшС), *пятнастóўка* ж. 'дзяўчынка пад пятнаццаць гадоў ці гадоў 15–16' – Маладз., Іўеў., Маст., Зэльв., Кобр. (Мат. Гродз., ЖНшС, Мат. дыял. сл., Сцяцко), *бальшýха* ж. 'дарослая або старэйшая па ўзросце дзяўчынка' – мясц. (Насовіч).

**Лаянкавыя звароты да дзяцей:** *шчэнь* ж. зборн. – Леп. (ЖНшС), *мардвá* ж. зб. – Смален. р. (Дабравольскі), *плéвень* ж. зб. – Жытк. (ЖНшС), *плóйма* ж. зб. – Хоц., Мсцісл., Гл. (Янкоўскі), *жамярня́* ж. зб. – Слон. (Сл. Гродз.).

**Ласкавыя звароты да дзяцей:** *нябóж* м., *нябóга* м. і ж. – пал. р., Круп., Бял., Бярэз., Кір., Раг., Дзярж., Карэл., Бераст., Клецк., Капыл. (ЛАБНГ), *небажáта* зборн. – Жытк. (ЖНшС), *бáценька* м. – Жытк. (ТС), *мáманька* ж., *мамýленька* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *рыбанька* ж. экспр., *галубеня́тка* н. перан. – Жытк. (ТС).

## Жанчына

Асоба, па полу супрацьлеглая мужчыну.

*жанчына* ж., *жанчынка* ж. памянш. – Віц. р., Чэрв. р., Глыб., Пух., Гл., Буда-Каш., Ветк. (СЦБ, Мат. Гом., ГЧ,

Каспяровіч, Шатэрнік, Станкевіч, Янкоўскі), *жано́чына* ж. – зах.-пал. г. (ТС, ДСБ, НЛ), *жанчно́* н. зневаж. – Жытк. (ТС), *жэ́ншчына* ж. – Чач., Браг. (ГЧ), *жо́нка* ж. – Навагр., Пух., Стол., Жытк., Лельч. (ТС, Мат. Гродз., ЖНС, НЛ, Кучук, Насовіч, Станкевіч), *жанкі́* мн. – Чэрв. р., Навагр., Івац. (Мат. Гродз., ЖНС, Шатэрнік), *ба́ба* ж. – Віц. р., усх.-маг. р., пал. р., Гродз., Стаўб. (ЛАБНГ, СЦБ, ТС, ГЧ, Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Бялькевіч, Насовіч, Цыхун, Янкова, Янкоўскі), *ба́бка* ж., *бабу́ля* ж., *бабу́ся* ж. – мясц. (Насовіч), *ба́бухна* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *бабёнка* ж. зневаж. – Брасл. (СПЗБ, Насовіч), *бабе́нь* м. павеліч. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *бабзно́* н. зневаж. – Стол. (НС), *кабе́та* ж., *кабе́тка* ж. памянш. – Віц. р., Чэрв. р., Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *кабе́ціна* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *цётка* ж. – Чач. (ГЧ), *цётухна* ж. – Жытк. (ТС), *дзе́ўка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *юга́ся* ж. лаянк. – Лаг. (Варлыга), *каза́* ж. перан. – Смален. р. (Дабравольскі), *халя́ндра* ж. зневаж. – Беластоц. р. (ЖНшС).

**Ласкавыя звароты да жанчыны**: *пані* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *ма́тка* ж. – Гл. (Мат. дыял. сл.), *сёстрык* м. – Стол., Жытк. (ТС), *лю́ба* ж., *лю́бка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *лю́бачка* ж., *лю́бушка* ж. – мясц. (Станкевіч), *жада́начка* ж. – Стол. (ТС), *дарагу́ся* ж. – Валож. (СЦБ), *разла́пушка* ж., *ля́лечка* ж., *та́ічка* ж., *ча́ічка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *га́лачка* ж., *га́ланька* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *галу́бка* ж. – Смарг., Жытк., Смален. р. (ТС, Станкевіч), *галу́бачка* ж – мясц. (Станкевіч), *галу́банька* ж. – Жытк. (ТС), *зязю́лька* ж. – Чэрв., Пух. (Станкевіч), *лябёдка* ж., *лябе́дзюхна* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *ла́сачка* ж. – Жытк. (ТС).

**Дзяўчына**: *дзяу́чы́на* ж., *дзяу́чы́начка* ж. памянш., *дзяу́ча́ты* мн. – асн. мас. г., Вілен. р., Смален. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *дзяу́чынёшачка* ж. памянш.-ласк. – Вілен. р. (СПЗБ), *дзяу́ча́тка* мн. – Слон. (Мат. Гродз.), *дзе́ўчына* ж. – зах.-пал. г., гродз.-бар. г., Беластоц. р., спарадычна Слуц. р., Бярэз., Кір., Маз.

(ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЖНшС), *дзеўчына́* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *дзяўчо́нка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *дзяўчо́* н. – спарадычна гродз.-бар. г., спарадычна Слуц. р., Лаг., Бярэз., Чэрв., Асіп., Барыс., Малар., Нараўл. (ЛАБНГ, Варлыга), *дзяўча́* ж. – Зэльв., Лун. (ЛАБНГ, Насовіч), *дзе́ўча* ж. – Круп. (ЛАБНГ), *дзяўчу́к* ж. – спарадычна зах. з., Гар., Арш., Добр., Браг., Маз. (ЛАБНГ), *дзяўчынёха* ж. – Мёр., Мядз., Смарг. (ЛАБНГ), *дзе́ўка* ж., *дзе́ванька* ж. памянш., *дзе́ўкі* мн. – агульн., Смален. р., Вілен. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ГЧ, Мат. Гом., Мат. мін.-мал., СЦБ, З нар. сл., Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Кучук, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Сцяцко, Цыхун, Шатэрнік, Юрчанка, Янкова, Янкоўскі), *дзяўкі́* мн. – Навагр., Пруж., Вілен. р. (СПЗБ), *дзёк* ж. зв. – Смален. р. (Дабравольскі), *дзе́ўля* ж. – Капыл., Брэсц. (ДСБ, Н. сл-сць), *дзяву́ля* ж. зневаж. – Віц. р., Глыб., Лаг., Шкл., Мсцісл., Гл., Чач., Жытк., Пін. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Мат. Маг., Мат. мін.-мал., Варлыга, Каспяровіч, Насовіч, Юрчанка, Янкоўскі, Мат. апыт.), *дзявуля́* ж. абразл. – Віл., Слон. (ЖС, ЖНС), *дзяву́ліска* ж. груб. – Драг. (НЛ), *дзяву́ння* ж. – Клім. (ЛАБНГ), *дзяву́хна* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *дзе́вухна* ж. – мясц., Зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў), *дзяўзно́* н. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ТС), *дзе́вачка* ж. – Чач., Лоеў. (Насовіч, Янкова, Мат. апыт.), *дзе́ва* ж. – Клім. (ЛАБНГ, Насовіч), *дзяві́ца* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *дзяві́чачка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *дзе́вішча* ж. павеліч. – Мсцісл. (Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *дзяві́шча* н. – Лун. (ЛАБНГ), *дзе́вушка* ж. – Арш., Касц., Клім., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі), *дзяву́шачка* ж., *дзяву́шкі* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *няве́ста* ж. – спарадычна ўсх. з., Пух., Саліг., Івац. (ЛАБНГ, Насовіч), *пане́нка* ж., *пане́начка* ж. памянш. – паўн.-зах. з., Віц. р., Чэрв. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *пане́нька* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *па́нна* ж. – Ваўк. (ЛАБНГ, Насовіч), *ба́рышня* ж. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *бая́рачка* ж. – мясц. (Насовіч), *княгі́ня* ж. – Віц., Маз., Жытк. (Мат. Гом., Станкевіч), *карале́ва* ж. – Ганц. (ДСБ), *чмы́ра* ж. экспр., *чмы́рка* ж. памянш., *чаро́пка* ж. перан. абразл. – Мсцісл.

(Юрчанка), *паўпрыіца* ж. абразл. – Зэльв. (Сцяцко), *бяля́начка* ж. перан. – Смален. р. (Дабравольскі), *сіву́ха* ж. лаянк. 'старэйшая дзяўчына' – Лаг. (Варлыга), *булто́хыс* ж. 'немаладая дзяўчына' – Кам. (ЖНС), *шасна́ццатка* ж. 'шаснаццацігадовая дзяўчына' – Кліч., Старадарож. (Мат. Маг., Мат. апыт.), *семна́ццатка* ж. 'семнаццацігадовая дзяўчына' – Гл., Жытк. (ТС, Мат. Маг.), *семнасто́ўка* ж. – Зэльв. (Сцяцко).

**Маладзіца:** *маладзіца* ж. – Чэрв. р., Лаг., Маз., Жытк., Слаўг., Хойн., Смален. р. (ТС, ГЧ, Варлыга, Дабравольскі, Насовіч, Шатэрнік), *маладзі́чка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *маладзі́цка* ж. – Жытк. (ТС), *маладу́ха* ж. – Віц. р., усх.-маг. р., Чэрв. р., Гом. р., Смален. р., Жытк. (ТС, НЛГ, Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *маладзёна* ж. – Стол. (ТС), *маладзёнка* ж. – Гом. р., Стол. (ТС, НЛГ), *мало́дка* ж., *мало́дачка* ж. памянш. – Гом. р., Мсцісл., Жытк., Смален. р. (Дабравольскі), *мло́дачка* ж. – Віц. р. (Каспяровіч).

**Пажылая ці старая жанчына, бабка**: *стара́я* ж. – Чэрв. р., Зах.-бран. р., Смарг., Гл., Чач. (ГЧ, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *ста́рка* ж. – Віц. р. (Станкевіч), *стару́ха* ж. – усх.-маг. р., Смален. р., Гродз. (СПЗБ, Бялькевіч, Дабравольскі), *стару́шка* ж. – усх.-маг. р., Мядз., Мёр. (СПЗБ, Бялькевіч), *старушо́нка* ж., *старушо́начка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *пераста́рыца* ж. – мясц. (Станкевіч), *ба́бка* ж. – Смарг., Чэрв., Хойн. (ГЧ, Насовіч, Станкевіч), *ба́ба* ж. – Смарг., Чэрв., Гл., Жытк., Кам., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, ТС, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *ба́бачка* ж. памянш. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *бабу́ля* ж., *бабу́ся* ж. – Смарг., Чэрв. (Насовіч, Станкевіч), *бабу́ха* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *ба́бухна* ж. – Смарг., Чэрв. (Насовіч, Станкевіч), *бабі́ца* ж. дакорл. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *ба́пця* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *бабушке́ра* ж. зневаж., *бабушке́рыца* ж. зневаж. – Стол., Жытк. (ТС, НС), *сіві́ца* ж. дакорл. – Смален. р. (Дабравольскі), *карга́* ж.

лаянк. – Віл. (СПЗБ), *ко́рга* ж. лаянк. – Мсцісл. (СПЗБ, З нар. сл., Насовіч), *ко́ржа* ж. лаянк. – Смален. р. (Дабравольскі), *карчага́* ж. лаянк. – Віц. (Станкевіч), *калчыга́* ж. лаянк. – Смален. р. (Дабравольскі).

### Мужчына

Асоба, процілеглая жанчыне па полу.

*мужчы́на* м. – паўдн.-усх. з., паўн.-зах. з., Смален. р. (Мат. Гродз., Мат. Гом., ГЧ, Дабравольскі, Насовіч, Цыхун, Шатэрнік, Юрчанка, Янкоўскі), *мужчы́зна* м. – Гом. р., паўн.-зах. з., Вілен. р. (СПЗБ, НЛГ, Н. сл-сць), *мужчы́ніска* м. экспр. – Слон. (ЖНС), *мужы́к* м. – усх.-пал. р., Гродз., Пух., Слаўг. (ТС, СЦБ, Мат. Гом., ГЧ, Цыхун, Янкова), *мужычы́ла* н. пагардл. – Жытк. (ТС), *чалаве́к* м. – зах.-пал. г., Астр. (СПЗБ, ТС), *чалаве́чына* м. павеліч. – Стол. (ТС, Насовіч), *дзя́дзька* м. – Гродз., Гл., Кобр., Хойн., Зах.-бран. р. (ЖНшС, ГЧ, Насовіч, Растаргуеў, Цыхун, Янкоўскі), *дзядзё* м. – Слон. (Мат. Гродз.), *дзя́дзя* м. – Смален. р. (Станкевіч, Насовіч), *дзед* м. – мясц. (Насовіч), *малажа́к* м. 'малады мужчына' – Бял. (Яўсееў), *старычо́нак* м. 'пажылы, старыкаваты мужчына' – Мсцісл. (Юрчанка).

**Малады нежанаты мужчына**: *хло́пец* м., *хло́пцы* мн., *хло́пчык* м. памянш. – агульн., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Мат. Гом., ГЧ, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Цыхун, Шатэрнік, Юрчанка, Янкоўскі), *хлапе́ц* м. – паўн.-зах. з., спарадычна паўдн.-усх. з., Віц. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч), *хлапчы́на* м., *хлапчы́нка* м. памянш. – Чэрв. р., Гом. р., Драг., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, НЛГ, Насовіч, Шатэрнік), *хлапчы́шча* н. экспр. – Слон., Жытк. (ТС), *хлапчы́ска* м. – Стол. (ЖНС), *хлапчанё* м. неадабр. – Лаг. (Варлыга), *хлапі́на* м. – Слон. (ЛАБНГ, ЖНшС), *хла́па́к* м. – Мядз. (ЛАБНГ), *хлоп* м. – Добр. (ЛАБНГ), *ма́лец* м. – паўн.-усх. д., Акц., Лун., Гродз., Латгал. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Маг., Мат. дыял. сл., ЖНшС, Бялькевіч, Растаргуеў, Юрчанка),

## 4.4. СВАЯЦКІЯ АДНОСІНЫ

### Айчым

Нярoдны бацька.

*во́тчым* м. – паўн.-усх. д. і сумежная з ім частка сярэд.-бел. г., Зах.-бран. р., Чач., Ветк., Добр., Лельч., Нараўл. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Мат. мін.-мал., НС, Бялькевіч, Шаталава, Юрчанка, Каспяровіч, Растаргуеў, Шатэрнік, Мат. апыт.), *ватчы́м* м. – Брэсц., Драг. (ЛАБНГ), *во́йчым* м. – Мядз., Смарг., Лаг., Рас. (СПЗБ, Варлыга, Насовіч, Станкевіч), *о́йчым* м. – Брасл., Астр., Валож., Паст., Смарг., Ашм., Маладз., Кам., Кобр., Пруж., Стол., Жытк. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, СЦБ, Мат. Гродз.), *айчы́м* м. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Мін. р., Рас., Чэрв., Добр., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., ЖНшС, Станкевіч), *атчы́м* м. – слуц.-маз. г., Лях., Івац., Ганц. (ЛАБНГ), *паўба́цькавік* м. – Віл. (СПЗБ), *паўба́цькавіч* м. – Віл. (ЛАБНГ).

### Брат

Сын у адносінах да другіх дзяцей гэтых жа бацькоў.

*брат* м. – агульн. (ТС, ГЧ, Мат. Гом., Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Дабравольскі, Каспяровіч, Станкевіч, Цыхун, Шатэрнік, Янкоўскі), *бра́тка* м. ласк. – Вілен. р., Віц. р., Чэрв. р., Смален. р., Стол., Жытк. (СПЗБ, ТС, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *брато́к* м. памянш.-ласк. – Зах.-бран. р., Смарг., Чэрв., Лельч. (ЛАБНГ, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч), *бра́тачка* м. ласк., *бра́цік* м. – мясц. (Насовіч), *брату́ля* м. ласк. – Віц. р. (Станкевіч), *брату́ня* м. ласк. – (Насовіч), *брату́ха* м., *брату́шка* м. – Мсціcл. (Юрчанка), *бра́тухна* м. павеліч. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *браце́йнік* м., *браце́нік* м. – Смален. р., Барыс., Асіп., Чэрык., Касц., Шум., Бярэз., Карм., Лоеў., Чач. (ЛАБНГ, Дабравольскі, Станкевіч, Янкова, Мат. апыт.), *браці́шка* м.

– Віц. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *брáцец* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *брáха* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *брáхна* м. ласк. – мясц. (Насовіч), *брáхнейка* м. памянш.-ласк. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў, Станкевіч), *пабрацéнік* м. – мясц. (Станкевіч).

**Братавая**

Жонка брата.

*брáтава(я)* ж. – пол-мін. г., паўн.-зах. з., спарадычна Маг. р., Шум., Віц., Бых., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Насовіч), *братавáя* ж. – Вілен. р., Гродз. р., Гом. р., зах.-пал. г., Пол., Кругл., Лаг., Бял., Кір., Слаўг., Жлоб., Чач., Хойн. (ЛАБНГ, Янкова, Варлыга, Мат. апыт.), *братóвая* ж. – усх.-маг. р., Ашм., Ваўк., Іўеў., Пін. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Бялькевіч), *брацíха* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ТС, СЦБ, НС, ГЧ, НЛГ, ЖНшС, Мат. Гом., Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Кучук, Станкевіч, Шатэрнік, Янкова, Янкоўскі), *брáціха* ж. – Ашм., Іўеў., Валож., Бял., Калінк. (ЛАБНГ), *брацíхá* ж. – Мін., Чэрв., Саліг. (ЛАБНГ), *брацéніха* ж. – Карм. (Мат. Гом.), *братавéнка* ж. – Ваўк. (Мат. Гродз., Сцяшковіч), *братавýха* ж. – Навагр., Дзятл., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *братóўка* ж. – Вілен. р., паўн. р., Маг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *небóга* ж. – Жытк. (ТС), *ятрóвіца* ж. – Жытк. (ТС), *ятрóўка* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *трывíнка* – Жаб. (ДСБ), *нявéстка* ж. – віц.-маг. г., усх.-маг. р. (ЛАБНГ).

**Дзевер**

Брат мужа.

*дзéвер* м. – агульн. (СПЗБ, ТС, ДСБ, ГЧ, ЖНшС, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Варлыга, Дабравольскі, Каспяровіч, Станкевіч, Федароўскі, Шатэрнік, Янкоўскі); **жонка дзевера:** *утрывíнка* ж. – Кобр. (ЖНшС), *трывíнка* ж. – Кобр. (НЛ), *ятрóўка* ж. – Лаг. (Варлыга).

## Дзядзька

Брат аднаго з бацькоў у адносінах да іх дзяцей.

*дзя́дзька* м. – агульн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., ЖНшС, Варлыга, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *дзя́дзя* м. – мясц. (Насовіч), *дзя́дзюшка* м. памянш. – Чэрв. р., Зэльв. (Сцяцко, Шатэрнік), *ву́ек* м. – Гродз. (Цыхун), *вуй* 'брат маці' – Іўеў., Астр. (СПЗБ), *вуй* м., *ву́ек* м. 'брат бацькі' – Воран. (Мат. Гродз.), *вуя́шак* м. 'дваюрадны брат бацькі або маці' – Воран. (Мат. Гродз.), *стрый* м., *стрыёк* м. 'дзядзька па бацьку' – мясц. (Насовіч).

## Жонка дзядзькі

*дзя́дзіна* ж. – агульн. (акрамя ўсх-пал. р.), Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ГЧ, ЖНС, ЖНшС, ДСБ, Мат. дыял. сл., Мат. Гродз., Бялькевіч, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік), *дзя́дзінка* ж. – усх.-маг. р., Гом. р., Смален. р., Раг., Карм., Слаўг. (ЛАБНГ, НЛГ, Мат. Гом., Дабравольскі, Насовіч), *дзя́дна* ж. – усх.-пал. р., Гом. р., Шчуч., Гродз., Браг., Светлагор. (ЛАБНГ, НЛГ, З нар. сл., Сл. Гродз., Мат. дыял. сл., Шаталава, Янкова), *дзя́дно* ж., *дзя́нно* ж. – Лельч. (Кучук), *дзя́нка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *дзя́нна* ж. – Гродз., Лун., Петр., Гл., Маз., Лельч., Жытк. (ТС, ДСБ, ГЧ, НЛ, Мат. Гом., Мат. Гродз., Шаталава, Янкоўскі), *цётка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *стрые́нка* 'жонка брата бацькі' – Латгал. р., Брасл., Астр., Іўеў. (СПЗБ), *вуе́нка* ж. 'жонка брата маці' – Іўеў., Астр. (СПЗБ).

## Залоўка

Сястра мужа.

*зало́ўка* – паўн.-усх. д., спарадычна ўсх-пал. р. і гродз.-бар. г., усх.-маг. р., Вілен. р., Чэрв. р., Смален. р., Пруж., Бяроз. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл., ЖНшС, Бялькевіч, Варлыга, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *зало́вачка* ж. памянш. – мясц. (ЛАБНГ, Насовіч), *залвіца* ж. – Вілен. р.,

Панят. р., Слуц. р., Мін. р., спарадычна Бярэз. р., Верхнядзв., Ашм., Смарг., Лід., Лаг., Паст., Пух., Тал., Бых., Калінк. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Варлыга, Федароўскі, Станкевіч), *зальвіца* ж. – Астр. (СПЗБ), *зялвіца* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *залувіца* ж. – спарадычна гродз.-бар. г. (асабліва ўсх. частка), Панят. р., Віл., Слуц., Раг., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., Н. сл-сць, Федароўскі), *залвýха* ж. – Панят. р. (Федароўскі), *заўвіца* ж. – Старадарож., Стол., Жытк., Слуц., Жлоб. (ЛАБНГ, ТС, ЖНС), *завіца* ж. – паўдн. р., Кір. (ЛАБНГ, ДСБ, ГЧ, НЛГ, Мат. Гом., Шаталава, Янкова), *зовіца* ж. – Стол., Жытк., Лельч. (ТС, НЛ, Кучук), *залавіца* ж. – Гродз., Добр. (ЛАБНГ, Цыхун), *завічка* ж. – Гом. (НЛГ), *сваячына* ж. – Лоеў. (Янкова), *ятрóўка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ).

**Зводны**

*Які даводзіцца братам ці сястрой па мачасе або айчыму.

*звóдны* прым. – Жытк., Чач. (ТС, Насовіч, Мат. апыт.), *звóдчына* ж. – Лоеў. (Янкова), *прыраджóны брат* – мясц. (Станкевіч).

**Зяць**

Муж дачкі.

*зяць* м., *зяцёк* м. памянш. – агульн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Варлыга, Дабравольскі, Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *зяцькó* м. – Лоеў. (Янкова).

**Мачаха**

Няродная маці.

*мáчаха* ж. – Чэрв. р., Віц. р., Смален. р., Астр., Навагр., Кобр., Стол., Жытк., Гл. (ТС, Мат. Гродз., ЖНшС, Дабравольскі, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *мачóха* – Кобр. (ЖНшС), *мацóха* ж. – Вілен. р., Брасл., Астр. (СПЗБ, Насо-

віч), *ма́чуха* ж. – Брэсц., Стол., Жытк., Хойн., Лаг. (ТС, ДСБ, Мат. Гом., Варлыга), *махонка* ж. – Панам. р. (Федароўскі).

## Муж сястры

*сваяк* м. – Кобр. (ЖНшС), *шва́гер* м. – Жытк. (ТС), *брата́ніч* м. – Віц. р. (Каспяровіч).

## Нявестка

Жонка сына.

*нявє́стка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, ТС, ГЧ, ЖНшС, Мат. дыял. сл., Мат. Гродз., Мат. Гом., Бялькевіч, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч, Юрчанка, Янкоўскі), *нявє́ста* ж. – Гродз. р., Паст., Астр., Шчуч., Маст., Смарг., Мёр., Барыс., Кругл., Круп., Бял. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *нявє́хна* ж. – Чэрв. р., Бабр., Лаг., Уздз., Лоеў., Стол., Жытк., Лельч. (ЛАБНГ, СЦБ, ТС, Мат. мін.-мал., Варлыга, Кучук, Насовіч, Шатэрнік, Янкова), *сы́нава* ж. – Бых., Хойн., Браг. (ЛАБНГ), *сынава́* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *сынава́я* субст. прым. – Вілен. р., Воран., Іўеў., Валож., Ваўк., Гарад., Ашм., Шчуч., Астр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *сыно́ва* субст. прым. – спарадычна паўн.-зах. з., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС), *сыно́вая* субст. прым. – мясц. (Насовіч), *нябо́га* ж. – Рэч. (Мат. Гом.), *нябо́гая* ж. – Пруж. (ДСБ), *чалядзінака* ж. – мясц. (Насовіч), *сно́хва* ж. – Смален. р. (Дабравольскі).

## Пляменнікі

Дзеці брата або сястры.

*небажаня́ты* мн. – Люб., Лях. (СПЗБ), *небажа́та* мн. – Пін. (СПЗБ); **пляменніца:** *пляме́нніца* ж. – Віц. р., Зах.-бран. р., Хойн., Жытк., Мсціcл., Чач. (ТС, ГЧ, Каспяровіч, Растаргуеў, Юрчанка, Мат. апыт.), *плямя́нніца* ж. – Навагр. (Мат. Гродз.), *пляме́ніца* ж., *плямя́ніца* ж., *пліме́ніца* ж., *плімя́ніца* ж. – Вілен. р., Латгал. р., Верхнядзв., Астр., Паст.,

Шчуч., Бярэз. (СПЗБ), *пляме́нка* ж.– Шум. (СПЗБ), *сестраніца* ж. – Вілен. р., Іўеў., Астр., Смарг. (СПЗБ), *сестра́ніца* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *нябо́га* ж. – цэнтр. з., усх.-пал. р., зах.-пал. г., Рас., Верхнядзв., Паст., Астр., Лях., Ганц., Капыл., Чэрв., Пух. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ГЧ, ДСБ, НС, СЦБ, ЖНС, ЖНшС, Мат. дыял. сл., Мат. мін.-мал., Мат. Гродз., Мат. Гом., Мат. дыял. сл., З нар. сл. Шаталава, Шатэрнік, Янкоўскі, Янкова), *нябо́жа* ж. – Хойн. (ГЧ), *дача́нка* ж. – Гродз., Шчуч., Стаўб., Бяроз. (СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., З нар. сл., Шаталава), *даччаніца* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *дачы́нка* ж. – Пруж. (ДСБ, ЖС), *брата́нка* ж. – Стол. (ТС, ДСБ), *бра́тняя* субст. прым. – Лаг., Чэрв. (Мат. мін.-мал., СЦБ); **дачка сястры:** *сястры́нка* ж., *сестраніца* ж. – мясц. (Насовіч), *сястры́чна* ж. – мясц. (Станкевіч), *сестры́чына* ж., *сестры́чна* ж. – Стол., Жытк. (ТС); **дачка брата:** *дачча́нка* ж. – Гродз., Ваўк. (Мат. Гродз., Станкевіч), *брата́нка* ж. – Стаўб., Гродз. (Мат. мін.-мал., СЦБ, Цыхун), *братаніца* ж. – Гродз., Астр., Воран. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *брата́нічна* ж. – мясц. (Станкевіч); **пляменнік:** *пляме́ннік* м. – Зах.-бран. р., Чэрв. р., Віц. р., Вілен. р., Шчуч., Лід., Лаг., Мсцісл. (СПЗБ, Каспяровіч, Растаргуеў, Шатэрнік, Юрчанка), *пляма́ннік* м. – Навагр., Гродз. (Мат. Гродз.), *пляма́нік* м. – Вілен. р., Шчуч. (СПЗБ), *пляма́ш* м. – Ашм. (Сл. Гродз.), *племе́нь* м., *племя́ш* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *сыно́вец* м. – Гродз., Свісл., Маст., Шчуч., Ваўк., Бяроз., Драг. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., З нар. сл., Станкевіч, Шаталава,), *брата́н* м. – Іўеў. (СПЗБ), *брата́нак* м. – Іўеў., Воран., Гродз. (СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун), *брата́нец* м. – Лаг., Кобр. (ДСБ, Варлыга), *брата́ніч* м. – Чэрв. р., Дзярж., Стол., Жытк. (ТС, ДСБ, НС, Станкевіч, Шатэрнік), *брато́вец* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *брацэ́нік* м. – Жытк. (ТС), *вейка́ліс* м. – Воран. (СПЗБ), *сестранэ́ц* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *сястра́н* м. – Іўеў. (СПЗБ); **сын сястры:** *сястры́нец* м. – Гродз., Лаг., Стаўб. (Сл. Гродз., Мат. мін.-мал., Насовіч, Варлыга), *сястрэ́ніч* м. – Зэльв. (СПЗБ), *сестры́чын* м. – Жытк. (ТС), *сястры́чыч* м. – мясц. (Станкевіч), *нябо́ж* м. – Чэрв. р., усх.-пал. р., Пух., Асіп., Гл., Слуц.,

Старадарож. (СПЗБ, Мат. Маг., Мат. дыял. сл., Мат. мін.-мал., Мат. Гом., ГЧ, НС, СЦБ, Янкоўскі, Янкова, Шаталава, Шатэрнік), *нябо́жа* м. – Лях., Хойн., Лоеў., Ветк. (СПЗБ, Мат. Гом., Шаталава, Янкова), *нябо́жка* м. – Браг. (Мат. Гом.), *не́баж* м. – Іван., Лун. (ДСБ), *нябо́г* м. – Петр. (Шаталава).

**Продак**

Старажытны папярэднік па роду.

*дзед* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *радзіцелі* мн. – Дубр., Гор. (ЛАБНГ), *прода́ўні* прым. 'вельмі даўні родзіч' – Жытк. (ТС ).

**Прымак**

Зяць, прыняты ў сям'ю жонкі, які жыве ў доме жонкі.

*прыма́к* м. – Зах.-бран. р., Чэрв. р., Гродз., Воран., Іўеў., Маз., Жытк., Гл. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Растаргуеў, Станкевіч, Насовіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *прыма́ка* – Вілен. р., Віц. р., Чэрв. р., Брасл., Гродз., Паст., Ашм., Смарг., Бярэз., Лаг., Докш., Валож. (СПЗБ, ЖС, Мат. дыял. сл., Мат. мін.-мал., Каспяровіч, Шатэрнік, Варлыга), *прыйма́к* м. – Зах.-бран. р., Кам., Кобр. (ЖНшС, Растаргуеў), *прыма́ч* м. – Смален. р. (Станкевіч, Дабравольскі), *прыйміч* м. – мясц. (Станкевіч, Насовіч), *пры́мін* м., *прыме́нь* м. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *пры́муш* м. – Віц. р., Смален. р. (Станкевіч, Каспяровіч, Дабравольскі), *пры́мыш* м. – мясц. (Насовіч), *баблю́к* м. – Гарад. (НЛ), *вала́зень* – Смален. р. (Дабравольскі), *заўчу́х* м. – Гродз. р. (СРЛГ), *надо́мнік* м. – Вілен. р., Паст., Астр., Брасл., Мядз., Смарг. (СПЗБ, Мат. Гродз., СЦБ), *перэбо́ра* м. 'зяць, які перабраўся жыць ад сваіх бацькоў да жончыных' – Стол. (ТС), *пры́стань* м., *прыёмых* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *прыставе́нь* м. – Гарад. (НЛ), *пры́стаўня* м. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *прыстро́м* м. – Кругл. (Мат. Маг.), *прыту́ла* м. зневаж. – Лоеў., Гом., Ветк. (Мат. Гом., Янкова), *прыту́ль* м., *прыту́ліч* м. – Кам. (ЖНС).

**Радня**

Сваякі.

*радзіві* мн. – Гродз. р. (СРЛГ); **сваяк:** *сваяк* м. – Смален. р., Дзятл., Лаг., Ваўк., Смарг., Гл., Жытк. (ТС, Мат. Гродз., Варлыга, Дабравольскі, Насовіч, Сцяшковіч, Станкевіч, Янкоўскі), *сваячанец* м., *сваячок* м. памянш. – мясц. (Насовіч), *сваятнік* м. іран. – Мсцісл. (Юрчанка), *свой* м. – Стол., Жытк. (ТС, Насовіч), *родзіч* м. – Віц. р., Смален. р., Жытк., Лоеў., Чач., Лельч., Гом., Ветк. (ТС, Мат. Гом., Кучук, Каспяровіч, Дабравольскі, Насовіч, Станкевіч, Янкова, Мат. апыт.), *радзіцель* м. – Старадарож. (ЖС), *радонак* м. – Гом. (НЛГ), *сродзіч* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *сродственнік* м., *сросцвянік* м. – Лід., Маст. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *стрыганёнак* м. – Касц. (Мат. Маг.), *фамільянт* м. – Іўеў., Шчуч., Воран. (Сл. Гродз., Мат. Гродз.), *фамілія* м. і ж. – Ашм. (Мат. мін.-мал.), *родыш* – Смален. р. (Дабравольскі), *родны* прым., *родненькі* памянш.-ласк. – Віц. р., Зах.-бран. р., Мсцісл., Хойн. (ГЧ, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Юрчанка), *радзімый* прым., *родзіму* прым. – усх.-маг. р., Стол., Жытк. (ТС, Бялькевіч), *радак* м. – мясц. (Насовіч), *зроднік* м. – Гом. (НЛГ), *адростак* м. – Бял. (Яўсееў), *отродок* м. – Стол., Жытк. (ТС), *пакрыўнік* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *бліскі* прым., *блізкі* прым. – Брасл., Гом. (СПЗБ, НЛГ), *кроўны* прым. – мясц. (Насовіч), *крэўны* прым. – Хойн. (ГЧ), *сваячны* прым. – Свісл. (Сл. Гродз.), *прычэпны* прым. 'сваяцкі' – Стол. (ТС); **кроўны сваяк:** *крывінка* ж. – Гом. (НЛГ), *крывіч* м., *крывічка* ж. – Стол. (ТС), *крэўны* – Віц. р., Чэрв. р., Лоеў., Хойн. (ГЧ, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкова, Насовіч), *ражоны* прым. – Гом. р. (НЛГ, Насовіч), *раджоны* прым. – мясц. (Насовіч), *родны* прым. – Вілен. р., Чэрв. р., Зах.-бран. р., Верхнядзв., Валож., Лід., Астр., Гом. (СПЗБ, Мат. Гом., Растаргуеў, Шатэрнік), *радны* прым. – Брасл. (СПЗБ), *радзімы* прым. – мясц. (Насовіч), *сросьцьвіннік* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *фамільяк* м. – Гродз. р. (СРЛГ), *фамільянец* м., *фамільянт* м., *фаміліят* м., *фамільят* м.– Воран., Барыс., Ашм., Іўеў., Вілен. р. (СПЗБ); **сваячка:** *сваячка* ж. – Валож., Пруж., Стол., Маз. (СПЗБ, СПЗБ, ТС, ГЧ,

Шатэрнік), *сваякіня* ж. іран. – Мсцісл. (Юрчанка, Насовіч), *сваякіня* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *сваячаніца* ж. – мясц. (Насовіч), *сваяшніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *сваячына* ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *свая* прым. – Брасл. (СПЗБ, Станкевіч), *краўнячка* ж. – Стаўб., Смарг. (СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал.), *кузынка* ж. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *родзічка* ж. – Зах.-бран. р., Жытк., Браг., Лоеў., Чач. (ТС, Мат. Гом., Растаргуеў, Янкова, Мат. апыт.), *нябога* ж. – Маз. (Мат. Гом.).

## Сваты

Бацькі мужа ў адносінах да жончыных ці бацькі жонкі ў адносінах да мужавых бацькоў.

*свахі* мн. – Гродз. р., поўдзень гродз.-бар. р., поўнач зах.-пал. г., Верхнядзв., Гар., Астр., Бял., Бярэз., Асіп., Кір., Раг., Пух., Слуц., Чэрв., Краснап., Карм., Браг., Лельч. (ЛАБНГ), *сваціі* мн. – Навагр., Карэл., Стаўб. (ЛАБНГ), *сваці(ц)і* мн. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., Гом. р., спарадычна гродз.-бар. г., Івац., Хойн. (ЛАБНГ); **сваха:** *свацця* ж., *сваццья* ж., *сваця* ж. – Зах.-бран. р., Верхнядзв., Глыб., Чэрв., Віл., Мядз., Шчуч., Брасл. (СПЗБ, Растаргуеў, Насовіч), *сваха* ж. – Смален. р., Бар., Беластоц. р., Гродз., Стол., Жытк., Навагр., Слон., Буда-Каш., Хойн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Дабравольскі), *свахна* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *сваішка* ж. – Гом., Стол. (ТС, НЛГ, Насовіч), *сванка* ж. – мясц. (Насовіч), *сваціея* ж. – Нясв. (СПЗБ), *сванька* ж. – Воран., Дзятл., Зэльв., Лоеў. (Мат. Гродз., Сцяцко, Янкова), *касянка* ж. – Браг. (Мат. Гом.); **сват:** *сват* м. – Чэрв. р., Смален. р., Навагр., Астр., Лях., Дзятл., Браг., Буда-Каш., Стол., Жытк., Мсцісл. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ГЧ, Дабравольскі, Юрчанка, Шатэрнік).

## Свёкар

Бацька мужа.

*свёкар* м. – Вілен. р., Астр., Мядз., Віл., Чэрв., Пруж., Стол., Старадарож., Гл., Хойн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., ЖНшС, Станкевіч, Янкоўскі), *свёкарка* м. памянш. – Гом.

(НЛГ, Насовіч), *свéкар* м. – Смарг., Віл., Лаг., Кобр., Лоеў. (СПЗБ, ЖНшС, Варлыга, Янкова), *свякóр* м. – Вілен. р., Смален. р., Астр. (СПЗБ, Мат. Гродз., Дабравольскі), *свякрáтак* м. – мясц. (Насовіч), *свякрáтка* м. ласк. – Гом. (НЛГ), *спадзін* – Смален. р. (Дабравольскі).

## Свякроў

Маці мужа.

*свякрóў* ж. – пераважна зах. з., спарадычна паўн.-зах. з., Смален. р. (ДАБМ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЖНшС, Варлыга, Дабравольскі, Федароўскі), *свякрóўка* ж. – паўн.-зах. з., Вілен. р., Лоеў., Гом., Мсцісл. (СПЗБ, ДАБМ, Мат. Гродз., НЛГ, Федароўскі, Юрчанка, Янкова), *свякрóва* ж. – пераважна віц.-маг. г., усх.-маг. р. (ДАБМ, ГЧ, Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, Юрчанка), *свякрýха* ж. – пераважна паўдн.-усх. з., спарадычна Мін. р., Чэрв. р., зах.-пал. г., Зах.-бран. р. (ДАБМ, СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Федароўскі, Шатэрнік, Янкоўскі), *свякрýхна* ж. – Пін., Гом., Мсцісл. (ДАБМ, НЛГ, Юрчанка), *свякрýшка* ж. – Гом. (НЛГ), *свякрá* ж. – Смален. р., Іўеў., Лоеў. (СПЗБ, Дабравольскі, Янкова), *сьвякрывя́* ж. – мясц. (Станкевіч), *свекрэвíха* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *свекры́* ж. – Лун. (ДАБМ), *свёкры* ж. адз. – Лун., Пін. (ДАБМ), *сьвекратка* ж. – Паням. р. (Федароўскі), *спажá* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *цéсцева* ж., *цесцéва* ж. – Воран. (ДАБМ), *мамýля* ж. – Кругл. (Мат. Маг.).

## Стрыечная сястра

Дачка дзядзькі або цёткі.

*братáнка* ж. – Стол. (НС), *брацéнніца* ж. – Кам. (ДСБ), *дваюрадная* прым. – Кобр. (ЖНшС), *пасёстра* ж. – Зах.-бран. р., Чэрык., Лоеў., Буда-Каш., Стол. (ТС, Мат. Маг., Мат. Гом., Растаргуеў, Станкевіч), *сеструха* ж. – Чэрв. (ЖС), *сястрóнка* – Чэрв. р., Пух. (СПЗБ, Шатэрнік), *сяструнка*

ж. – Гл. (Янкоўскі), *сястру́ха* ж. – Віц. р., Бярэз., Раг., Барыс., Круп., Бял., Кліч. (СПЗБ, ЖС, Мат. дыял. сл., Каспяровіч), *сястру́хна* ж. – Лях., Пух., Люб. СПЗБ), *сястру́шка* ж. – Шкл., Чач. (Мат. Маг., Мат. апыт.), *сестру́хна* ж. – Лельч. (Кучук), *дзя́дзькавічна* ж. 'дачка дзядзькі' – мясц. (Станкевіч), *стрые́чка* ж. 'дачка дзядзькі' – мясц. (Насовіч), *брацé́нніца* ж. 'дваюрадная ці траюрадная сястра' – Карм. (Мат. Гом.).

## Стрыечны

Які знаходзіцца не ў прамым сваяцтве, дваюрадны.

*стрые́чныя, стрые́шныя, стрэ́шныя, стрыдэ́чныя, стрэ́днія, стрэ́дныя, стрэ́нныя* мн. – зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., ГЧ, Насовіч), *страе́чны* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *стрыне́чны* прым. – Свісл. (Шаталава), *пе́ршай стрэ́чы, пе́рша(я) стрэч, першастрэ́чныя* мн., *у пе́ршай стрэ́чы* – зах. з. (ЛАБНГ), *пе́ршыя стэрні* – Кобр. (ДСБ), *пе́рвай стрэ́чы* – Іўеў. (ЛАБНГ), *пе́ршы стры́нь* – Бяроз., Пін., Драг. (ЛАБНГ), *дваю́радны, дваяро́дны, дваю́рны* прым. – Гом. р., сярэд.-бел. г., спарадычна зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Янкова), *дваюро́дныя* мн. – пал. р., Ушацк., Слуц., Жлоб., Буда-Каш., Мсціс. (ЛАБНГ, ТС), *збрадзе́цi* мн. – Ушац., Глыб., Віл., Мін., Пух., Івац. (ЛАБНГ), *збратдзе́цi* мн. – Віл. (СПЗБ), *збрат-дзе́цi,* адз. няма. – Лаг. (Станкевіч, Варлыга, Насовіч), *збрадзе́тны* прым. – Смарг. (Сл. Гродз., Станкевіч).

## Стрыечны брат

Сын дзядзькі або цёткі.

*братко́* м. – Лельч. (НЛ, Кучук), *брата́ніч* м. – Стол. (НС), *брацé́льнік* м. – Лаг., Чэрв., Мсціс. (СЦБ, Мат. мін.-мал., Юрчанка), *брацé́нік* м., *брацé́ньнік* м. – Чэрв. р., Віц. р., усх.-маг. р., Зах.-бран. р., Смален. р., Ашм., Круп., Гл., Зэльв., Раг., Бярэз. (СЦБ, Мат. дыял. сл., Бялькевіч, Растаргуеў,

Сцяцко, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *брацiш* м. – Рэч. (Мат. Гом.), *брóшэнь* – Лельч. (Кучук), *брашэ́нь* – Стол. (ЖНшС), *крэ́ўнік* м., *стрэдня́к* м. – Жытк. (ТС), *стрэ́нні* прым. – Пух., Гл. (З нар. сл., Янкова), *стрэ́дні* прым. – Стол., Жытк. (ТС), *стрэ́чны* прым. – Навагр. (Мат. Гродз.), *стрэ́шны* прым. – мясц. (Насовіч), *дзя́дзькавіч* м., *дзядзьке́віч* м. 'сын дзядзькі' – мясц. (Станкевіч); *пабрацíм* м. 'названы брат' – Жытк. (ТС, Станкевіч).

## Ступень сваяцтва

*стрэ́ча* ж. – Гл. (Янкоўскі), *пяцяры́чка* ж. 'сваяцтва ў пятай стрэчы' – Воран. (Мат. Гродз.), *збратні* прым. 'родны па брату' – мясц. (Насовіч).

## Сястра

Кожная з дачок у адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў.

*сястра́* ж. – агульн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. дыял. сл., Мат. Гом., Мат. Гродз., Дабравольскі, Каспяровіч), *сястры́ца* ж. – Віц. р., Смален. р., Дзятл., Смарг., Чаш., Буда-Каш. (Мат. Гом., Мат. Гродз., Дабравольскі, Каспяровіч), *сястры́цка* ж. памянш. – Верхнядзв. (СПЗБ), *сястру́ля* ж. – Гл., Шкл. (Мат. Маг., Станкевіч, Янкоўскі), *сястру́ха* ж. – Зах.-бран. р., Барыс., Бярэз., Мсцісл. (ЛАБНГ, Растаргуеў, Юрчанка), *сястру́хна* ж. – Круп., Бярэз., Мсцісл. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *сястру́шка* ж. – Смален. р., Шум., Віц., Чач. (ЛАБНГ, Дабравольскі), *сёстра* ж. – Лоеў. (Янкова).

## Хросная маці

Жанчына, якая ўдзельнічае ў абрадзе хрышчэння дзіцяці.

*хрышчóная матка, маці, мама* – Вілен. р., Лід., Ашм., Смарг., Карэл., Бар., Кобр. (СПЗБ, ЖНшС, Станкевіч), *хрóсная ма́ці, ма́тка, хрэ́сная ма́ці, ма́ма* – Вілен. р., Смарг.,

Шчуч., Астр. (СПЗБ), *хрышчо́на* ж. – Шчуч. (СПЗБ), *хрышчо́нка* – Бяроз., Малар., Драг. (ДСБ, Мат. апыт.), *хро́сніца* ж. – Гл., Старадарож. (Янкоўскі, Мат. апыт.), *матка кро́сная* – Буда-Каш. (ГЧ), *матка хросная* – Смален. р., Слаўг. (ГЧ, Дабравольскі), *мату́ля* ж. – Маст., Зэльв., Валож., Мядз., Барыс., Глыб. (СЦБ, Мат. мін.-мал., Сл. Гродз., Сцяцко, Мат. апыт.), *мату́ся* ж. – Стол., Круп. (ДСБ, СЦБ); **хросная маці ў адносінах да хроснага бацькі і да бацькоў хрэсніка:** *кума́* ж. – агульн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Юрчанка, Янкоўскі), *куміца* ж. – Лоеў. (Янкова), *куму́ся* ж. – Уздз. (Мат. мін.-мал.).

## Хросны бацька

Мужчына, які ўдзельнічае ў абрадзе хрышчэння дзіцяці.

*хрышчо́ны ба́цька* – Чэрв. р., Лід., Смарг., Пруж., Кобр. (СПЗБ, ЖНшС, Станкевіч, Шатэрнік), *хро́сны* прым. – Віц. р., Жытк. (ТС, Каспяровіч, Насовіч), *хро́снік* м. уст. – Шкл., Гл. (Мат. Маг., Янкоўскі), *кро́сны* прым. – Буда-Каш. (ГЧ), *крэ́сны* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *та́тусь* м. – Стол., Кругл. (ТС, ДСБ, Мат. Маг.), *тату́сь* м. – Віц. р. (Каспяровіч), *тату́ська* м. – Шкл. (Мат. Маг.), *тату́ля* м. – Беластоц. р., Віл., Маст., Зэльв. (СПЗБ, ЖНшС, Сл. Гродз., Сцяцко), *та́тка хросны* – Слаўг. (ГЧ), *ба́цько хросны* – Браг., Жытк. (ТС, ГЧ); **хросны бацька ў адносінах да хроснай маці і да бацькоў хрэсніка:** *кум* м. – агульн. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Шатэрнік, Юрчанка, Насовіч, Янкоўскі), *куманёк* м. ласк. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *кумо́к* м. памянш. – Чэрв. р. (Шатэрнік, Насовіч), *куме́н* м. – Лоеў. (Янкова).

## Хрэснік

Хросны сын у адносінах да хросных бацькоў.

*хрэ́снік* м. устар. – Смален. р., Віц. р., Астр., Мсцісл. (Мат. Гродз., Дабравольскі, Каспяровіч, Юрчанка), *хро́снік* м.,

*хросьнічак* м. памянш. – Паст., Гл., Мсцісл. (СПЗБ, Янкоўскі, Юрчанка), *кроснік* м. – Лельч. (Кучук), *хрышчонік* м. – Дзятл., Гл. (Сл. Гродз., Янкоўскі), *хрышчэнік* м. – Чэрв. р., Лаг., Стол., Жытк., Хойн., Старадарож. (ТС, Станкевіч, Шаталава, Шатэрнік, Мат. апыт.), *хрышчэннік* м. – Віл., Лаг. (СПЗБ, Варлыга).

## Хрэсніца

Хросная дачка ў адносінах да хросных бацькоў.

*хрэсніца* ж. – Латгал. р., Віц. р., Мсцісл., Чач. (СПЗБ, Каспяровіч, Насовіч, Юрчанка, Мат. апыт.), *хрышчонка* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *хрышчэніца* ж. – Чэрв. р., Лаг., Жытк., Лоеў., Старадарож. (ТС, Янкова, Станкевіч, Шатэрнік., Мат. апыт.), *храснячка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ).

## Цесць

Жончын бацька.

*цесць* м. – Віц. р., усх.-маг. р., Дзятл., Лаг., Стол., Жытк. (ТС, Мат. Гродз., Бялькевіч, Варлыга, Насовіч, Каспяровіч), *цесцюхна* м. – Лоеў., Гом. (Янкова, НЛГ), *цёсць* м. – Лід. (СПЗБ), *цясьцёў* – Віц. р. (Каспяровіч), *тэсць* м. – Вілен. р., Воран., Гродз., Пруж. (СПЗБ, Мат. Гродз., Насовіч), *тэсь* м. – Вілен. р. (СПЗБ).

## Цешча

Жончына маці.

*цешча* ж. – асн. мас. г. (акрамя Слуц. р.), Смален. р., Маг. р., Кобр., спарадычна усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., ЖНшС, Бялькевіч, Дабравольскі, Варлыга, Насовіч, Шатэрнік), *цёшча* ж. – усх. з., спарадычна гродз.-бар. г., Пруж., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖНшС, Каспяровіч), *чэшча* ж. – Слуц. р., Шум., Асіп., Пух., Ганц., Лун., Стол., Жытк., Петр., Лельч., Акц., Гл., Маз., Гом. (ЛАБНГ, СПЗБ,

ДСБ, ТС, НЛГ), *тэ́шча* ж. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *тэ́сця* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *тэсцёва* ж. – Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *тэ́сцева, тэ́сцевая, тасцёва, тасцява, тасцява́я* субст. прым. – Вілен. р., Іўеў., Гродз., Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ).

### Цётка

Сястра аднаго з бацькоў у дачыненні да іх дзяцей.

*цётка* ж. – агульн. (СПЗБ, ТС, Мат. Гом., Мат. Гродз., ГЧ, Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік, Юрчанка), *цётачка* ж. памянш. – Чэрв. р., Чач. (Мат. Гом., Насовіч, Шатэрнік), *цётушка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *цёця* ж. – Шчуч., Віл., Брасл., Ашм. (СПЗБ), *цёцечка* ж. памянш. – Смален. р. (Дабравольскі), *ву́енка* ж. 'дваюрадная сястра бацькі або маці' – Воран. (Мат. Гродз.).

### Швагер

Брат жонкі.

*шва́гра* м. – Віц. р., усх.-маг. р., Латгал. р., Глыб., Смарг., Маладз., Мін., Гл. (СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч, Янкоўскі), *шва́гер* м. – Смален. р., Вілен. р., Латгал. р., Воран., Смарг., Дзятл., Слон., Воран., Шчуч., Валож., Нясв. (СПЗБ, Мат. Гродз., Дабравольскі, Насовіч), *швагóр* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *швагру́сь* м. зневаж. – Зэльв. (Сцяцко), *шур'я́к* м. – Смален. р., Зах.-бран. р. (Дабравольскі, Растаргуеў), *шура́к* м. – Бял., Уздз., Стол., Лельч. (ТС, Мат. мін.-мал., Кучук, Яўсееў), *шу́рын* м. – Чач. (Мат. апыт.), *шур* м., *шур'я́нка* м. ласк. – Гом. (НЛГ).

### Швагерка

Сястра жонкі.

*шваге́рка* ж. – Вілен. р., Чэрв. р., Астр., Верхнядзв., Лях. (СПЗБ, Мат. Гродз., Шатэрнік, Насовіч), *шва́герка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *швагрэ́ня* ж. – Мсцісл. (Юрчан-

ка), *свесць* ж. – Чэрв. р., Лоеў., Стол. (ЖНшС, Шатэрнік, Янкова),

### Ятроўка

Жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата.

*ятро́ўкі* мн. – асн. мас. г. (акрамя віц.-маг. р.), Гор., Мсцісл., Бял., Быx., Слаўг., Пруж., Бяроз., Івац. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл., ГЧ, Каспяровіч, Янкоўскі), *ятра́ўкі* мн. – спарадычна гродз.-бар. г., цэнтральная частка пал. р. і ўсх. частка зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *ятро́шкі* мн. – Кам., Брэсц., Малар. (ЛАБНГ), *ятро́віцы* мн. – Раг., Лоеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ятро́віца* ж. – Лоеў. (Янкова), *ятрыно́ўка* – Кам. (ЖНшС, ЛАБНГ), *вятро́ўка* ж., *вятро́ўкі* мн. – гродз.-бар. г., Івац. (ЛАБНГ, ТС, Мат. мін.-мал., Мат. Гродз., СЦБ, ЖС, Цыхун), *братаву́хі* мн. – Стаўб. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *трыві́нкі* мн. – Жаб. (ЛАБНГ), *няве́сткі* мн. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *патро́вкы* мн. – Пін. (ЛАБНГ).

## 4.5. ЧАЛАВЕК БЕЗ СЯМ'І

### Адзінокі чалавек

Які не мае сям'і, блізкіх.

*бабы́ль* м. 'адзінокі чалавек' – цэнтр. з., Маг. р., спарадычна ўсх.-маг. р. і паўн. р., Жаб., Малар., Стол. (ЛАБНГ, СЦБ), *бабы́ль* м. 'чалавек, які не меў ні сям'і, ні маёмасці' – асн. мас. г., за выключэннем захаду паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, Станкевіч), *бабу́ль* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *бобыль* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *адзін* ліч. – Навагр., Віл., Гродз. (СПЗБ), *адзінец* – Віц. р., усх.-маг. р. (Бялькевіч, Каспяровіч), *адзіно́кі* прым. – Чэрв. (СПЗБ, Насовіч), *адзінок* м. – Іўеў. (СПЗБ), *адзіно́чка* ж. 'той, хто жыве адзін, адна' – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *безро́дны* прым. – Ашм., Калінк. (СПЗБ), *безуро́днік* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *скі́тнік* м. – Лоеў. (Янкова); *ку́тнік* м. – паўн.-зах. з., Кір., Бяроз., Лельч. (ЛАБНГ), *падсу́сед* м. – усх.

частка зах-пал. г., гродз.-бар. г. (акрамя Гродз. р.), Чэрв., Бабр. (ЛАБНГ), *падсусе́д* м. – Лях., Лун., Люб. (ЛАБНГ), *падсусе́дак* м. – Гор., Люб., Маладз., Лельч. (ЛАБНГ), *падусусе́дак* м. – Шчуч. (ЛАБНГ), *падсусе́днік* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *зімаго́р* м. – Гродз. (Цыхун).

## Жанчына, якая скасавала шлюб

*разво́дка* ж. – Віц. р., Зах.-бран. р., Смален. р., Зэльв., Маз., Добр., Хойн. (Мат. Гродз., Мат. Гом., ГЧ, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў), *разво́дніца* ж. – Гом., Жытк., Петр., Браг., Зэльв. (НЛГ, Н. сл-сць, Мат. Гом.), *развядзёнка* ж. – Гом., Рас. (НЛГ, Мат. Гом., Шаталава), *раз-ве́дзенка* ж. – Жлоб. (Мат. Гом.), *разве́дзеная* прым. – Чач. (Мат. апыт.), *развадзе́льніца* ж. – Дзятл. (ЖС), *развту́ха* ж. – Кругл., Светлагор. (Мат. Маг., Мат. Гом.), *разводна́я* прым. – Гом., Браг., Добр. (Мат. Гом.), *распуска́нка* ж. – Браг., Лоеў. (Мат. Гом., Янкова), *разжэ́нка* ж. – Буда-Каш., Карм., Ветк.,Чач. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *разлу́чніца* ж. – Бял., Навагр., Жлоб., Карм., Буда-Каш., Гл. (НС, Мат. дыял. сл., Мат. Гродз., Мат. Гом., Янкоўскі), *разлуча́нка* ж. – Рэч. (Мат. Гом.), *разлучэ́нка* ж. – Буда-Каш. (Мат. Гом.), *роскі-данка* ж. – Брэсц. (НЛ), *панэ́тка* ж. – Кобр. (ДСБ).

## Жанчына, якую пакінуў муж

*пакіда́нка* ж. – Кобр., Іван., Стол., Лун., Кам., Драг. (ТС, ЖНшС, ДСБ, Шаталава, Мат. Гом., Мат. апыт.), *пакіда́чка* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *покідэ́нка* ж. – Лун. (ДСБ, Шаталава).

## Мужчына, які скасаваў шлюб

*развадны́* прым. – Слон. (Мат. Гродз.), *разво́дны* прым. – Гом., Браг., Добр., Жлоб. (Мат. Гом.), *разво́днік* м. – Гродз., Зэльв., Бар., Дзятл., Гарад., Петр., Гом., Кобр. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гом., Мат. Гродз.), *разво́дчык* м. – Гарад., Маз. (СПЗБ, Мат. Гом.), *разво́дзец* м. – Хойн. (Мат. Гом.), *развядзе́нец* м. – Верхнядзв., Жлоб. (СПЗБ, Мат. Гом.), *развя-*

*дзён* м. – Гом. (НЛГ), *развядзёнец* м. – Браг., Рас. (Мат. Гом., Шаталава), *разв́адзе́льнік* м. – Дзятл. (ЖС), *развадзя́га* м. – Светлагор., Гом., Добр., Жытк. (Мат. Гом.), *развадзя́ка* м. – Добр. (Мат. Гом.), *разлу́чнік* м. – Навагр., Бял., Калінк., Гл. (НС, Мат. Гом., Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Янкоўскі), *разлуча́нец* м. – Рэч. (Мат. Гом.), *разлучэ́нец* м. – Буда-Каш. (Мат. Гом.), *распуска́нец* м. – Лоеў. (Янкова), *разжэ́ня* м. – Клім., Хоц., Касц. (Мат. Маг.), *разжэ́н* м., *разжо́н* м. – усх.-маг. р., Ветк., Буда-Каш., Чач. (Мат. Гом., Бялькевіч, Мат. апыт.).

### Мужчына, якога пакінула жонка

*пакіда́нец* м. – Стол., Кобр., Бяроз., Пін., Лун., Драг. (ТС, ДСБ, Шаталава, Мат. апыт.), *пакідэ́нец* м. – Лун. (ДСБ), *пакіда́лец* м. – Пух. (СЦБ), *пакі́нька* м. – Слуц. (ЖНшС).

## 4.6. ПАЗАШЛЮБНЫЯ АДНОСІНЫ

### Палюбоўнік

Мужчына, які знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі з жанчынай.

*палюбо́ўнік* м. – усх.-маг. р., Віц. р., Чэрв. р., Гл., Лаг. (Варлыга, Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *каха́нак* м. – мясц. (Насовіч), *каха́нік* м. – Слон. (Сл. Гродз.), *каха́нец* м. – усх.-маг. р., Стол., Жытк. (ТС, Бялькевіч, Станкевіч), *бахо́р* м., *баху́р* м. – Зах.-бран. р., Стол., Жытк. (ТС, Растаргуеў), *ба́хар* м. – усх.-маг. р., Віц. р., Буда-Каш. (Мат. Гом., Бялькевіч, Станкевіч, Каспяровіч), *любе́знік* м. – Стол. (ТС), *лю́бчык* м. – Жытк. (ТС), *ла́хар* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *гах* м. – Брэсц. (ДСБ), *ха́баль* – Мін., Астр., Слон. (СПЗБ, ЖНшС), *ха́ель, хо́баль* м. зневаж. – Мін., Астр. (СПЗБ), *дружо́чак* м. – Лоеў. (Янкова); *аблю́бак* м. ’пакінуты каханак’ – Мсцісл. (Юрчанка).

## Палюбоўніца

Жанчына, якая знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі з мужчынам.

*палюбоўніца* ж. – Чэрв. р., Смален. р., Стол., Жытк., Хойн., Гл. (ТС, ГЧ, Дабравольскі, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *каханка* ж. – Чэрв. р., Лаг., Гл. (Варлыга, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі,), *бáхурка* ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *зазнóбушка* ж. – усх.-маг. р. (Бяльевіч), *любéзніца* ж. – Стол. (ТС), *крáля* ж. іран. – Мсцісл. (Юрчанка), *падлóжніца* ж. – Гом. (НЛГ), *ухажóрка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка).

## 5. НАЗВЫ ЧАЛАВЕКА ПА НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ І МЕСЦЫ ПРАЖЫВАННЯ

### Вясковыя жыхары

*валасція́нін* м., *валасця́нка* ж. – мясц. (Насовіч), *валашча́нін* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *ве́ські* прым. м. – Гом. р. (НЛГ), *вяско́вы* прым. м. – Паст. (ЛАБНГ), *вяско́ўцы* мн., *вяско́вец* м. – Глыб., Віл. (ЛАБНГ, ЖНшС), *вясня́к* м., *вясня́чка* ж. – мясц. (Насовіч), *дзераве́нец* м. – Мсцісл., Карм. (Юрчанка, Мат Гом.), *селавы́* прым. м. – Зэльв. (Сцяцко), *сяло́* зб. н. – Стол., Жытк. (ТС), *сяля́нне* зб. н., ’сялянства’, – Стол. (ТС).

### Жыхары гарадоў

*гарадзя́не* мн. – зах.-пал. г. (Мат. апыт.), *гарадскі́* прым. м. – агульн. (Мат. Гродз., Юрчанка, Мат. апыт.), *ме́скі* прым. м. – мясц. (Насовіч), *ме́ські* прым. м. – Маг. р., зах-пал. г. (Насовіч, Мат. апыт.).

### Жыхары мястэчак

*местачко́вы* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік, Насовіч), *мяшчане* мн., *мешчанін* м., *мяшча́нка* ж. – Зэльв., Гл., Драг., Стол., Жытк. (Янкоўскі, Сцяцко, ТС, Мат. апыт.).

### Жыхары памежжа

*гранічнік* м. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *укра́ін-нік* м. – мясц. (Насовіч), *укра́інны* прым. м. – мясц. (Насовіч).

## Жыхары пасёлкаў

*пасёлкавец* м. – Лаг. (Мат. мін.-мал.), *пасялко́вец* м. – Гл. (Янкоўскі).

## Карэнныя жыхары

*векавіты* м. – мясц. (Насовіч), *гра́ма* м. і ж., *гра́мма* м. і ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *дама́шні* м. – Лоеў. (Янкова), *даўне́йшыя людзі* мн., *даўне́йшы* прым. м. – Чач. (ГЧ), *дзе́дзіц* м. – Слуц. (ЖНшС), *зараджо́ны* прым. м. – Жытк. (ТС), *здзе́чны* прым. м. – Лоеў. (Янкова), *здзе́шні* прым. м. – Пух., Чэрв., Бял., Асіп., Чэрык., Краснап., Ваўк., Кам., Брэсц., Драг. (ЛАБНГ), *здэ́чны* прым. м. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *здэ́шны* прым. м. – Уздз. (СЦБ), *ко́лішнік* м. – Жытк. (ТС), *мейсцо́вы* прым. м. – мясц. (Насовіч), *ме́сны* прым. м. – усх. з., зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г., Глыб. (ЛАБНГ), *на́скі* прым. м. – Брасл., Паст., Светлагор. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл.), *на́ські* прым. м. – паўн.-усх. д., Гом. р., усх.-пал. р, Мядз., Віл. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Насовіч, Юрчанка), *наш* м. – спарадычна агульн., акрамя Слуц. р. і паўн.-заходн. часткі паўн.-зах. зоны. (ЛАБНГ), *на́шанец* м., *на́шынец* м., *на́шчынец* м. – Віц. р., Мсцісл., Лоеў. (Каспяровіч, Янкова, З нар.сл.), *на́шкі* прым. м. – Гар. (ЛАБНГ), *прыраджэ́нец* м., *прыраджэ́нка* ж. – Лоеў. (Насовіч, Станкевіч, Янкова), *прыро́дны* прым. м. – Дзятл., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *радзі́мец* м. – Жытк. (ТС), *свой* м. – Верхнядзв., Слаўг., Жаб., Ветк., Нараўл., Лельч. (ЛАБНГ), *ту́балец* м., *ту́былец* м., *ту́баліца* ж., *ту́балка* ж., *ту́булка* ж. – Івац., Іван., Пін., Стол., Жытк., Мазыр. (ЛАБНГ, ТС, ГЧ, ЖНшС), *тубы́лец* м. – Мсцісл. (Насовіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *ту́былнец* м. – Стол. (ЛАБНГ), *ту́былнік* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ту́лубка* ж. – Жытк. (ТС), *ту́ташні* м. – Віц. р., Верхнядзв., Мёр., Раг., Буда-Каш., Добр., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Насовіч, Каспяровіч, Растаргуеў), *туто́шні* м. – Гарад. (ЛАБНГ), *тутэ́йсні* м. – Стол., Жытк. (ТС), *тутэ́йшы* м. – агульн., акрамя усходніх ускраін. (ЛАБНГ, ТС, Насовіч. Федароўскі, Каспяровіч), *тутэ́чны*

м. – Паўн. р. (ЛАБНГ), *ту́тэшні* м. – Стол., Жытк. (ТС), *тутэ́шні* м. – Пол., Мсцісл., Брэсц. (ЛАБНГ, Насовіч, Юрчанка), *тутэ́шны* м. – Клім. (ЛАБНГ).

## Назвы жыхароў, якія жывуць у канцы паселішча

*адлю́днік* м. 'той, хто жыве на водшыбе, далёка ад населенага пункта' – Гродз. (Цыхун), *загуме́нны* прым. м. 'чалавек, які жыве за вёскай' – Зэльв. (Сл. Гродз.), *канцаві́к* м., *канцаві́чка* ж. – Дзятл., Шчуч. (Сл. Гродз.), *канцавы́* прым. м. – Віц. р., Ваўк., Слон. (Каспяровіч, Мат. Гродз., Сл. Гродз.), *канча́не* мн., *канча́нец* м. – Віц. р., Дзятл., Бял., Гл. (Каспяровіч, Янкоўскі, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл.), *канча́нскі* прым. м. – Гл. (Янкоўскі), *канчуля́нец* м. – Карэл. (З нар. сл.).

## Назвы людзей па месцы пражывання

*амарыка́нец* м. 'беларус, які доўга жыў у Амерыцы' – мясц. (Станкевіч), *багнюкі́* мн., *багню́к* м., *багню́чка* ж. 'жыхары забалочаных мясцовасцей' – Драг. (Мат. апыт.), *балацюкі́* мн., *балацю́к* м. 'жыхары забалочаных мясцовасцей' – Драг. (Мат. апыт.), *бало́цянка* ж. 'жыхарка з забалочанай мясцовасці' – Драг. (Мат. апыт.), *валы́нцы* мн., *валы́нчык* м., *валы́начка* ж. 'прадстаўнікі этнічнай групы ўкраінцаў (валынцы)' – Мядз., Кругл., Драг. (Насовіч, Мат. апыт.), *васто́чнік* м. *васто́чніца* ж. 'беларусы з усходняй Беларусі' – Бар. (СПЗБ), *гайдама́к* м. 'казак' – Смален. р. (Дабравольскі), *гаравы́* м. 'жыхар з узвышанай мясцовасці' – Лаг. (Варлыга), *гара́нін* м. 'горац' – Вілейскі павет (Станкевіч), *до́ншчык* м. 'данскі казак' – Гом. р. (НЛГ), *загаро́дцы* мн. 'жыхары паўднёвых раёнаў Брэсцкай вобласці' – Драг., Пін., Стол. (З нар. сл., Мат. апыт.), *замшукі́* мн. 'жыхары навакольляў Турава' – Жытк. (ТС), *зарача́нін* м., 'чалавек, які жыве за ракой' *зарача́нскі* прым., м. – Мсцісл. (Юрчанка); *зарэ́цкі* прым., м. – Свісл., Смален. р. (Сл. Гродз., Дабравольскі); *зарэ́чны* м. – Свісл. (Сл. Гродз.). *каза́к* м. 'казак' – агульн. (Станкевіч, Мат апыт.), *карча́вы* м. 'чалавек, які жыве на раскарчаванай зямлі' – Іўеў. (Сл. Гродз.), *карэ́йка*

ж. ’жанчына карэйскай нацянальнасці’ – Гл. (Янкоўскі), *кацапы* мн., *кацап* м. 1. ’рускія’ – мясц. (Станкевіч); 2. ’старабрадцы’. – Вілен. р. (СПЗБ), *келбаснік* м. зневаж. ’немец’ – Маг. р. (Насовіч), *клэўсь* м. зневаж. ’літовец’ – Воран. (СРЛГ), *крывічане* мн. ’крывічы (старадаўняе ўсходнеславянскае племя)’ – мясц. (НЛГ), *лазавік* м. ’жыхар балотных мясцін’ – Чэрв., Пух. (Шатэрнік, Станкевіч, Мат. апыт.), *лесавыя* мн., *лесавы* м. ’пра людзей, якія жывуць у лясах, каля лесу’ – Кам., Драг. (ЖНшС, Мат. апыт.), *лецвяк* м. ’літовец’ – Вілен. р. (СПЗБ), *літвін* м., *ліцвін* м. ’літовец’ – Вілен. р., Панямм. р., Гл. (СПЗБ, Янкоўскі, Насовіч, Станкевіч); *літвінка* ж. ’літоўка’ – Вілен. р., Свісл. (СПЗБ), *літвін* м., *ліцвін* м. ’беларус пэўнай мясцовасці’ – Паст., Пруж. (СПЗБ, Станкевіч), *літвінянка* ж. ’літоўка’ – Кам. (ЖНшС), *літвяк* м. ’літовец’ – Вілен. р. (СПЗБ, Насовіч); *літвячка* ж. ’жанчына з Літвы’ – Панямм. р. (Мат. Гродз.), *літовец* м. ’літовец’ – Вілен. р., Віл. (СПЗБ), *літош* м. ’літовец’, *літашы* мн. ’літоўцы’ – Гл. (Янкоўскі), *ліцвяк* м. ’літовец’ – Віц. р., Гродз. (Каспяровіч, СПЗБ), *лях* м. 1. ’паляк’ – Гл., Жытк. (Янкоўскі, Насовіч, ТС); 2. ’польскі вайсковец’ – Гл. (Янкоўскі), *мазур* м. ’прадстаўнік этнічнай групы палякаў (мазураў)’ – мясц. (Насовіч), *маскаль* м. 1. ’старавер’ – Мёр., Глыб., Зах.-бран. р. (НС, Растаргуеў, ЖНшС); 2. ’рускі’ – Віц. р., Смален. р. (Каспяровіч, Дабравольскі, Станкевіч), *масква* ж. зб. ’рускія, вялікарасіяне’ – мясц. (Насовіч), *масквічы* мн. ’рускія’ – Маз. (ГЧ), *масковец* м. 1. ’рускі’ – мясц. (Станкевіч); 2. ’жыхар Масквы’ – Мсцісл. (Юрчанка); *маскоўка* ж. ’жанчына рускай нацыянальнасці’ – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *махавікі* мн., *махавік* м. ’пра людзей, якія жывуць у забалочаных мясцінах’ – Стол. (ТС), *мурын* м. зневаж. ’негр’ – Гродз., Чэрв. (Шатэрнік, Цыхун), *мяшанец* м., *мешанка* ж. ’людзі, у якіх бацькі розных нацыянальнасцей’ – Чэрв. р., Хойн. (Шатэрнік, ГЧ), *немцы* мн. ’немцы’ – агульн. (ГЧ, Мат. апыт.); *немец* м. ’немец’ – агульн. (ТС, Мат. мін.-мал., ГЧ, Мат. апыт.), *пабережанін* м. ’жыхар з берага ракі ці возера’ – Карэл. (Сл. Гродз.), *падгарадчане* мн., *падгародчанка* ж. ’жыхары з блізкіх да горада населеных пунктаў’ – Смален. р. (Дабравольскі), *падгародцы* мн. ’жы-

хары з блізкіх да горада населеных пунктаў' – Брэсц., Жаб., Пін.(Мат. апыт.), *падляшанка* ж. 'паляшучка' – Бар. (СПЗБ), *палесцы* мн. 'жыхары лясной мясцовасці на ўсход ад Гарыні' – Драг., Стол. (Мат. апыт.), *палеха* ж. 'жанчына з Палесся' – Смален. р. (Дабравольскі), *палешка* ж. 'жыхарка лясной мясцовасці на поўдзень ад Сцвігі' – Жытк. (ТС), *палешукі* мн., *паляшук* м., *паляшучка* ж. 1. 'жыхары Палесся' – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.); 2. 'жыхары лясной мясцовасці на поўдзень ад Сцвігі' – Стол., Жытк. (ТС, Мат. апыт.); 3. 'жыхары паўночна-ўсходняй часткі Пінскага раёна' – Пін. (Мат. апыт.), *палюхі* мн., *палюх* м., *палюшка* ж. 'жыхары з мясцовасці, дзе пераважна палі, мала лясоў і балот' – Кам., Кобр. (ЖНС, Мат. апыт.), *палявая* ж. 'жыхарка з мясцовасці, дзе пераважна палі, мала лясоў і балот' – Драг. (Мат. апыт.), *палявікі* мн., *палявік* м. 'жыхары з мясцовасці, дзе пераважна палі, мала лясоў і балот' – Чэрв., Драг., Стол. (Шатэрнік, Станкевіч, Мат. апыт.), *паляк* м. 'паляк' – агульн. (Шатэрнік, Станкевіч, Мат. апыт); *палячка* ж. 'жанчына польскай нацыянальнасці' – Ашм., Чэрв., Мін., Мсцісл., Слуц., Гл., Кобр., Драг., Стол. (Шатэрнік, Янкоўскі, Станкевіч, Мат. апыт.), *парачукі* мн. 'людзі, якія жывуць па-над ракой' – Хойн. (Мат. Гом.), *прусакі* мн., *прусак* м. 'немцы Прусіі' – мясц. (Станкевіч), *пульвіна* зб. ж. 'жыхары з мясцовасці, дзе пераважна палі, мала лясоў і балот' – Кам. (ЖНС, Мат. апыт.), *пульнякі* мн. 'жыхары з мясцовасці, дзе пераважна палі, мала лясоў і балот' – Кам. (ЖНС), *пясковец* м. 'жыхар вёскі, дзе пясчаная глеба' – Гом. (Мат. Гом.), *сакун* м. 'носьбіт гаворкі, якой характэрна саканне' – Чэрв. (Шатэрнік), *смаляне* мн., *смалянін* м., *смалянка* ж. 'смаленскія беларусы' – мясц. (Насовіч), *сібірака* м., *сібірац* м. 'сібірак' – Мсцісл. (Юрчанка), *сяк* м. 'беларус са Смаленшчыны' – Віц. р. (Каспяровіч), *хахлач* м. 'украінец' – мясц. (Насовіч); *хахлачка* ж. 'украінка' – мясц. (Насовіч), *француз* м. 'француз' – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *цыгане* мн. 'цыганы' – Буда-Каш., Драг. (ГЧ, Мат. апыт.); *цыганы* мн. 'цыганы' – Драг. (Мат. апыт.); *цыган* м. 'цыган' – Буда-Каш. (ГЧ). *цыган* м. 'цыган' – Віц. р., зах.-пал. г., Зах.-бран. р., Жытк. (Каспяровіч, Растаргуеў, ТС, Мат. апыт.); *цыганка* ж. 'цы-

ганка' – агульн. (Янкоўскі, ТС, ГЧ, Мат. апыт.); *цыга́начка* ж. памянш. да *цыга́нка.* – агульн. (ТС, Мат. апыт.) *цыганчу́к* м. 'цыганя' – Зэльв. (Н. сл-ць); *цыганёнак* м. 'цыганскае дзіця' – Гор. (Мат. Маг.); *цыганіст* м. 'цыган' – Смален. р. (Дабравольскі), *чухо́нец* м. 'эстонец' – Віц. р. (Каспяровіч); *чухо́нка* ж. 'эстонка' – Віц. р. (Каспяровіч), *чэ́хі* мн. 'чэхі' – Гл. (Янкоўскі), *шваб* м. 'немец' – Клецк. (Мат. мін.-мал.).

## Перасяленцы

*валача́й* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *вы́йшлы* прым. м. – мясц. (Насовіч), *заблу́да* м. і ж. – мясц. (Станкевіч), *зае́здны* прым. м. – мясц. (Станкевіч), *запо́лянік* м. 'жыхар з іншай, не лясной вёскі' – Шчуч. (З нар. сл.), *збо́чны* прым. м. – Стол. (ТС), *зброд* зб., *збрыд* зб. – Жытк. (ТС), *ку́пленыя лю́дзі* мн., *ку́плены* прым. м. – Лаг. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *на́брадзь* зб. – Маг. р. (Мат. Маг.), *набро́да* зб. – Лоеў. (Янкова), *на́брыдзь* зб. – Леп., Бял., Чач. (НС, ЖНшС), *на́валакі* мн. – Хойн. (ГЧ), *на́валач* зб. – Чэрв., Стаўб., Бар., Круп., Гл., Жытк., Чач. (Шатэрнік, СПЗБ, Мат. Маг., ТС, Мат. апыт.), *навало́ка* м. і ж. – Лоеў. (Янкова), *наво́дны* м. – Стаўб. (ЖС, Мат. дыял. сл.), *наво́ны* м. 'які пасяліўся у гэтай мясцовасці нядаўна' – Чав. (Мат. Маг.), *наво́тны* м. – Жытк. (ТС), *нае́жджы* прым. м. – агульн, акрамя паўночна-заходняй часткі Беларусі. (ЛАБНГ, СЦБ, ТС, Мат. апыт.), *нае́здны* м., *нае́зны* м. – Віл., Стол. (ЛАБНГ, СЦБ), *насяле́нец* м. – Драг., Стол., Жытк. (ТС, Мат. апыт.), *нацу́га* м. – Кам. (ЖНшС), *наяжджо́лы* м. – Смарг. (ЛАБНГ), *наяжджа́лы* м., *наяжжа́лы* м. – Ашм., Кір., Бабр., Гл., Маз. (ЛАБНГ, Янкоўскі), *нена́ські* прым. м., *ніна́ські* м. – Маг., Стол. (ЛАБНГ, ТС), *нетутэ́йшы* прым. м. – Чашн., Хоц. (ЛАБНГ), *нетутэ́шні* прым. м. – Жытк. (ТС), *нязд͡зе́шні* прым. м., *нядзе́шны* прым. м., *нядзе́чны* м. – Чэрв., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *няме́сны* прым. м. – Чав. (ЛАБНГ), *няна́йскі* прым. м. – Смален. р. (Дабравольскі), *набо́чны* прым. м. – Жытк. (ТС), *падаро́жнік* м. – Стаўб. (СЦБ), *падаро́жны* прым. м. – Маладз. (СЦБ), *пасе́лянне* н. – Стол. (ТС), *пастаро́нец* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пасяле́нь* м. – Чэрв. (ЛАБНГ), *пе-*

*рабра́нец* м. – Стол. (ТС), *перасклянін* м. – Малар. (ЛАБНГ), *перасяле́нцы* мн., *перасяле́нец* м. – Мін. р., спарадычна пал. р., Бых., Чэрык. (ЛАБНГ, ТС, ГЧ), *пераязжа́лы* прым. м. – Дзятл. (ЛАБНГ), *прыблу́да* м. і ж. – Драг., Жытк. (ТС, Мат. апыт.); *прыблу́д* м. – мясц. (Станкевіч), *прыблу́дак* м. – Мін., Слуц. (ЛАБНГ, ЖНшС), *прыблу́дны* прым. м. – Жытк. (ТС), *прыбу́лец* м. – Жытк. (ТС), *прыбыле́вец* м. – Буда-Каш. (ЛАБНГ), *прыбы́ш* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *прывало́ка* м. і ж. – Стол., Жытк. (ТС), *прывязе́нка* ж. – Гом. р. (НЛГ), *прые́жджы* прым. м. – агульн, акрамя паўночнага захаду Беларусі (ЛАБНГ), *прыко́т* м. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *прыі́плаўнік* м. – Жытк. (ТС), *прысяле́нец* м. – Стол. (ЛАБНГ), *прыі́хадзень* м. – Гом. р., Слуц. (НЛГ, ЖНшС, Мат. апыт.), *прыхажа́кі* мн. – Паст. (СПЗБ), *прыхо́жы* прым. м. – Віл. (ЛАБНГ), *прычэ́пніца* ж. (пра жанчыну) – Жытк. (ТС), *прыі́шлы* прым. м. – спарад. гродз.-бар. г., Чэрв., Гл., Добр. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *райдуны́* мн., *райду́нка* ж. – Чэрв., Пух. (З нар. сл., НЛ), *чужазе́мцы* мн., *чужазе́мец* м. – Віц. р. (Каспяровіч), *чужа́к* м. – Гл., Рэч. (ЛАБНГ), *чужазе́мцы* мн., *чужазе́мец* м. *чужазе́мка* ж. – Віц. р., Паням. р. (Каспяровіч, Федароўскі), *чужазі́ма* м. і ж. – Паням. р. (Федароўскі), *чужані́ца* м. і ж. – Паням. р., Зах.-бран. р., Маладз., Драг., Лельч. (ЛАБНГ, Федароўскі, Растаргуеў, Мат. дыял. сл., Мат. апыт.), *чужапа́нцы* мн. – Бяроз. (Мат. апыт.), *чужапа́ншчына* зб. ж. – мясц. (Насовіч), *чужасе́льнік* м. – Стол. (ТС), *чужні́к* м. – Віц. р., Смарг., Мядз., Іўеў., Віл., Бярэз., Гл., Хойн. (Каспяровіч, Янкоўскі, Мат. мін.-мал., ГЧ), *чужы́* прым. м. – агульн. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *чужы́-чужані́ца* м. і ж. – Маладз. (Мат. дыял. сл.), *чы́лыя лю́дзі* мн. – Лаг. (Мат. мін.-мал.).

### Хутаране

*хутара́не* мн. – агульн. (Мат. апыт.), *хутара́нец* м. – Гл., Стол. (Янкоўскі, ТС), *хутара́нін* м. – Стол. (ТС).

# 6. НАЗВЫ ЧАЛАВЕКА ПАВОДЛЕ РОДАЎ І ВІДАЎ ДЗЕЙНАСЦІ

## 6.1. НАЗВЫ ЧАЛАВЕКА ПАВОДЛЕ ПРАФЕСІЙНАГА ЗАНЯТКУ

### Аграном

Спецыяліст па вырошчванню і апрацоўцы сельскагаспадарчых культур.

*агранóм* м., *агранóмка* ж. – Паст., Верхнядзв., Мядз., Стаўб. (СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал.), *агранóмша* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *агранóмча* ж. – Слон., Пруж. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *аграмóн* м. – Віц. р. (Каспяровіч), *гранóм* м. – Віл. (СПЗБ), *палявóд* м. ’спецыяліст па развядзенні палявых сельскагаспадарчых культур’ – Пух. (СЦБ).

### Адвакат

Юрыст, які абараняе на судзе чые-н. інтарэсы; абаронца.

*адвакáт* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *аблакáт* м. – Віц. р., усх.-маг. р., Гом. р., Зах.-бран. р. (НЛГ, Бялькевіч, Каспяровіч, Растаргуеў), *абарóнец* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч).

### Аканом, прыказчык

Кіраўнік гаспадаркі пераважна ў панскім маёнтку.

*аканóм* м. – Віц. р., Смарг., Гл. (Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Янкоўскі), *акунóм* м. – Віл. (СЦБ), *акóнам* м. – Лаг., Пух., Уздз., Ганц. (СПЗБ, СЦБ), *акóман* м. – Гродз. (Цыхун), *прыкáйшчык* м. – Гом. р. (НЛГ), *ключнік* м., *клюшнік* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *дамавéр* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч).

## Аптэкар

Чалавек, які працуе ў аптэцы або валодае аптэкай, прадае і вырабляе лекі.

*аптэ́кар* м. – Астр. (Мат. Гродз.), *аптака́р* м. – Смарг. (Станкевіч), *зяле́йнік* м., *зяле́йніца* ж. – мясц. (Насовіч).

## Бакеншчык

Вартаўнік, наглядчык за бакенамі.

*ба́каншчык* м. – Жытк. (ТС), *куга́чнік* м. – Лоеў. (Янкова), *куга́шнік* м. – Жытк. (ТС).

## Бёрдачнік

Майстар па вырабу бёрдаў.

*бёрдачнік* м. – Паст. (СПЗБ), *бёрдашнік* м. – Брасл., Раг. (СПЗБ), *бярда́шнік* м. – Бярэз. (СЦБ), *бярдзе́чнік* м. – Смален. р. (Станкевіч), *бе́рднік* м. – Жытк. (ТС).

## Бляхар

Майстар, які выробляе рэчы з бляхі, хто крые бляхаю дах.

*бляха́р* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *бля́хар* м. – Віц. р., усх.-маг. р., Чэрв. р. (Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч), *бля́шачнік* м. – мясц. (Насовіч).

## Бондар

Майстар па вырабу драўлянага посуду (бочак, дзежак, цаброў і пад.).

*бо́ндар* м. – агульн., Вілен. р., Беластоц. р. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЖНшС, Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, Сцяшковіч, Станкевіч, Шатэрнік), *банда́р* м. – спарадычна цэнтр. з. і Маг. р., Віц., Глыб., Вілен. р.

(ЛАБНГ, СПЗБ, Насовіч, Станкевіч), *бо́днар* м. – Кобр., Драг. (ЛАБНГ), *бо́ндзер* м. – Нясв., Драг. (ЛАБНГ), *бандáрнік* м. – Добр. (ЛАБНГ), *бачкáр* м. – Брасл., Маст., Клім., Ельск., Ветк. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *пасу́днік* м. – Навагр. (АЛА), *кляпчáр* м. 'чалавек, які вырабляе клёпкі' – Лельч. (Кучук), *набівáннік* м. 'той, хто набівае абручы на бочку' – Мсцісл. (Юрчанка).

## Возчык, фурман, align

Чалавек, які займаецца перавозкай разнастайных грузаў на калёсах.

*во́зчык* м. – агульн. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. Гродз., ГЧ), *зво́зчык* м. – спарадычна паўдн.-усх. з., Беш., Чашн., Барыс., Шчуч., Ваўк., Брэсц., Малар. (ЛАБНГ), *ізво́зчык* м. – Арш., Хойн. (ЛАБНГ), *падво́зчык* м. – Дзятл., Дзярж., Бяроз. (ЛАБНГ), *паво́зчык* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *во́знік* м., *зво́знік* м. – мясц. (Насовіч), *ізво́знік* м. – Віц. р. (Каспяровіч, Насовіч), *пераво́знік* м. – Жытк. (ТС, Станкевіч), *паво́знік* м., *паво́знічак* м. памянш. – Віц. р., Гом. р., Смален. р. (НЛГ, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *паво́зн ічы* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *вазéльнік* м. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *вазéннік* м. – Зэльв., Клім., Бых. (ЛАБНГ), *важэ́ннік* м., *важэ́нніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *вазáк* м. – цэнтр. з., пал. р., Вілен. р., Смален. р., Паст., Леп., Круп., Бял., Мсцісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Мат. Гродз., Н. сл-сць, Варлыга, Дабравольскі), *вазáка* м. – Клім. (ЛАБНГ), *вазáч* м. – Маз. (Шаталава), *вазавік* м. – Віц. р. (Станкевіч), *вазю́р* м. – заходняя частка цэнтр. з., Мсцісл. (ЛАБНГ, ЖС, Варлыга), *ламаво́з* м. – мясц. (Станкевіч), *фу́рман* м. – паўн.-зах. з., Кам. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Насовіч), *фурмáн* м. – паўн.-зах. з., Віц. р., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч), *ху́рман* м. – зах.-пал. г., Зэльв., Старадарож., Пруж. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ДСБ, ЖНшС, Насовіч), *хурмáн* м. – зах.-пал. г., Чэрв. р., Смарг., Гл. (ЛАБНГ, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *падво́днік* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч), *падво́дчык* м. – усх.-маг. р., Жытк.

Гродз., Зэльв. (Сцяцко, Цыхун), *ухо́* н., *у́ха* ж. – паўн.-зах. з., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖНшС, Мат. Гродз.), *ушы́* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *слу́хаўка* ж., *слуха́ўкі* мн. – Клецк. (НЛ), *глёгля* ж. – Мядз. (СЦБ); **ніжняя мясістая частка вуха:** *паду́шачка* ж. – Свісл., Валож. (СЦБ, Шаталава), *бліњкі* мн. – Астр. (Мат. Гродз.), *плю́шка* ж. – Нараўл. (Мат. Гом.), *я́гадка* ж., *мякіш* м., *мякішак* м. памянш. – Стол. (ТС), *храсто́чак* м. 'мочка ў вуху' – Воран. (Мат. Гродз.).

## Вяснушкі

Пігментныя плямкі карычневага або жоўтага колеру, якія з'яўляюцца на твары ў некаторых людзей вясной.

*вяснýшкі* мн. – усх. з., зах.-пал. г. спарадычна, Дзятл. (ЛАБНГ), *вясня́нкі* мн. – Гом. р., Гродз., Нараўл. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *вяснянкі* мн. – Добр. (ЛАБНГ), *рабаццё* н. – Брасл., Паст., Астр., Смарг., Ашм. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *рабацéнне* н. – Слуц. р., цэнтральная частка пал. р., спарадычна гродз.-бар. г., Гл. (ЛАБНГ, ТС, Янкоўскі), *рабацéна* ж. – гродз.-бар. г., Слуц. (ЛАБНГ), *рабацíнне* н. – зах.-пал. г., Мін. р., Чэрв. р., Шчуч., Маладз., Докш., Барыс., Хойн. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл., Шатэрнік), *рабацíна* ж. – Карэл., Стаўб., Кір., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *рабíны* мн. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *рабíнне* н. – Рас . (ЛАБНГ), *рабавíнне* н. – Круп. (ЛАБНГ), *рабакí* мн. – Добр. (Мат. Гом.), *рудацíне* н. зб., *рудзéнне* н. – Калінк. (СПЗБ, Мат. Гом.), *рудзякí* мн. – Добр. (ЛАБНГ), *ластавíнне* н. – спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ТС, ДСБ), *ластавéнне* н. – Стол., Добр., Ветк., Лельч. (ЛАБНГ, ТС), *ласто́вінне* мн. – Нараўл. (Мат. Гом.), *ла́стаўкі* мн. – Лёзн., Кругл. (ЛАБНГ), *ла́ставічы* мн. – Віц. (Станкевіч), *ла́стаўчына рабаццё (рабацíнне, рабацéнне, рабíнне)* – Паст., Пол., Мядз., Слаўг., Карм., Буда-Каш., Верхнядзв., Клец., Драг., Пін. (ЛАБНГ), *плéсні* мн. – Светлагор., Буда-Каш., Слаўг., Карм., Чач., Ветк. (ЛАБНГ, ЖНшС, Мат. Гом.), *шаро́цце* н., *шары́нне* н. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *шары́ны* мн. – Гарад. (ЛАБНГ), *шо́ры* мн. – Бял. (ЛАБНГ), *шэ́ркі* мн. – Ушацк., Чашн., Бых. (ЛАБНГ), *бацýнкі* мн. – Маст.

(ЛАБНГ), *кра́жды* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *канапа́ціна* ж., *канапа́цінка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *канапу́шкі* мн. – Пін. (ДСБ).

## Галава

Верхняя частка цела чалавека.

*галава́* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, НЛГ, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Станкевіч, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкова, Цыхун, Насовіч), *галаві́ца* ж., *галаві́на* ж. – мясц. (Насовіч), *го́лаў* м. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *шалаба́н* м. груб., *шалабня́* ж. груб., *чарапня́* ж. груб., *чаро́пень* м. груб., *каро́бка* ж. груб., *лазба́н* м. зневаж., *лазба́нка* ж. зневаж., *башкаві́на* ж. экспр.– Мсцісл. (З нар. сл., Юрчанка), *мазгаўня́* ж. груб., *маскаўня́* ж. груб. – паўн.-зах. з., Віц. р., Докш., Лаг., Пух., Гор., Чач., Хойн., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖНС, ЖНшС, Мат. Маг., Мат. дыял. сл., Мат. Гом., Мат. мін.-мал., Каспяровіч, Насовіч, Варлыга, Мат. апыт.), *мазгаве́шка* ж. груб. – Зэльв., Уздз., Драг. (СЦБ, ЖС, ЖНшС), *мазгаві́на* ж. зневаж. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *мазкато́ўня* ж. экспр., *машкато́ўня* ж. экспр. – Жытк. (ТС), *макаўня́* ж., *марму́за* ж. экспр., *булава́* ж. – Стол. (ТС, ДСБ), *мако́тра* – Брэсц., Стол. (ДСБ), *ду́малка* ж. – Гом. (НЛГ), *ра́жка* ж. перан., груб. – Зэльв. Клецк., Раг., Чач., Лоеў. (НЛ, Мат. Гом., Янкова, Мат. апыт.), *яламу́ўза* ж. іран. – Свісл. (Мат. Гродз.), *галамо́ўза* ж. зневаж. – Слон. (ЖНС), *башка́* ж., зневаж. – Іван., Жытк. (ТС, ЖНшС), *макацёр* м. перан., *мако́трык* м. перан. – Стол., Жытк. (ТС), *макато́ўша* ж. абразл. – Жытк., Петр., Маз. (ТС, З нар. сл., Мат. Гом.), *макатры́га* ж. груб. – Светлагор. (Мат. Гом.), *макаты́рка* ж. пагард. – Бял. (Яўсееў), *макаты́ра* ж. – Клецк. (НЛ), *лачба́н* м. груб. – Ушацк. (НС), *лабе́шка* ж. экспр., *булаве́шка* ж. экспр. – Гродз. р. (Цыхун), *балды́р* м. зневаж. – Карм. (Мат. Гом.), *чыку́ха* ж. – Іван. (ЖНшС), *чарапа́нка* ж. груб. – Мсцісл., Касц. (Мат. Маг., Юрчанка, Насовіч), *ке́пал* м. экспр., *лета́рня* ж. перан., экспр. – Гродз. р. (ЖНС, Сцяцко, Цыхун), *ко́мпал* м. абразл. – Бял. (Яўсееў), *шалупе́йка* ж. пе-

ран., зневаж., *шаламейка* ж. перан., зневаж., *шалудзіўка* ж. перан. – мясц. (Насовіч), *кавадла* н. 'вялікая галава' – Чэрв. (Шатэрнік), *маждэжыра* ж. – Клецк. (НЛ); *галамоўза* ж. 'вялікая лысая галава' – Стаўб. (ЖС); **верхняя надвочная частка твару:** *лоб* м. – агульн., Смален. р. (АЛА, ТС, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Бялькевіч, Дабравольскі, Станкевіч), *лабаціна* ж. – Слон., Маладз., Лаг., Чэрв., Барыс., Мсцісл., Гом. (СЦБ, ЖНшС, НЛГ, Варлыга, Шатэрнік, Юрчанка), *лабасіна* ж. – Гродз., Клецк. (НЛ), *лабэшнік* м. груб., *чало* н. – Гродз. (СРЛГ, Мат. Гродз., Насовіч), *лабідуда* ж., *лабян* м. – Буда-Каш. (Мат. Гом.), *лабзень* м. іран. – Смален. р. (Дабравольскі), *лазбенне* н. зб., *лазбяннё* н. зб. груб., *ілбіна* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *падлоб'е* н. 'ніжняя частка лба' – Мсцісл. (Юрчанка); **орган мышлення ў чалавека:** *мазгі* мн., *маскі* мн. – агульн., Зах.-бран. р. (Мат. Гродз., Мат. Маг., Мат. Гом., Шатэрнік, Станкевіч, Насовіч, Растаргуеў, Янкова, Юрчанка, Мат. апыт.), *мажжы* мн. – Гом. р. (НЛГ), *мозг* м. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *мозак* м., *мозкі* мн. – Бяроз., Стол., Жытк., Лоеў., Хойн., Зах.-бран. р., Смален. р. (ТС, Дабравольскі, Растаргуеў, Янкова, Шаталава), *глузды* мн. – Карэл., Стаўб., Віц. (СЦБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Станкевіч, Насовіч), *глузды* мн. – Лоеў. (Янкова), *кепелі* мн. экспр. – Жытк. (ТС); **касцявы мозг:** *клёк* м. – Пол. (ЛАБНГ), *пік* м. – Стол. (ТС), *шпіг* м. – мясц. (Насовіч); **верхняя частка галавы:** *макаўка* ж. – паўдн.-усх. з., Слон. (Мат. Гродз., Мат. Гом., Янкова), *макушка* ж. – Віц. р., Чэрв., Чач., Браг. (Мат. Гом., Каспяровіч, Шатэрнік, Насовіч), *макуха* ж. – Стол. (ТС), *вярховіца* ж. – Навагр. (Н. сл-сць, З нар. сл.), *вільчык* м. – Жытк. (ТС), *шчык* м. – Петр. (Шаталава); **пярэдняя частка ніжняй сківіцы:** *барада* ж. – агульн., Смален. р. (ТС, Мат. Гом., Мат. Гродз., Варлыга, Дабравольскі), *барада* ж. 'валасяное покрыва ніжняй часткі твару' – агульн., Зах.-бран. р. (ТС, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Растаргуеў, Станкевіч); **месца паміж барадой і шыяй:** *падбародак* м. – Дзятл., Зэльв., Слуц., Люб., Жытк. (ТС, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *падбародавіч* м. – Валож., Лаг., Стаўб., Мсцісл., Рэч., Ветк. (СЦБ, НС, Мат. мін.-мал., Мат. Гом., Юрчанка), *падбароднік* м. – Лун., Стол.,

Жытк. (ТС, Шаталава), *падбаро́дыч* м. – Беш., Слон. (НС, Мат. Гродз), *падбаро́давіча* н. – Зэльв. (Сцяцко, Станкевіч), *падбаро́давік* м. – Буда-Каш., Гом. (Мат. Гом., Станкевіч), *падбаро́ддзе* н. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *падбаро́дыш* м. – Хоц. (Мат. Маг.), *валя́к* м. перан. – Уздз. (СЦБ), *падво́ліч* м., *падго́ліч* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *падга́рлік* м., *падгардзёлак* м. – Ашм., Гродз. (Сл. Гродз.), *падга́рле* н. – Навагр., Зэльв. (ЖНшС, Сцяцко); *падво́ліца* ж. 'ніжняя частка падбародка' – Драг., Іван. (ДСБ); **складка, згіб на скуры твару, цела:** *маршчы́на* ж., *маршчы́ны* мн. – (ЛАБНГ, АЛА), *маршчыны́* мн. – Івац., Малар. (ЛАБНГ), *маршчы́нікі* мн. – Пін. (ЛАБНГ), *маршчы́нне* н. – Пол. (ЛАБНГ), *маршча́ны* мн. – Хойн. (АЛА), *маршчы́* мн. – Брасл., Глыб., Смарг., Гродз., Лун., Жытк. (ЛАБНГ, АЛА, ТС), *морш* м., *мо́ршчы* мн., *мо́ршча* мн., *рубча́к* м., *мо́ршчкі* мн., *змо́ршчка* ж., *ранцякі́* мн. – Навагр., Чач., Гродз., Воран., Ваўк. (АЛА, ЛАБНГ, Мат. Гродз., Сл. Гродз.), *ма́ршчы* мн. – Лях. (АЛА), *маршча́к* м., *маршчакі́* мн. – спарадычна цэнтр. з., Уздз., Жытк., Рэч., Лоеў., Ветк. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, Мат. мін.-мал., Янкова), *ма́ршкі* мн. – Воран., Ваўк. (ЛАБНГ), *маршкі́* мн. – Старадарож., Стол. (АЛА, ТС), *маршчы́кі* мн. – Віл. (ЛАБНГ), *маршчэ́вы* мн. – Барыс. (АЛА), *маршчэ́нік* м., *мо́ршкі* мн., *мархлі́* мн. – Стол. (ТС, ЛАБНГ), *мо́ршчыны* мн. – Маст., Дубр., Касц., Краснап., Івац., Пін., Чач. (ЛАБНГ, АЛА), *змаршчы́ны* мн. – Дзятл., Івян., Чэр. (АЛА, ЛАБНГ), *змо́ршчыны* мн. – Зэльв., Слон., Бых., Лун., Рэч. (ЛАБНГ), *замаршчакі́* мн. – Саліг. (АЛА), *смаршкі́* мн. – Крыч., Клім. (ЛАБНГ, АЛА), *смарнічы́ны* мн. – Хоц. (ЛАБНГ), *забо́ры* мн. – Віл., Чач. (АЛА, Мат. Гом.), *забо́рыны* мн. – Віц., Акц. (АЛА, Каспяровіч), *караба́на* ж. – Лід. (Мат. Гродз.), *караба́н* м. – Круп. (СЦБ), *карабы́* мн. – Дзятл. (ЛАБНГ), *карабаны́* мн. – Навагр. (ЛАБНГ, З нар. сл., СПЗБ), *карпа́ч* м., *карпачэ́* мн – Валож., Іўеў. (ЛАБНГ, Станкевіч), *скла́дкі* мн. – Касц., Слаўг. (ЛАБНГ, АЛА), *рубязы́* мн. – Крыч. (АЛА), *зару́пкі* мн. – Віл. (ЛАБНГ), *цы́пкі* мн. – Круп. (ЛАБНГ), *марсякі́* мн., *марсялкі́* мн. – Кобр. (ЛАБНГ), *жмýрачка* ж. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *закарва́шы* мн. – Стаўб. (ЖС), *за́карпіцы* мн. – Зэльв. (АЛА); **пярэдняя частка галавы:**

*твар* м. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Мат. Гом., Насовіч, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *тваж* м. – Воран. (СПЗБ, АЛА), *від* м. – зах.-пал. г., усх.-пал. р., Мядз., Валож., Старадарож., Буда-Каш. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, ЖНС, СЦБ, НЛ, ДСБ, ЖНшС, ЖС, НЛГ, ГЧ, Мат. мін.-мал., Мат. Гом., Насовіч, Шаталава), *відзе́нне* н. – Віц. р., Смален. р. (Каспяровіч, Насовіч, Дабравольскі), *ліцо́* н. – агульн., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, АЛА, ГЧ, Насовіч, Дабравольскі, Янкоўскі, Юрчанка, Янкова, Мат. апыт.), *лік* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *мо́рда* ж. груб. – паўн. р., Панам. р., Маг. р., Мёр, Ушацк., Чэрв., Хоц., Смален. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, АЛА, ДСБ, Бялькевіч, Шатэрнік, Растаргуеў, Дабравольскі, Шаталава, Янкова, Мат. апыт.), *му́са* ж. – Жытк. (ЖС), *мыза* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *піка* ж. – мясц. (Насовіч), *пыка* ж. груб. – Лоеў. (Янкова, Насовіч), *пыца* ж. груб. – Віц. р., Лоеў. (Каспяроіч, Янкова), *пыса* ж. груб. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *пры́ха* ж., *пры́шка* ж. памянш. – Малар., Івац. (ДСБ, НЛ), *су́рма* ж. груб. – Бераст. (СРЛ), *су́рла* н., *сурло́* н., *су́рліна* н. узмацн. – Мсцісл. (Юрчанка), *лю́рба* ж. груб. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *ту́хмалка* ж. груб. – Мёр. (ЖНС), *удо́ба* ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *парсу́на* ж. ’воблік, твар’ – Слон. (НЛ), *хра́па* ж. іран. – Шчуч., Драг., Зах.-бран. р. (ЖНшС, Мат. Гродз., Растаргуеў), *ха́ра* ж. экспр. – Жытк., Зах.-бран. р. (ТС, Растаргуеў), *мо́рзы* мн. – мясц. (Станкевіч), *марза́кі* мн. – Лаг. (Варлыга), *ляндоўка* ж. вульг. – Лаг. (Варлыга), *грызла* ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *ро́жа* ж. абразл. – паўн.-зах. з., Віц. р. (СПЗБ, Каспяровіч), *абро́жа* ж. – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *рыла* н. – Чэрв., Смален. р. (Шатэрнік, Дабравольскі), *аблі́чча* н. – Віц. р., Чэрв. р., Смален. р. (Станкевіч), *абразі́нне* н. – мясц., Смален. р. (Станкевіч, Насовіч), *абра́зія* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *абразе́ка* ж. груб. – Стол. (ТС); *мурло́* н. ’тоўстае, здаровае ліцо’ – Віц. р., Чэрв. р., Зах.-бран. р., Смален. р. (Каспяровіч, Шатэрнік, Насовіч, Растаргуеў, Дабравольскі); *ра́жка* ж. перан. груб. ’вялікае круглае ліцо’ – Верхнядзв., Пух., Мсцісл., Лоеў., Чач., Зах.-бран. р. (Мат. мін.-мал., Шаталава, Янкова, Растаргуеў, Юрчанка, Мат. апыт.); **верхняя частка галавы:** *це́мя* н. – агульн. (ТС, НЛГ, Мат.

Гродз., Мат. мін.-мал., Каспяровіч), *це́мянё* н. – Зэльв. (Мат. Гродз., Сцяцко), *це́мніца* ж. – Лоеў. (Янкова), *вярхо́віца* ж. – Петр. (Шаталава); **задняя частка галавы:** *патылíца* ж. – Віц., Чэрв., Стол., Чач., Зах.-бран. р., Смален. р. (ТС, Мат. апыт., Насовіч, Станкевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Растаргуеў), *патылка* ж., *патыльніца* ж. – Смален. р. ( Дабравольскі), *пато́лак* м. – Навагр. (Сл. Гродз.), *патылак* м. – Гом. (Мат. Гом.), *запатылак* м. – Ушацк., Гродз., Стол., Петр. (ТС, ЖНшС, Мат. Гом., Цыхун), *запатыльнік* м. – Гродз. (ЖНС), *затылак* м. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *за́шый* м. – мясц. (Насовіч), *зашыек* м. – Карэл., Смален. р. (ЖС, Дабравольскі), *завы́к* м., *завыск* м. – Віц. (Каспяровіч), *завыек* м. – мясц., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *загрывак* м. – Шчуч. (Мат. Гродз.), *каршэнь* м. – Віц. р., Чэрв. (Каспяровіч, Шатэрнік), *шыварат* м. – Лоеў. (Янкова), *шкіркі* мн. – Зах.-бран. р. (Станкевіч), *ке́пель* м. – Слон. (НЛ), *малік* м. – мясц. (Насовіч), *матылік* м., *матыліца* ж. – мясц. (Насовіч); *далінка* ж. ’патылічная ямка’ – Пін. (Шаталава); **бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці:** *скронь* ж., *скро́ні* мн. – паўн.-зах. з., Асіп., Жытк., Ветк. (АЛА, ТС, СПЗБ, Мат. Гродз.), *скро́на* ж. – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *ві́со́к* м., *віскі* мн. – агульн., Зах.-бран. р. (АЛА, ТС, ЖНшС, Мат. Гродз, Мат. мін.-мал., Каспяровіч, Янкова, Цыхун, Сцяцко, Растаргуеў, Мат. апыт.), *віск* м. – Брэсц., Стол. (АЛА, ТС), *віска* ж. – Стол. (ТС), *ве́сак* м., *ве́скі* мн. – Кам. (АЛА), *смількініс* м. – Гродз. (Сл. Гродз.); **шкілет галавы:** *чэ́рап* м. – Астр., Дзятл., Гл. (Мат. Гродз., Янкоўскі), *чарапо́к* м. – Стол., Жытк. (ТС); **частка твару ад скулы да ніжняй скіўіцы:** *шчака́* ж., *шчо́чка* ж. памянш. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз., Каспяровіч, Станкевіч, Юрчанка), *шчо́ка* ж. – Лях., Бяроз. (ЛАБНГ), *зашчо́чына* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *мо́рда* ж., *мо́рдачка* ж. памянш. – паўдн. р. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, ДСБ, ГЧ, ЖНшС), *мо́рзы* мн. – мясц. (Насовіч), *пу́цка* ж., *пу́цкі* мн. – Мядз., Маладз., Лід. (Сл. Гродз., Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл.), *я́гавіца* ж. – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *лапіты* мн. – Клецк. (Мат. мін.-мал.); **ружовыя месцы на шчацэ:** *я́гады* мн. – спарадычна гродз.-бар. г., Люб., Маг., Кобр., Стол. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Насовіч,

Кучук), *ягда* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *ягадкі* мн. – асн. мас. г., Кобр. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Янкова), *ягадніцы* мн. – Клец., Мсцісл., Рэч., Добр. (ЛАБНГ), *ягадзіна* ж. – Гарад., Чэрык., Краснап. (ЛАБНГ), *ягадзіна* ж., *ягадзіна́* ж., *яго́дзіна* ж. – Чэрык., Краснап. (ЛАБНГ), *ягадзіцы* мн. – Глыб., Астр., Маз., Хойн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ягавіцы* мн. – Шум., Віц., Маст., Рэч. (ЛАБНГ, АЛА), *пучкі* мн., *пучо́чкі* мн. памянш. – Віл., Бар., Чэрык. (ЛАБНГ), *пу́ца* ж. – Іўеў. (ЛАБНГ), *пуцкі* мн. – Ашм., Іўеў., Маладз., Навагр. (ЛАБНГ), *шчо́кі* мн. – паўн. р., Мін. р., Чэрв. р., Слуц. р., пал. р., Лід. (ЛАБНГ), *гру́дкі* мн. – Пруж., Драг., Іван. (ЛАБНГ), *румя́ны* мн., *чырво́ны* мн. – Стаўб. (ЛАБНГ), *румя́нец* м. – Клецк., Кобр. (ЛАБНГ), *ру́жа* ж. – Шчуч. (ЛАБНГ), *пажа́р* м. – Карэл. (ЛАБНГ), *ружо́ва пятно́* – Нараўл. (ЛАБНГ), *пя́тна* мн. – Бераст. (ЛАБНГ), *пля́мы* мн. – Малар. (ЛАБНГ), *пятло́* н. – Пол. (ЛАБНГ), *падлі́чча* н. – Рас. (ЛАБНГ), *кругі́* мн. – Мядз. (ЛАБНГ), *вы́пінка* ж. ласк. – Гом. (НЛГ), *ро́дзімка* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *ро́дзінка* ж. – Брэсц. (ЛАБНГ).

**Галёнка,** гл. **Нага**

**Гарлавіна,** гл. **Горла**

## Глотка

Мышачная трубка, якая злучае поласць рота са страваводам.

*глытва́* ж., *глы́тніца* ж., *глатаўня́* ж. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *гярдзе́ль* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *га́гаўка* ж., *па́калатка* ж. – Шчуч. (НЛ).

## Горла

Храстковая трубка, якая змяшчаецца ў пярэдняй частцы шыі і з’яўляецца пачаткам стрававода і дыхальных шляхоў.

*го́рла* н. – Гродз., Смарг., Зэльв., Чэрв., Гл., Мсцісл., Стол., Жытк., Нараўл., Смален. р. (ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Насовіч, Шатэрнік, Станкевіч, Цыхун, Дабравольскі, Юр-

чанка, Янкоўскі), *о́рла* н. – Астр. (СПЗБ), *гарля́к* м. – Маладз., Жытк. (ТС, СЦБ), *гарля́нка* ж. – Мсцісл., Хоц., Стол. (ТС, Н. сл-сць, Мат. Гом., Юрчанка), *гарля́чына* ж. – Жытк. (ТС), *падго́рле* н. – Карэл. (Шаталава), *глы́таўка* ж. – Віл. (НС), *глытва́* ж., *глытня́* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *глыта́нка* ж. – мясц. (Станкевіч), *гардзе́ль* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *гардзёлка* н. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *гардзе́лка* ж. – Івац. (ДСБ), *гурдзі́лка* ж. – Брэсц. (НЛ); *гло́тка* ж. – Віц. (Каспяровіч), *глатва́* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *га́гавіца* ж., абразл., *га́гаўка* ж., *рыгво́* н. – Гродз. р. (СРЛГ, ЖС, Цыхун); **дыхальнае горла:** *гарлаві́на* ж. – Маладз. (СЦБ), *гарля́к* м. – Лаг. (Варлыга), *гарля́чышча* н. – Стаўб. (СЦБ), *ды́хніца* ж. ’верхняя частка дыхальнага горла’ – мясц. (Станкевіч), *зеў* м. ’пачатак дыхальнага горла’ – Чэрв. (Шатэрнік); **выпуклая храстковая частка гартані ў мужчын:** *ко́дык* м. – Драг. (ДСБ), *ко́стка* ж. – Пух., Пін., Беластоц. р. (СПЗБ, Шаталава), *кэ́стка* ж. – Пін. (ДСБ), *го́гаўка* ж., *гурдзе́лка* ж. – Смарг. (Шаталава), *га́гаўка* ж., *га́гаўка* ж. – Малар., Гродз. р. (НЛ, СРЛГ), *я́блык* м. – Шкл. (Мат. Маг.), *я́блычка* н. – Стол. (ТС), *ада́мава яблака* – мясц. (Насовіч), *гарля́к* м. – Астр., Чэрв. (Мат. Гродз., Шатэрнік, Станкевіч), *праско́к* м. – Рас. (Шаталава), *гандзю́ра* ж. – Малар. (НЛ); **месца, дзе рот мяжуецца са страваводам:** *глы́таўка* ж. – Лаг. (Варлыга), *кержо́к* м. – Смален. р. (Дабравольскі).

## Грудзі

Пярэдняя частка тулава ад шыі да жывата.

*гру́дзі* мн. – агульн. (Мат. апыт.); **малочныя залозы ў жанчын:** *гру́дзі* мн., *гру́дкі* мн. памянш. – агульн., Зах.-бран. р., Смален. р. (ГЧ, Мат. Гродз., Шатэрнік, Насовіч, Станкевіч, Растаргуеў, Янкоўскі, Дабравольскі), *грудзь* ж. – Мсцісл., Смален. р. (Дабравольскі, Юрчанка), *пе́лькі* мн. – Віц., Гор., Мсцісл., Зах.-бран. р. (Мат. Маг., Насовіч, Станкевіч, Каспяровіч, Растаргуеў), *пе́рсці* мн. – Жытк. (ТС), *сі́ся* ж., *цыцкі* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *сі́ська* ж. – паўн.-зах. з.

(СПЗБ), *дзі́дзя* ж. дзіц. – Стол. (ТС), *цыі́ца* дзіц. – Стол. (ТС), *цыі́цкі* мн. – Віц., Буда-Каш., Чэрв., Маг., Стол., Жытк. (ГЧ, ТС, Шатэрнік, Бялькевіч, Каспяровіч, Мат. апыт.); **упадзіна ў ніжняй пярэдняй частцы груднoй клеткі:** *дыхавіца* ж. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *дыі́хавіна* ж. – Лід. (Мат. Гродз.), *дыі́хла* н., *дыі́хняўка* ж. – Малар. (ДСБ, ЖС), *дыі́хала* н. – Гродз. (Сл. Гродз.), *дух* м. – Капыл., Драг. (З нар. сл., ЖС), *уздўхі* мн. – Дзярж. (Насовіч), *дўхавіна* ж. – Стол. (ТС), *уздўхавіна* ж. – Дзярж., Гл. (НС, Янкоўскі), *здўхавіна* ж. – Гл. (Янкоўскі), *падуздўхвіна* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *далі́нка* ж. – Драг., Пін. (Н. сл-сць, Шаталава), *ло́жачка* ж. – Гродз. (Цыхун), *ко́бачка* ж. – Смарг. (Шаталава), *я́мка* ж., *я́мачка* ж. памянш. – Латгал. р. (СПЗБ); **знешняя частка малочнай залозы:** *цыі́цка* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *сі́ся* ж. – Смален. р. ( Дабравольскі), *сі́ська* ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Насовіч), *пупе́х* м. – Пін. (Шаталава), *пупяно́к* м. – Карэл., Пін. (Шаталава), *пўпа́шка* ж. – Стол. (ТС).

**Губы,** гл. **Рот**

**Далонь,** гл. **Рука**

**Дзясна,** гл. **Рот**

**Жоўць**

Вадкасць, якую выдзяляе печань.

*жоўць* ж. – агульн., Смален. р. (ТС, Каспяровіч, Насовіч, Дабравольскі, Мат. апыт.), *жоўч* ж. – Кам., Зах.-бран. р. (ЖНшС, Растаргуеў).

**Жывот**

Частка цела чалавека, у якой знаходзяцца печань, страўнік, кішэчнік, селязёнка і іншыя органы.

*жывóт* м. – агульн., Смален. р. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, СПЗБ, Мат. Гродз., ГЧ, Шатэрнік, Насовіч, Станкевіч, Дабравольскі, Янкоўскі), *жвот* м. – Гродз. р., Старадарож., Крыч., Хойн. (АЛА, СПЗБ, З нар. сл., ЖНС, Станкевіч, Цыхун), *пýза* н. – агульн., акрамя паўн.-зах. з., Смален. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Мат. Гом., Каспяровіч, Шатэрнік, Станкевіч, Дабравольскі, Растаргуеў, Варлыга, Юрчанка), *пузéнь* м. груб. – Лоеў. (Янкова), *пузыр* м. – мясц., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *брýха* н. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., Капатк., Пін., Браг., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Шатэрнік, Растаргуеў, Юрчанка, Станкевіч), *брух* м. – Воран., Іўеў. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *брушавіна* ж. – Лоеў. (Янкова), *чэ́рава* н. – спарадычна паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Мат. Маг., Мат. Гродз., Шатэрнік, Насовіч, Кучук), *чэ́рва* н. – Кам. (ЛАБНГ), *чарэ́ва* н. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *чаравó* н. – Астр. (Сл. Гродз.), *вантрóба* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *трыбýх* м. – спарадычна гродз.-бар. г., Брасл., Беш., Бярэз., Старадарож., Чач., Іван., Смален. р. (ЛАБНГ, Насовіч, Дабравольскі), *трыбла* м. абразл. – Пін. (ЖНС), *трыблó* н. – Віц., Кам., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Каспяровіч), *лантýх* м. груб. перан., *лэ́нтух* м. – Гродз. (Сл. Гродз., Цыхун, Насовіч), *ле́лях* м. зневаж. – Шчуч. (СПЗБ), *леле́х* м., *лялёх* м. груб. – Маст. (Сл. Гродз.), *бэ́бах* м. іран. – Зэльв., Свісл. (ЖС, Мат. Гродз.), *ю́кла* н. – Драг. (ЖНшС), *тэ́льбух* м. экспр., *брухлó* н. – Стол. (ТС), *тэльбýх* м. экспр. – Зэльв. (Сцяцко), *каўбýх* м. перан. іран. – Мін., Чач., Хойн. (Мат. мін.-мал.), *каўдýн* м. – Кам., Брэсц. (ЛАБНГ), *бе́бух* м. – Мёр. (ЛАБНГ), *кучýк* м. – Шчуч. (ЛАБНГ), *курса́к* м. экспр. – Лаг. (СЦБ), *жлýдак* м., *жалýдак* м. – Смарг. (ЛАБНГ, АЛА), *капшýк* м. перан. – Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *кцю́ха* н. – Клецк. (НЛ), *ка́даўб* м. груб. – Навагр. (З нар. сл.), *кню́ха, кнюхó* н. – Люб., Старадарож., Стол. (ТС, Мат. апыт.), *бóнда* ж. перан. абразл. – Віц. (Станкевіч), *кутыр* м., *хутыр* м. абразл. – мясц. (Насовіч); *кандзю́х* м. зневаж. – Чач. (Мат. Гом., Насовіч), *вэ́льваль* м. – Зэльв. (СРЛГ), *гарбýз* м. перан. – Лаг. (СЦБ), *начва́н* м. – Чэрв. (Шатэрнік, Станкевіч); **ніжняя частка жывата:** *падчарэ́вак* м. – Стол. (ТС), *пад-*

*чаро́вак* м. – мясц. (Насовіч); *дыні* мн. 'самы ніз жывата' – Лаг. (Варлыга).

### Жыла

Крывяносны сасуд.

*жы́ла* ж., *жы́лы* мн. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гродз., Шатэрнік, Станкевіч), *жы́ліна* ж. – Бял. (Яўсееў), *жы́лле* н. зб. – Мядз., Нясв., Пух., Круп., Бярэз., Гл., Мсцісл., Бых., Чач., Лоеў. (ЛАБНГ, СЦБ, ГЧ, Мат. мін.-мал., Мат. Маг., Янкова, Янкоўскі, Юрчанка, Мат. апыт.), *па́жылка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *жыжа́лі* мн. – Лельч. (Кучук), *пу́гі* мн. – Калінк. (ЛАБНГ).

### Залоза

Орган, які выпрацоўвае неабходныя для арганізма рэчывы або выдаляе з арганізма шкодныя рэчывы.

*зало́за* ж. – Смарг., Віц., Жытк., Зах.-бран. р. (ТС, Станкевіч, Каспяровіч, Растаргуеў), *залаза́* ж. – мясц. (Станкевіч, Насовіч), *жало́за* ж. – Слон. (Мат. Гродз.), *жаўла́к* м. – Навагр., Чач. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *жалва́к* м. – Чач. (Мат. апыт.), *зава́л* м. – мясц., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *зава́лка* ж., *зава́лкі* мн. – Віц. р., Стаўб. (СЦБ, Каспяровіч).

### Запясце, гл. Рука

### Зрэнка, гл. Вока

### Зуб, гл. Рот

### Калена, гл. Нага

### Каса, гл. Валасы

### Кішка

Эластычная трубка, якая з'яўляецца часткай стрававальнага апарату ў чалавека.

*кішка* ж., *кішкі* мн. – агульн. (СПЗБ, ТС, Мат. дыял. сл., Мат. апыт.), *кішка́* ж. – Лях., Зах.-бран. р., Беластоц. р. (СПЗБ, Растаргуеў), *гізу́нты* мн., *гізу́менты* мн. – Жытк. (ТС); **прамая кішка:** *куто́к* м., *куто́чак* м. памянш. – Жытк. (ТС); *ку́тніца* ж. – Смарг., Лаг., Клецк., Лун., Бяроз., Браг. (НЛ, Шаталава, Станкевіч), *гудзёшніца* ж. – Чав. (НС).

**Ключыца,** гл. **Рука**

**Косць**

Асобная састаўная частка шкілета чалавека.

*косць* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *ко́стка* ж. – Стол. (ТС), *кастама́ха* ж. – Гом. (НЛГ), *масо́л* м., *масёл* м. – Добр. (Мат. Гом.), *масо́лак* м. – Ветк. (Мат. Гом.), *драбы* мн. – Гродз. (Мат. Гродз.); *чако́тка* ж. ’костка ў суставе нагі, рукі’ – Стол. (ТС).

**Кроў**

Чырвоная вадкасць, якая рухаецца па крывяносных сасудах арганізма.

*кроў* м. – агульн. (ТС, ГЧ, Насовіч, Станкевіч, Каспяровіч, Шатэрнік, Юрчанка), *кро́ўка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *юха́* ж. – Віц., Петр. (Каспяровіч, Насовіч, Шаталава), *ю́шка* ж. – агульн., акрамя заходняй паловы паўн.-зах. з., Смален. р. (ЛАБНГ, Насовіч, Дабравольскі, Юрчанка, Мат. апыт.), *руда́* ж. – Пух., Смален. р. (Мат. мін.-мал., Насовіч, Дабравольскі), *пячо́н’е* н. зб. ’згусткі крыві’ – Жытк. (ТС), *пячэ́нне* н. – Лоеў. (Янкова), *па́сака* ж., *му́сака* ж. ’кроў, якая ідзе з носа’ – мясц. (Станкевіч, Насовіч).

**Крыж**

Ніжняя частка хрыбетніка, якая складаецца з пяці пазванкоў, злучаных з касцямі таза.

*крыж* м. – Віц., Смарг., Бераст., Навагр., Чэрв., Стол., Жытк., Светл., Лоеў. (ТС, ДАБМ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Янкова, Станкевіч), *красцо́* н. – Віц. р. (Станкевіч), *вілкі* мн. – Чач. (ЖС).

**Лапатка,** гл. **Рука**

**Лёгкія**

Орган дыхання ў чалавека, размешчаны ў грудной клетцы.

*лёгкія* мн., *лёгкі* мн.– агульн. (АЛА, ГЧ), *лёгкія пе́чані* – Смарг. (АЛА), *лёгкае* н. – Свісл., Брэсц., Драг., Чач., Ветк., Лоеў. (АЛА, Янкова), *лёгка(-я)* ж., *лёгко* н., *лёгке* н., *лягкія* мн. – паўн.-зах. з. (АЛА, СПЗБ, Станкевіч), *лягкія печані* – Смарг. (АЛА), *лягку́шы* мн. – Стол., Жытк. (ТС), *лягку́шка* ж. – Лоеў. (Янкова), *лігане́ўя* зб. – Лаг. (Варлыга), *ляге́нні* зб. – Мсцісл. (Мат. апыт.), *плю́сы* мн. – Паст. (АЛА), *плю́цы* мн. – Ашм. (Мат. мін.-мал.), *плу́цы* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *дыхала* н. груб. – Маст., Стол. (ТС, Сл. Гродз.), *взду́хі* мн. – Пін. (ЖС), *гды́рка* ж. 'трахея' – Брасл. (Станкевіч).

**Лоб,** гл. **Галава**

**Локаць,** гл. **Рука**

**Лытка,** гл. **Нага**

**Мазгі,** гл. **Галава**

**Мочка,** гл. **Вуха**

**Матка**

Унутраны палавы орган жанчыны, у якім развіваецца зародак.

*ма́тка* ж. – агульн. (Мат. апыт.), *маці́ца* ж. – мясц. (Насовіч), *залатні́к* м. – Віц. р., Валож., Круп., Мсцісл. (СЦБ,

Станкевіч, Юрчанка, Каспяровіч), *дзе́тніца* ж. – Вілен.р. (Станкевіч).

**Мускул**

Тканка жывога арганізма, здольная скарачацца і забяспечваць функцыю руху частак цела.

*му́скулы* ж. – Светл. (Мат. Гом.), *мя́кішы* мн. – Рэч., Гом. (Мат. Гом.).

**Нага**

Адна з дзвюх ніжніх канечнасцей чалавека.

*нага́* ж., *но́жка* ж. памянш. – агульн. (АЛА, ТС, ГЧ, Мат. дыял. сл., Мат. Гом., Янкоўскі, Юрчанка, Янкова), *нажаня́* н., *нажаня́ты* мн. пяшчот. – Зэльв., Жытк. (ТС, Сцяцко), *лы́га* ж. абразл., *лыгі* мн. – Маладз., Дзярж., Клецк., Стол., Навагр., Карэл., Капыл., Гл. (ЖС, Н. сл-сць, Сл. Гродз., Янкоўскі), *га́чы* мн. пагардл., *крынджо́ла* мн. перан. – Стол. (ТС), *лы́нды* мн. – Брасл., Гродз., Навагр., Слон. (СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун, Станкевіч), *клы́нды* мн. экспр. – Лід., Лаг., Чэрв. (СЦБ, ДСБ, НЛ, Сл. Гродз., Мат. мін.-мал.), *клі́нды* мн., *клі́шы* мн. здзекл., *ко́кашы* мн. іран., *лысцяі́* мн., *гле́нік* м. перан. – Слон. (ЖС, Н. сл-сць, Мат. Гродз., НЛ), *кле́нды* мн. – Стол., Жытк. (ТС), *хо́далы* мн., *хады́нкі* мн. экспр., *ды́балы* мн. груб., *бо́ўталы* мн. груб., *крыві́лы* мн. груб., *крыва́лы* м. зборн., *крыўё* н. груб., *капылле* н. зб., *калды́бы* мн. іран., *качарэ́жжа* н. зб. перан. груб., *сулды́га* ж., *крыві́ліна* ж. груб., *клы́пы* мн. іран., *дры́галы* мн. груб., *дры́палы* мн. іран. – Мсцісл. (Юрчанка), *га́лы* мн. экспр. – Навагр., Стаўб., Дзярж., Жытк., Ельск. (ТС, СЦБ, НС, Сл. Гродз., Мат. Гом.), *дры́гі* мн. перан. – мясц. (Насовіч), *гі́гі* мн. абразл. – Мядз. (Н. сл-сць), *кле́пні* мн. груб. – Лоеў. (Янкова), *кле́шні* мн. экспр. – Пух. (СЦБ), *клы́жні* мн. груб. – Леп. (ЖНшС), *кі́жлы* мн. – Старадарож. (ЖНшС), *крыву́лі* мн., *ды́бы* мн. – Клецк. (НЛ), *джа́ла* мн. груб. – Драг. (НЛ),

*цыбы* мн. іран., *цудáбы* мн. іран., *карачы́* мн., *капачы́* мн., *лэ́барды* мн. груб. іран. – Гродз. (Мат. Гродз., Цыхун, СРЛГ), *ко́качы* мн. – Пруж. (Федароўскі), *гéрцы* мн. груб. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *качэ́ргі* мн. адм. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *дры́галы* мн., *хадулі* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *варцáба* ж. іран. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *кавялá* ж. пагардл. – Маладз. ( Мат. дыял. сл.), *кацэ́мба* ж. зневаж., жарт. – Шчуч. (НЛ), *клашэ́нь* м. груб. – Ушацк. (ЖС), *клы́ба* ж. непаш. – Зэльв. (Сцяцко), *куля́ба* ж. – Гродз. (СРЛГ); *цы́бы* мн. 'доўгія худыя ногі' – Слуц., Чав., Жытк. (ТС, НС, ЖНшС), *цы́блы* мн., *бу́ркалка* ж., *бу́ркаўка* ж. іран. – Жытк. (ТС), *цы́балы* мн. – Рас., Віц. (Каспяровіч, Шаталава), *грáсы* мн. – Рэч. (НС), *малмы́гі* мн. – Навагр. (Н. сл-сць), *стры́балкі* мн. экспр. – Стаўб. (З нар. сл.); *гнáты* мн. груб. 'доўгія нязграбныя ногі' – Драг. (НЛ); **частка нагі, дзе злучаюцца бядровая і галёначная косці, месца згібу нагі:** *калена* н. – агульн., Смален. р. (ТС, Мат. Гродз., Мат. Гом., Насовіч, Шатэрнік, Дабравольскі), *калéнкі* мн. – Чач. (Мат. Гом.), *калéнне* н. зб. – Мсцісл. (Юрчанка), *ко́ленкі* мн. – Уздз. (СЦБ), *ко́ленцы* мн. – Пух., Гл. (СЦБ, Янкоўскі), *ко́ланца* н. – Буда-Каш., Ельск. (Мат. Гом.), *ко́льцы* мн. – Мін. (Мат. мін.-мал.), *уло́нне* н. – Карэл., Барыс., Кліч., Слаўг., Зах.-бран. р. (ЖС, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Маг. Маг., Растаргуеў), *ланó* н. – Чав., Рэч., Гом., Светл. (Мат. Маг., Мат. Гом.), *гнáты* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *стрэнь* м. – Драг. (ЖНС), *какці* мн. – Ашм. (Сл. Гродз.), *кулі́чкі* мн. – Бял. (Яўсееў), *лы́нды* мн. экспр. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ); *цы́пкі мн.* 'худыя калені' – Віц. (Каспяровіч); **каленныя сухажыллі:** *паджы́лкі* мн., *паджы́лле* н. зб. – Чач. (Мат. апыт.), *ця́глы* мн. – Лоеў. (Янкова); **частка нагі ад калена да ступні:** *галёнка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Шатэрнік, Насовіч, Бялькевіч, Варлыга, Станкевіч), *галёна* ж. – Віл., Лаг. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *галёнка* ж. – Ветк. (ЛАБНГ), *гáлёнка* ж. – Віц. (Каспяровіч), *алёнка* ж. – Астр. (ЛАБНГ), *галі́шка* ж. – спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ДСБ), *галя́шка* ж. – Гродз. (Цыхун), *гагу́шка* ж. – Жаб. (ЛАБНГ), *го́лень* ж. – Гродз., Шчуч., Дзятл., Клецк., Круп., Краснап., Клім., Ганц., Баран., Лях., Лун.,

Маз. (ЛАБНГ), *галéнь* ж. – Бял., Мсцісл. (ЛАБНГ, Юрчанка), *цэ́ўка* ж. – Пол., Гарад., Чашн., Бых., Клім., Драг. (ЛАБНГ), *цэ́ва* ж. – Пруж. (ЛАБНГ), *лы́тка* ж. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., Маг. р., паўн. р. (ЛАБНГ), *цы́бла* ж. – Віц. (Каспяровіч), *цыбáлка* ж. – мясц. (Насовіч), *плюснá* ж. – Капыл. (ЛАБНГ), *плёсня* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *плёскня* ж. – Іван. (ЛАБНГ), *ладыга* ж., *ладыжка* ж. памянш. – мясц., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *сулдыжка* ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *бýрка* ж. – Клецк. (НЛ), *цягль́і* мн. – Маз. (АЛА), *маталыга* ж. – Віц. (Каспяровіч); **акругленыя мышцы на задняй частцы нагі:** *лы́тка* ж. – агульн., Смален. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, АЛА, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Шатэрнік, Насовіч, Варлыга, Каспяровіч, Дабравольскі, Растаргуеў), *лéтка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *лы́га* ж. – Петр. (Мат. Гом.), *лы́нды* мн. – Вілен.р. (СПЗБ), *лы́сцягі* мн. – Зэльв. (Сцяцко), *пýзца* н. – Гарад., Сен., Дубр., Круп., Бярэз., Бял., Шкл. (ЛАБНГ, АЛА), *пýзачка* н. – Верхнядзв., Мёр., Пол. (ЛАБНГ, АЛА), *пýзцы* мн. – Круп. (НС), *мя́каць* ж. – Рас. (ЛАБНГ), *мякóць* ж. – Шум. (ЛАБНГ), *мя́кіш* м. – Карэл., Віл., Лаг., Чэрв. (ЛАБНГ, Шаталава), *мякішэ́ўе* н. – Чэрв. (ЛАБНГ), *падýшачка* ж. – Тал. (ЛАБНГ), *брýшка* н. – Паст., Брасл., Шарк., Глыб. (ЛАБНГ), *трыбушóк* м. – Воран. (ЛАБНГ), *жыватóк* м. – Бяроз. (АЛА, Шаталава), *пучóк* м. – Мядз., Арш. (ЛАБНГ), *пацегóлье* н. – Стол. (ТС), *ікрá* ж. – паўдн.-усх. з., спарадычна Паням. р., спарадычна Віц. р. (ЛАБНГ, АЛА), *íкра* ж., *íкры* мн. – Чэрык., Брэсц., Чач., Гом., Браг., Смален. р. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гом., Дабравольскі), *ікраніца* ж. – Раг. (ЛАБНГ), *íкраніца* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *галíка* ж. – Кам. (ЛАБНГ), *галёнка* ж. – Чач. (ЛАБНГ); **надкаленная косць:** *рэ́пка* ж. – паўн.-зах. з., Лаг. (СПЗБ, Варлыга), *я́блычка* н. – Пін. (Шаталава); **частка нагі ад шчыкалаткі ўніз:** *ступá* ж. – Верхнядзв., Гродз., Шчуч., Свісл., Дзятл., Слон., Круп., Слуц., Старадарож., Карм., Пін., Лун., Маз., Добр., Хойн. (АЛА, ЛАБНГ, Мат. Гродз., Шаталава, Станкевіч), *стýпа* ж. – Слаўг. (ЛАБНГ), *стýпка* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *ступáк* м. – гродз.-бар. г., Слуц. р., Бярэз., Бабр., Кір., Гл., Ганц., Акц., Петр., Лельч. (АЛА, ЛАБНГ, ЖС, НЛ,

Сл. Гродз., Мат. Маг., Сцяцко, Шаталава), *стапа́к* м. – Саліг. (Н. сл-сць), *сту́пень* м. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз., ГЧ, Насовіч, Янкова, Юрчанка), *ступе́нь* м. – Жаб., Драг. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ступе́няк* м. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *сто́пень* м. – мясц. (Насовіч), *сто́па* ж. – Воран. (АЛА), *ступня́* ж. – паўдн.-усх. з., паўн. р., Гродз., Брэсц., Малар., Пін. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *стапня́* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *плюсна́* ж. – Лаг., Капатк., Стол., Лоеў., Браг. (АЛА, ЛАБНГ, Варлыга, Янкова), *плюсня́* ж. – Жытк., Буда-Каш. (АЛА, ЛАБНГ), *плюсно́* н. – Смарг. (ЛАБНГ), *узнётак* м. – Пін. (ДСБ, Шаталава); **ніжняя частка ступні:** *падэ́шва* ж. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *падо́шва* ж. – спарадычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі, акрамя паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, ДСБ), *падашва́* ж. – усх. з., Паст., Віл., Чэрв. (ЛАБНГ, АЛА, СЦБ, Мат. Гом.), *ступня́* ж. – Брасл., Мёр., Валож., Івян. (ЛАБНГ, АЛА), *ступе́нь* ж. – Мёр. (ЛАБНГ, АЛА), *ступа́к* м. – Старадарож., Капатк. (ЛАБНГ, АЛА); **выпуклая верхняя частка ступні ў чалавека, пад'ём:** *плісна́* ж. – Жытк. (ТС), *плісня́* ж., *плісня* ж., *пле́сна* ж., *плёсня* ж. – Стол. (НЛ, ДСБ), *перадо́к* м. – Карэл. (Шаталава), *гуры́стасць* ж., *гуры́сціна* ж. – Гродз. (Цыхун); **задняя частка ступні:** *пята́* ж., *пя́тка* ж. – агульн. (ТС, Мат. Гродз., Мат. Маг., Варлыга, Янкоўскі), *запя́так* м. – Капыл., Жытк. (ТС, З нар. сл.).

### Нервы

Сістэма валокнаў, якая вызначае дзейнасць арганізма, стан і паводзіны чалавека.

*не́рва* ж., *не́рвіна* ж. – Гл., Мсцісл., Хойн. (ГЧ, Юрчанка, Янкоўскі), *шлу́ння* н. – Бых. (ЖНС), *шлу́нкі* мн. – Івац. (ЖС).

### Ногаць, гл. Рука

### Нос

Выступ паміж вачамі і ротам на твары чалавека.

*нос* м. – агульн. (АЛА, ТС, СПЗБ, СЦБ, Юрчанка, Варлыга, Кучук, Янкоўскі), *но́саўка* ж. груб. – Гродз. (Сл. Гродз.), *ню́хаўка* ж. экспр., груб. – паўн.-зах. з., паўн. р. (СПЗБ, СЦБ, ЖС, НЛ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Шаталава, Шатэрнік, Каспяровіч, Варлыга, Станкевіч), *ню́хмарка* ж. зневаж. – Маладз. (Мат. мін.-мал.), *чмы́хка* ж. зневаж., *чмы́халка* ж. зневаж. – Мсцісл. (Юрчанка), *чмы́хаўка* ж. – Лаг. (Варлыга), *хра́пы* мн. зневаж. – Віц. р., Мсцісл. (Станкевіч, Юрчанка), *бу́нька* ж. зніж. – Лід. (СРЛГ), *бу́льхаўка* ж. – Бераст. (СРЛГ), *бу́тля* ж. – Клецк. (НЛ), *куцу́льбіна* ж. экспр. – Жытк. (ТС), *пы́рта* ж. груб. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *руль* м. перан. ’нос, насаты чалавек’ – Драг. (НЛ), *пі́ць* м. – Пін. (ДСБ), *пі́ка* ж. – мясц. (Насовіч), *пі́пка* ж. перан. іран., *пі́пачка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка, Насовіч), *піту́шка* ж. зневаж. – Зэльв. (Сцяцко, Насовіч); **вялікі нос**: *насі́шча* м. – агульн. (АЛА, ТС, Юрчанка), *насі́ска* м. – паўн.-зах. з. (СПЗБ, Шаталава), *насю́га* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *но́саль* м. – Шчуч. (АЛА), *бурда́* ж. – Стол. (ТС), *глю́га* ж. – Віл. (НС), *пі́пішча* н. – мясц. (Насовіч); *кі́рпа* ж. зневаж. ’кірпаты нос’ – Уздз., Люб., Зах.-бран. р. (СЦБ, Мат. мін.-мал., Растаргуеў); *клю́ка* ж. груб. – Гродз. р. (ЖС, Цыхун), *дзю́бка* перан., *дзю́бачка* ’кончык носа’ – Мсцісл., Смален. р. (Юрчанка, Дабравольскі); **адна з парных знадворных адтулін носа:** *но́здра* ж. – Люб., Стол., Жытк. (ТС, Мат. апыт.), *хра́пы* мн., *хра́пка* ж. – Лаг. (ЖС, Варлыга); **верхняя частка носа ніжэй ілба паміж вачамі:** *перано́сіца* ж. – Смарг., Ашм., Навагр., Лаг., Слуц., Люб. (ЖНС, Варлыга, Станкевіч, Мат. апыт.), *перано́ссе* н. – Жытк. (ТС), *храп* м. – мясц. (Станкевіч).

## Нырка

Орган мочавыдзялення ў чалавека.

*по́чкі* мн. – агульн., акрамя ўзмежжа з Літвой (ЛАБНГ, АЛА, ГЧ, Мат. Гродз., Сцяцко, Янкова, Мат. апыт.), *бо́чкі*

мн. – Бяроз. (ЛАБНГ, АЛА), *ныркі* мн. – паўн.-зах. з., Віц., Пух., Стол., Ганц., Хойн. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *інкстукі* мн. – Воран. (СПЗБ).

**Павека,** гл. **Вока**

**Падбародак,** гл. **Галава**

**Пазваночнік**

Асноўная частка шкілета ў чалавека, якая складаецца з пазванкоў.

*хрыбе́т* м. – Смарг., Лід., Астр., Чэрв., Люб., Чач. (Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Станкевіч, Мат. апыт.), *хры́бет* м. – Смарг., Чач. (Станкевіч, Насовіч, Мат. апыт.), *хрэ́бет* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *хрыбе́тнік* м. – паўдн.-усх. з. (Янкова, Шаталава, Мат. апыт.), *хрыбціна* ж. – мясц. (Станкевіч), *хрыбя́ціна* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *гало́тніца* ж. – Маст. (Сл. Гродз.); **ніжняя частка пазваночніка:** *ко́пчык* м. – Жлоб., Чач., Буда-Каш., Браг. (Мат. Гом., Мат. апыт.), *храсто́к* м. – мясц., Зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў), *храсткі́* мн. – Мсцісл., Смален. р. (Юрчанка, Дабравольскі), *храсцы́* мн. – Віц. р. (Каспяровіч).

**Палец,** гл. **Рука**

**Патыліца,** гл. **Галава**

**Паха**

Унутраная частка плечавога выгібу.

*пах* м. – Гарад., Браг. (АЛА, Мат. Гом.), *па́ха* ж. – паўн.-усх. д. (АЛА, Станкевіч, Насовіч), *паха́* ж. – Чач. (Мат. Гом.), *па́хва* ж. – Слуц., Драг., Жытк., Жлоб., Браг. (АЛА, ДСБ, Н. сл-сць, Мат. Гом., Шаталава), *пахва́* ж. – Драг., Маз., Браг. (ЛАБНГ, АЛА, Насовіч, Мат. апыт.), *па́хвіна* ж. – Чач. (ЖНшС), *пахвіна* ж. – Дзятл., Беш., Лельч. (АЛА, Мат. Гродз., Каспяровіч), *падпа́ха* ж. – паўн.-усх. д., Лях. (АЛА, Мат.

Гом., Каспяровіч, Станкевіч, Мат. апыт.), *падпаха́* ж. – Кліч., Слаўг. (АЛА), *падпа́хва* ж. – Капат. (АЛА), *падпа́хі* мн., *падпа́шкі* мн. памянш. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *падпа́шша* н. – Бял., Мсцісл., Чач., Буда-Каш. (АЛА, Мат. Гом., Юрчанка), *мы́шка* ж. – Пух. (АЛА), *падмы́шка* ж. – Івян., Гор., Брэсц., Пін., Хойн. (АЛА), *по́друкі* мн. – Кам., Стол. (ТС, ЖНС), *падруч'е* н. – Стол. (ТС).

**Пахвіна**

Месца паміж бядром і ніжняй часткай жывата.

*па́ха* ж. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *пахва́* ж. – зах.-пал. г., Жытк. (ЛАБНГ, ТС, Станкевіч), *па́хва* ж. – Кліч. (ЖС), *пахво́* ж. – Жытк. (ТС), *пахві́на* ж. – Шарк., Лаг., Бяроз. (ЛАБНГ, Варлыга), *ві́лкі* мн. – Чач. (ЖС, Насовіч).

**Паясніца,** гл. **Спіна**

**Перадплечча,** гл. **Рука**

**Пераноссе,** гл. **Нос**

**Печань**

Унутраны орган чалавека, які вырабляе жоўць.

*пе́чань* ж., *пячо́нка* ж. – агульн., акрамя зах.-пал. г., Смален. р. (АЛА, СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Дабравольскі, Янкоўскі), *пячо́нкі* мн. – Кліч., Крыч. (АЛА), *печані́(е́)* мн. – Брасл., Верхнядзв., Гродз., Шчуч., Віл., Уздз., Ганц. (АЛА, СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *пе́чаня* ж. – Мёр. (АЛА), *пе́чані* мн. – паўн.-зах. з., Вілен. р., Беластоц. р. (АЛА, СПЗБ, ЖС, Станкевіч), *пе́чаніцы* мн. – Гом. (НЛГ), *пячэ́ня* ж. – зах.-пал. г. (АЛА, ДСБ), *пічане́ўя* ж. – Лаг. (Варлыга), *цяжкія* мн. – Воран., Валож. (АЛА), *ця́жкія пе́чані* – Смарг., Лях. (АЛА), *вантро́ба* ж. – Віц. р., Іўеў., Карэл., Брэсц., Бяроз., Вілен. р. (АЛА, СПЗБ, Каспяровіч), *вагку́ша* ж., *ва́жкае* н. – Жытк. (ТС, НС).

## Плява

Мышачная перагародка, якая аддзяляе грудную поласць ад брушной.

*плява́* ж. – Воран., Дзятл., Чэрв., Добр. (Мат. Гродз., Мат. Гом., Шатэрнік), *пле́ва* ж. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *пле́ўка* ж. – Лаг., Брэсц. (ДСБ, Варлыга).

## Плячо

Частка тулава ад шыі да рукі.

*плячо́* н., *пле́чы* мн. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Станкевіч, Юрчанка, Янкова, Янкоўскі, Мат. апыт.), *плячко́* н. – Брэсц., Бяроз., Драг. (АЛА, Мат. апыт.), *плячáк* м. – Навагр. (З нар. сл.), *плячу́к* м. – Карэл., Чэрв., Капыл., Пух., Бярэз., Лях. (АЛА, Шатэрнік), *напле́чнік* м. 'плячук' – Валож. (СЦБ), *плячкí* мн. ласк. – Латгал. р. (НС), *апле́чкі* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *ра́ме* н. – мясц. (Насовіч), *рамяно́* н., *рамёна* мн. – Воран. (Сл. Гродз., Мат. Гродз.), *ке́пель* м. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *бу́рка* ж. – Кам. (АЛА), *барко́* н. – Зэльв. (Сл. Гродз.), *бэ́гі* мн. – Воран. (Сл. Гродз.), *гівяр* м. іран. – Лід. (Сл. Гродз.).

## Пузыр

Пухір у целе чалавека, які змяшчае ў сабе вадкасць.

*пузы́р* м. – мясц. (Станкевіч), *мачно́й пузыр* – Смален. р. (Дабравольскі), *пукíр* м. – Стол. (ДСБ), *паўхíр* м. – Віц. (Каспяровіч), *мыхíр* м. – Кобр. (НЛ).

## Пуп

Рубец на сярэдзіне жывата.

*пуп* м., *пупо́к* м. памянш. – агульн., Смален. р. (ТС, Янкоўскі, Станкевіч, Шатэрнік, Варлыга, Дабраволь-

скі); *пупо́віна* ж., *пупо́вінка* ж. памянш. 'шнурападобны орган, які злучае зародак чалавека з арганізмам маці' – Жытк. (ТС).

**Пятка,** гл. **Нага**

**Рабро**

Дугападобная вузкая косць, якая ідзе ад хрыбетніка да грудной косці.

*рабро́* н. – агульн. (СПЗБ, ТС, Цыхун, Мат. апыт.), *ро́бра* мн. – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *рэ́бры* мн. – паўн.-зах. з., Зах.-бран. р. (СПЗБ, Растаргуеў), *рабры́на* ж . – Слон., Чэрв., Добр., Браг. (Мат. Гродз., Мат. Гом., Шатэрнік), *пярэ́брына* ж. – Чач., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі, Мат. апыт.), *дра́бы* мн. – Сен., Віц., Смарг., Докш., Чэрв. (Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Станкевіч, Насовіч), *дры́бы* мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *дэ́рбы* мн. – Пух. (СЦБ), *жэ́бры* мн. – Астр. (Мат. Гродз.), *ска́ба* ж., *ска́бы* мн. – паўн.-зах. з., Віц. (СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч).

**Радзімка**

Прыродная пляма на скуры чалавека.

*радзімы знак* – паўн.-зах. з., Чэрв., Стол., Беластоц. р. (ТС, СПЗБ, Мат. Гродз., Шатэрнік), *радзі́мая заме́тка, пры-ро́дная пля́ма* – Вілен. р. (СПЗБ), *чо́рны знак* – Жытк. (ТС).

**Рот**

Поласць паміж верхняй і ніжняй сківаніцамі і шчокамі да глоткі.

*рот* м. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Шатэрнік, Насовіч, Янкова, Юрчанка, Яўсееў, Мат. апыт.), *гу́ба* ж. – паўн.-зах. з. (АЛА, СЦБ, Нар. сл-сць,

Мат. мін.-мал.), *губа́* ж. – Паст., Лаг. (АЛА, Варлыга), *я́па* ж. экспр. – Мсцісл., Жытк. (ТС, З нар. сл.), *ля́па* ж. экспр. – паўн.-усх. д., Клецк., Зах.-бран. р. (СПЗБ, СЦБ, НЛ, Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., Шатэрнік, Варлыга, Растаргуеў), *ля́паўка* ж. экспр. – Слуц. (ЖС), *хля́па* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *зя́па* ж. груб. – Віц. р., Пол., Пух., Мсцісл., Жытк., Гом. р. (ТС, СЦБ, НЛ, НЛГ, Станкевіч, Каспяровіч), *ця́па* ж. – Крыч. (АЛА), *га́па* ж. – Стол., Жытк. (ТС, НС), *вы́ліцы* мн. – Драг., Пін. (ЖС, ЖНшС), *хлебагры́зка* ж., *хлебарэ́зка* ж., *хабо́тня* ж. 'рот з зубамі' – Клецк. (НЛ), *халя́ва* ж. перан. – мясц. (Насовіч), *ха́ліпа* ж. груб. – Бых. (ЖНС), *мя́лка* ж. экспр. – Леп. (ЖНшС), *ю́ха* ж. экспр., *ю́шка* ж. перан. экспр. – Жытк. (ТС), *гэ́мба* ж. – Астр. (СРЛГ), *у́ста* ж., *уста́* мн. – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *па́калатка* ж., *ля́віца* ж. іран.– Слон. (ЖС, Мат. Гродз.), *го́рла* н. – Кам. (ЖНС), *ге́нба* ж. – Гом. р. (НЛГ), *па́стка* ж. 'вялікі рот' – Чэрв. (Шатэрнік); **верхняя частка поласці рота:** *паднябе́нне* н. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гом., Мат. Гродз., Варлыга, Шатэрнік, Каспяровіч, Станкевіч), *не́ба* н. – паўдн.-усх. з., Гарад. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Мат. Гом., НЛГ, Янкова), *нёба* н. – віц.-маг. г., Пін. (ЛАБНГ, АЛА, Насовіч); **рухомы мышачны орган у ротавай поласці:** *язык* м., *язычо́к* м. памянш. – агульн., Смален. р. (ТС, ГЧ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Юрчанка, Янкоўскі, Янкова, Бялькевіч, Станкевіч, Насовіч, Дабравольскі, Цыхун, Мат. апыт.); **рухомыя складкі, якія ўтвараюць край рота:** *гу́бы* мн. – агульн., акрамя заходняй і паўночнай частак паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА), *губа́* ж. – Лід., Дзятл., Гл., Жытк., Лоеў. (ТС, Мат. Гродз., Янкова, Янкоўскі), *гу́ба* ж. – Смарг., Чэрв., Жытк. (ТС, Шатэрнік, Станкевіч), *губя́ка* ж. – Жытк. (ТС), *гу́пель* м., *гу́пля* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *лу́пы* мн. экспр., *лу́па* ж. абразл. – паўн.-зах. з., паўн. р., Беластоц. р. (АЛА, СПЗБ, СЦБ, НЛ, ЖНшС, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., Шатэрнік, Каспяровіч, Станкевіч, Яўсееў, Цыхун, Сцяцко), *лу́псі* мн. іран. – Ваўк., Зэльв. (Сл. Гродз., Сцяцко), *ву́сны* мн. – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Каспяровіч), *ву́сты* мн. – Брасл. (ЛАБНГ, АЛА), *у́сты* мн. – Астр., Ашм. (ЛАБНГ), *у́сны* мн. – Віл. (ЛАБНГ), *грыбы́* мн. – віц.-маг. г., спарадычна Гом. р., Рас. (ЛАБНГ, АЛА, Н. сл-сць,

Каспяровіч, Зах.-бран. р., Станкевіч, Насовіч, Юрчанка, Мат. апыт., Растаргуеў), *грыбілы* мн. абразл. – Мсцісл. (Юрчанка), *грыбе́лкі* мн. зневаж. – Чач. (Мат. апыт.), *брылы* мн. – Шкл. (Н. сл-сць, Мат. Маг.), *цадзе́лкі* мн. перан. груб. – Мсцісл. (Юрчанка), *пыкі* мн. – Пруж. (ДСБ), *зе́кра* мн. груб. – Жытк. (ТС), *цыра* ж. – Карэл. (Мат. Гродз.), *рот* м. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.); *цылба́лы* мн. перан. 'тоўстыя губы' – мясц. (Станкевіч); **косцепадобны орган у роце для адкусвання і разжоўвання ежы:** *зуб* м., *зу́бы* мн. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ГЧ, ТС, Мат. дыял. сл., Мат. Гродз., Шатэрнік, Станкевіч, Юрчанка, Янкова, Янкоўскі, Мат. апыт.), *зу́б'е* н. зб. – Стол. (ТС), *зубяня́ты* мн. экспр. – Мядз. (СЦБ), *процівóчнікі* мн. – Лід. (Мат. Гродз.), *ікóл* м., *іклэ́* мн. 'карэнныя зубы' – Дзятл. (Мат. Гродз.); *ку́тні* прым. – Зэльв., Чач., Лоеў., Браг., Смарг., Лаг., Стол. (ТС, Мат. Гом., Станкевіч, Сцяцко, Янкова, Мат. апыт.), *аку́тні* прым. – Слон. (Сл. Гродз.), *ку́тнік* м. – паўдн.-усх. з., Зэльв. (ЖС, Мат. Гом.), *цемянны* прым., *бакавы* прым. – Гом. (НЛГ), *карнявік* м. – Ветк. (Мат. Гом.), *бацькі* мн. – Жытк. (ТС), *ба́бкі* мн. – мясц. (Станкевіч), **верхнія пярэднія зубы**: *кірмашóвік* м. экспр., перан. – Смарг., Маладз., Круп. (СЦБ, Сл. Гродз., Мат. дыял. сл.), *кірмашóвыя* прым. – Круп. (Мат. мін.-мал.), *вярхóўе* н. – Жытк. (ТС), *пярэдні* прым. – Чач. (Мат. апыт.), *прыку́сы* мн. – Лоеў. (Янкова), *грызунец* м. – Смарг. (Сл. Гродз.); **малочныя зубы**: *малóчнік* м., *малóчнікі* мн. – Стаўб., Кругл., Лоеў. (СЦБ, Мат. Маг., Янкова), *хле́бнічак* м. – Дзятл. (Мат. Гродз.); **зуб мудрасці**: *красля́к* м. – Смарг., Маладз. (СЦБ, Сл. Гродз.), *рагаві́к* м. – Воран. (Мат. Гродз.); **зуб-клык**: *ваўча́к* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *клыкі* мн. – Навагр. (Мат. Гродз.), *глазны́ зуб* – Дзятл. (Мат. Гродз.); *баля́сы* мн. перан. 'доўгія зубы' – Жытк. (ТС); *ве́сніцы* мн. перан. 'рэдкія зубы' – Зэльв. (Сцяцко), *ячавы́* прым. 'зуб, на якім больш за ўсё кусаюць' – Зэльв. (Сцяцко); *пень* м., *пянёк* м. памянш. 'частка зуба, якая знаходзіцца ў целе' – Люб., Чач., Лоеў. (Янкова, Мат апыт); **слізістая абалонка поласці рота, якая пакрывае зубныя адросткі сківіц:** *дзя́сны* мн., *дзя́сна* мн., *дзясна́* ж. – асн. мас. г., акрамя Віц. р., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, ТС, Станкевіч, Растаргуеў, Шатэрнік),

*дзя́сна* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *дзясно́* н. – Гарад. (НС), *я́сна* мн. – спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *дзёсны* мн. – паўн.-усх. д., спарадычна Паням. р., Бяроз. (ЛАБНГ), *дзя́сны* мн. – Валож., Арш., Гор., Мсцісл., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі); *я́сла* мн., *я́сла* ж., *е́сла* мн. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЖНС, Шаталава), *я́слі* мн. – Пол., Бяроз. (ЛАБНГ), *я́лкі* мн. – Віц. р. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *я́лка* мн. – Брасл., Лёзн. (ЛАБНГ); **частка твару, у якой знаходзяцца зубы:** *сківіцы* мн. – пал. р., гродз.-бар. г., Мін. р. (ЛАБНГ, АЛА, ТС), *па́скавіцы* мн. – Лаг. (ЛАБНГ), *са́ні* мн. – Пруж. (ЛАБНГ), *са́нкі* мн. – паўн.-усх. д., спарадычна зах.-пал. г., Чэрв., Смален. р. (ЛАБНГ, АЛА, ДСБ, Каспяровіч, Яўсееў, Дабравольскі, Мат. апыт.), *са́начкі* мн., *са́начка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *па́шчы* мн. – Касц., Чач. (ЛАБНГ, АЛА), *па́шчыкі* мн. – спрадычна зах.-пал. г., Ветк., Нараўл., Чач. (ЛАБНГ, АЛА, ЖНшС, Мат. Гом., Мат. апыт.), *пашчу́кі* мн. – Брэсц. (АЛА), *пашчэ́мкі* мн., *пашчэ́мак* м., *пашчэ́мка* ж., *пашчо́мка* ж. – спарадычна паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., Шаталава), *пашчэ́нкі* мн., *пашчэ́нак* м., *пашчэ́нка* ж. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, АЛА, ЖС, ЖНС, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал.), *пашчо́нкі* мн. – Зэльв. (ЛАБНГ), *по́шчанка* ж. – Слон., Лельч. (Мат. Гродз., Кучук), *па́шчынкі* мн. – Касц. (ЛАБНГ), *па́шчанак* м., *па́шчанне* н. зб. – Мсцісл. (Юрчанка), *чэ́люсці* мн., *чэ́люсць* ж. – спарадычна ўсх. з. і зах.-пал. г., Карэл., Маладз., Стаўб., Капыл. (ЛАБНГ, АЛА), *чэ́люшчы* мн. – Капатк. (ЛАБНГ), *шчэ́люшчы* мн. – Старадарож., Гом. (ЛАБНГ), *шчэ́люсці* мн. – Ветк. (ЛАБНГ), *чэ́лепы* мн. – Хойн. (Шаталава), *шчэ́лепы* мн., *шчэляпа* ж. – паўдн.-усх. з., сярэд.-бел. г., Зэльв., Стол. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Мат. Маг., Варлыга, Станкевіч, Шаталава, Янкова), *шчэ́лепіна* ж., *жэля́зы* мн. – Жытк. (ТС, АЛА), *шчэ́леты* мн. – Карм. (ЛАБНГ), *ашчалёпы* мн., *ашчалёны* мн. – Бял. (ЛАБНГ, НС), *звя́гі* мн. – Карэл. (ЖС), *зява́* мн. – Жлоб., Акц. (ЛАБНГ), *хра́па* ж. – мясц. (Насовіч), *ляпка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *ка́чкі* мн. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў); **ніжняя сківіца**: *па́шчака* ж. – мясц. (Насовіч), *па́шчыка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *пашчэ́нка* ж. – Зэльв. (Сцяцко).

## Рука

Верхняя канечнасць чалавека ад плечавога сустава да канца пальцаў.

*рука́* ж., *ру́чка* ж. памянш. – агульн., Смален. р. (АЛА, ТС, НЛГ, ГЧ, Мат. Гом., Мат. дыял. сл., Шатэрнік, Насовіч, Дабравольскі, Станкевіч, Янкоўскі, Юрчанка, Мат. апыт.), *ру́ка* ж. – Браг. (ГЧ), *ручаня́* н., *ручаня́ты* мн. памянш. – Гродз., Зэльв., Драг. (АЛА, Цыхун., Сцяцко, Мат. апыт.), *руча́йка* ж. – Капатк. (АЛА), *ла́па* ж. перан. – мясц., Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *лю́шня* ж., *лю́шні* мн. 'доўгія рукі' – Клец. (НЛ); **правая рука**: *праві́ца* ж. – мясц. (Насовіч), *праўша́* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *пра́вая* (рука) – Нараўл. (ГЧ); **левая рука**: *ляўша́* ж. – Чэрв., Мсцісл. (Шатэрнік, Юрчанка), *ляві́ца* ж. – мясц. (Станкевіч), *ма́нька* ж. – Кам. (ЖНС); **частка кісці рукі паміж перадплеччам і пясцю:** *запя́сце* н. – Рас., Лёзн., Леп., Круп., Навагр., Пін. (АЛА), *запя́сць* ж. – Маст. (АЛА), *запа́сць* ж. – Карэл. (АЛА), *запя́рсць* ж. – Зэльв. (АЛА), *цу́рка* ж. – Калінк., Хойн. (АЛА), *цуго́лка* ж. – Рэч. (АЛА), *цыгу́лка* ж. – Браг. (АЛА), *ко́стачкі* мн. – Івян. (АЛА), *пало́каць* м. – Лун. (АЛА), *во́бліца* ж. – Капатк. (АЛА), *члу́нкі* мн. – Шчуч. (АЛА), *хібі́ж* м. – Кам. (АЛА), *пле́чыка* н. – Гродз. (АЛА), *кіста́* ж. – Пол. (АЛА), *плюсно́* н. – Смарг. (АЛА); **парная трубчастая косць плечавога пояса чалавека, якая злучае лапатку з грудзінай:** *пля́чыіца* ж., *плячыі́цка* н. – Стол., Жытк. (ТС), *ключы́іца* ж. – Слуц., Люб. (Мат. апыт.), *пе́лька* ж. – Маг. (Мат. Маг.); **аснова кісці рукі:** *пясць* ж. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пя́сце* н. – Жлоб., Буда-Каш., Лоеў., Браг. (Мат. Гом., Янкова), *ла́пка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ); **астатак пакалечанай рукі:** *ку́кса* ж. – агульн., Зах.-бран. р. (ТС, Мат. Гом., Шатэрнік, Насовіч, Растаргуеў, Варлыга, Янкоўскі), *укса́н* м., *укс* м. – Стол. (ТС), *ку́ка* ж. – Мядз. (Н. сл-сць), *куко́н* м. – Жытк. (ТС), *ку́кта* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *ку́мса* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *куцэ́ўка* ж. – Ветк. (Мат. Гом.), *куцо́бка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *ку́льта* ж. – Лоеў. (Янкова), *кульця́* ж. – Верхнядзв. (СПЗБ); **далонь з пальцамі; кісць:** *пецярня́* ж. – Жытк. (ТС),

якая не хоча і не любіць працаваць' – Навагр. (З нар. сл.), *до́даль* м. – Слуц. (ЖС), *тэ́ндаль* м. 'гультаяваты дзяцюк' – Слуц. (ЖС), *га́лда* аг. – Чэрв. (Мат. мін.-мал.), *галгая́нка* ж. – Уздз. (СЦБ), *рудзі́ля* ж. – Малар. (ЖНС), *пацяне́чнік* м. – Ганц. (ЖНС), *гнёнік* м. экспр. 'абібок, гультай, хітрун' – Слон. (ЖНС), *стрыхлі́на* м. і ж. асудж. – Гродз. (ЖНС), *абро́тнік* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *ачкула́с* м. 'гультай, сарвігалава' – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *лу́чнік* м. – Петр. (Мат. Гом.), *лізбе́нь* м. – Раг. (Мат. Гом.), *зау̂го́льнік* м., *зау̂го́льніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *лабу́з* м. гумар. – Мсцісл. (Юрчанка), *сту́пень* м. і ж. эмац. – Мсцісл. (Юрчанка), *гуц* м. – Гродз. р. (Цыхун), *како́ра* м. і ж. – Гом. (Мат. Гом.), *брус* м. перан. груб. 'лежабок' – Мсцісл. (Юрчанка), *го́йда* м. і ж. – Касц. (Мат. Маг.), *бац* м. – Касц. (Мат. Маг.), *ха́тніца* ж. – Рас. (Шаталава), *друк* м. перан. 'гультай' – Лоеў. (Янкова), *серапе́ка* ж. – Лоеў. (Янкова), *ме́нтух* м. абразл. – Лоеў. (Янкова), *чыко́ха* ж. зневаж. – Гл. (Мат. Маг.), *ту́йка* ж. – Гарад. (Каспяровіч, Станкевіч), *туляя́* м. і ж. – Пух. (Шатэрнік, Станкевіч), *біёмін* м. – Зэльв. (Сцяцко), *лашта́й* м., *лашта́йка* ж. – Браг. (Н. сл-сць), *гаталя́й* м. – Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *беззабо́тніца* ж. асудж. – Навагр. (НС), *балы́га* аг. – Смал. (Мат. мін.-мал., СЦБ), *і́бут, і́буць* м. перан. 'бадзяга, лодар' – Стол., Жытк. (ТС), *пабау̂ня́* ж. і м. экспр. – Шум. (СПЗБ), *баля́снік* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *агра́з* м. – Чэрв. (Мат. мін.-мал.), *ту́ібень* м. асудж.– Мсцісл. (Юрчанка), *пале́на* н. перан. 'лежань, гультай' – Жытк. (ТС), *лама́ш* м. – Шчуч. (СПЗБ), *ле́меш* м. перан. – Бял. (Яўсееў), *валява́ха* ж. зневаж. 'лянівая жанчына' – Светлагор. (Мат. Гом.), *віхля́й* м., *віхля́йка* ж. перан. – мясц. (Насовіч), *лацу́й* м. – Люб. (СПЗБ), *пацяга́йла* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *шалапа́дзец* м. – Краснап. (Бялькевіч), *развазе́нь, ро́звазень* м. 'лянівы' – Смален. р. (Дабравольскі), *бульбя́шнік* м., *бульбе́шнік* м. перан. асудж. 'гультай, які жыве за кошт бацькоў' – Касц. (Мат. Маг.), *валанты́рка* ж. 'жанчына, якая не любіць сядзець за справай' – мясц. (Насовіч), *дзю́ндзя* аг. 'лайдак, які ходзіць звесіўшы галаву, як п'яны' – мясц. (Насовіч), *ля́ля* ж. перан. 'распешчаная, не прывуча-

ная да працы дзяўчына' – Гродз. (Цыхун), *даліктýся* ж. іран. 'тая, што баіцца фізічнай працы' – Ганц. (ЖНС); *шмыкýн* м., *шмыкýння* ж. 'чалавек, які бегае ад працы' – мясц. (Насовіч); **лайдак, гультай; вялікі гультаяваты падростак:** *бэйбус* м. зневаж. – цэнтр. з., пераважна яе цэнтральная частка, Стол., Жытк. (ЖС, Сл. Гродз., СЦБ, Мат. мін.-мал., ТС), *бéйбус* м. – Бяроз., Стол., Жытк., Смален. р., Зах.-бран. р. (ДСБ, ТС, Дабравольскі, Растаргуеў), *бэ́йбас* м. зневаж. – Драг., Віц. р., Мёр. (НЛ, Каспяровіч, Станкевіч, З нар. сл.), *бéйбас* м. – Брэсц. (ДСБ), *бáйбус* м. лаянк. – Слуцк., Бял., Стол., Жытк., Пух., Гом. р. (З нар. сл., Яўсееў, ТС, ДСБ, Мат. мін.-мал., НЛГ), *байбáс* м. асудж. – Мёр. (З нар. сл.), *бáйбусны* прым. – Бял. (Яўсееў), *байбáсіна* м. і ж. узмацн. – Мёр. (З нар. сл.), *байбáк* м. – Гродз., Пух. (Мат. Гродз., СЦБ, Гарэцкі, Станкевіч), *байбачыска* м. узмацн. – Гродз. р. (Цыхун), *бэ́йбук* м. пагардл. – Віл. (СЦБ), *байдáк* м. – Жытк., Смален. р. (ТС, Дабравольскі), *бáйдур* м. – Жытк. (ТС), *бáйдзір* м. – Лоеў. (Янкова), *байдýра* ж. – Стол. (ТС), *байдушчына* – Жытк. (ЖНшС), *бэ́йдус* м. – Клім. (Мат. Маг.), *бык* м. перан. асудж. – Мёр., Жытк. (З нар. сл., ТС), *бычýля* м. перан. узмацн. – Мёр. (З нар. сл.), *быкавéла* м. і ж. – Стол. (ТС), *быкавéлішча* н. – Стол. (ТС), *быкса* ж. 'гультаяватая дзяўчына' – Мсцісл. (Юрчанка); **гультаяваты здаравяка:** *бастысь* м. – Віц. р. (Станкевіч, Каспяровіч), *брысь* м. зневаж. – Бял. (Яўсееў), *басіла* м. – Бял. (Яўсееў), *стаéннік* м. экспр. – Навагр. (Н. сл-сць), *мянёк* м. гумар. – Мсцісл. (Юрчанка), *агрэ́вус* м. зневаж. – Мсцісл. (З нар. сл.), *аббівáла* м. – Гом., Буда-Каш. (Мат. Гом.), *бугаіска* м. асудж. – Зэльв. (Сцяцко), *лабіна* м. асудж. – Бял. (Яўсееў); **гультай, валацуга:** *брында* м. і ж. – Гом., Віц. р., Пух., мясц. (Мат. Гом., Каспяровіч, СЦБ, Насовіч, Станкевіч), *брындзік* м. – Смален. р. (Станкевіч, Дабравольскі), *брындавýс* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *пабрыдзéнь* м. – Лаг. (Варлыга), *валацýга* м. – Касц., Крыч. (Бялькевіч), *шлында* м. і ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *сóвалка, сóванка* м. і ж. – Навагр., Шчуч. (Сл. Гродз.), *пабадзяй* м. – Лаг. (Варлыга), *заблуда* м. і ж. – Лун., усх.-маг. р. (Шаталава, Бялькевіч); **гуль-**

**тай; няўдаліца; няўмека; недарэка:** *бязу́ла* м. і ж. – віц.-маг. г. (Каспяровіч, Станкевіч, Яўсееў, Юрчанка), *бязу́ля* м. і ж. – Ваўк. (СРЛГ), *бязу́ліца* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка); **той, хто не працуе, а жыве на чужыя сродкі:** *дармае́д* м. – Гом. р., Віц. р., Смарг. (НЛГ, Каспяровіч, Станкевіч, Насовіч), *дармо́ед* м. – Стол., Жытк. (ТС), *дармае́дзіна* м. – Навар. (Н. сл-сць), *дарэ́мнік* м. – Жытк. (ТС); **гультай; чалавек, які не працуе, а сядзіць:** *се́дзень* м. – Бял., Гом. (Яўсееў, Н. сл-сць), *сяду́ха* аг., неадабр. – Круп. (Мат. мін.-мал.), *сідзя́га* м. і ж. – Лоеў. (Янкова); **гультай, лянівы, неахайны:** *апушчэ́нец* м. – Смален. р. (Насовіч, Станкевіч, Дабравольскі), *апушчэ́нка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *апушчэ́ннік* м. – Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *апушчэ́нніца* ж. – Смален. р. (Дабравольскі); **гультай, лянівы, непаваротлівы:** *дзяндзі́вір* м., *дзяндзі́вірка* ж. – мясц. (Насовіч), *дзеньдзю́ль* аг. – мясц. (Насовіч).

## Майстар, умелец

Спецыяліст у якім-н. рамястве, у якой-н. галіне вытворчасці; умелы працаўнік.

*ма́йсцер* м. – Гл., (Янкоўскі, Насовіч), *ма́йстар* м. – мясц. (Насовіч), *ма́сцер* м., *масцярыі́ца* ж. – Мсцісл., Смален. р. (Юрчанка, Дабравольскі), *ма́йсцерыха* ж. – мясц. (Насовіч), *майсцёр* м. – Жытк. (ТС), *масцеравы́* прым. – Стаўбц. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *майстравы́* прым. – Гродз. р. (Цыхун), *маста́к* м. 'чалавек, які зрабіў нешта выкшталцона, па-майстэрску' – мясц. (Насовіч), *дзе́льнік* м., *дзе́льніца* ж. – мясц. (Насовіч), *дзяле́ц* м. – Мсцісл. (Бялькевіч), *здзе́льны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *здзе́луха* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *здзе́лашнік* м., *здзе́лашніца* ж. – Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *задзе́льніца* ж. – Лаг. (Варлыга), *уме́ха* м. і ж. іран. – Мёр., Пол., Гл., Лоеў., Чач., Навагр. (З нар. сл., НЛ, Янкоўскі, Янкова, Мат. апыт., Н. сл-сць), *уме́лы* прым. – Барыс., Лаг. (Мат. дыял. сл., Варлыга), *уме́юшчы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *уме́лушчы* прым. – Жытк. (ТС), *ру́чы*

прым. – Шчуч., Гл., Лаг. (Сл. Гродз., Янкоўскі, Варлыга), *ручны́* прым. – Гом. р., Жытк., Лельч. (НЛГ, ТС, Мат. Гом.), *рука́ты* прым. – Ушацк., Смарг., Жытк. (НЛ, Сл. Гродз., ТС), *уда́лы* прым. – Карэл., Смарг., Вілен. р. (СПЗБ), *удале́ц* м. – Віл. (СПЗБ), *уда́луха* ж. – Круп. (СПЗБ), *прыўда́лы* прым. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *дасу́жы* прым. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *дасу́жны* прым. – Пух. (ЖС), *зда́тны* прым. – Лаг., Карэл., Свісл., Гродз. р. (Варлыга, СПЗБ, Цыхун, Насовіч), *мэт* м. іран. ’майстар’ – Бял. (Яўсееў), *до́ка* – Чэрв. р. (Шатэрнік), *ма́хер* м. іран. – Зэльв. (Сцяцко), *спец* м. ’спецыяліст, майстар’ – Бял. (Яўсееў), *раме́снік* м. ’хто мае нейкі талент у руках’– Лаг. (Варлыга), *хібе́тніца* ж. ’якая ўсё вельмі добра ўмее рабіць’ – Браг. (З нар. сл.), *тка́чыца* ж. ’здольная да ткання’ – Смален. р. (Дабравольскі), *танкапра́дзіца* ж., *танкапра́лля* ж. ’якая тонка прадзе’ – Смален. р. (Дабравольскі), *самадзе́лка* ж. ’якая ведае простае рукадзелле’ – мясц. (Насовіч), *стагаві́к* м. ’той, хто ўмее добра складаць сена ў стагі’ – Гл. (Янкоўскі), *вазаві́к* м. ’той, хто ўмее добра накласці воз сена’ – Гл. (Янкоўскі), *рукадзе́льніца* ж. ’жанчына, якая займаецца рукадзеллем’ – Навагр., Дзятл. (Мат. Гродз.), *ка́ца* ж. ’здатная, умелая жанчына’ – Віл. (СЦБ), *хібе́тны* прым. ’здатны, умелы’ – Гом. р. (НЛГ); **дзелавы, умелы:** *дзелавы́* прым. – Смарг., Паст., Беластоц. р. (СПЗБ), *дзелава́ты* прым. – Лоеў. (Янкова), *дзяло́к* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *о́хар* м. – Бял. (Яўсееў), *талко́вы* прым. ’талковы, дзелавы’ – Брасл., Вілен. р. (СПЗБ), *пу́тны* прым. ’здольны, дзелавы’ – Мсцісл. (Юрчанка), *віхто́вы* прым. ’дзейны, дзелавіты’ – Слаўг. (Н. сл-сць).

### Марудлівы, непаваротлівы ў працы

Які павольна, без паспешлівасці працуе; няспрытны.

*карпа́ч* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *карпу́н* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *мя́ліца* аг. – Смален. р. (Насовіч, Дабравольскі), *мялава́ты* прым. – Беластоц. р. (СПЗБ), *капу́н* м. асудж., *капу́ха* ж. асудж.– Мёр., Смален. р., Зах.-бран. р., Бял. (З нар. сл., Дабравольскі, Растаргуеў,

Яўсееў, Насовіч), *капо́шка* м. і ж. – Бял. (Мат. дыял. сл.), *капашы́ла* аг. – мясц. (Насовіч), *капа́йла* аг. – мясц. (Насовіч), *калупа́с* м. – Бял. (Яўсееў), *калупе́йка* – Лаг. (Варлыга), *калу́пша* ж. – Бял. (Яўсееў), *калы́пша* м. і ж. – Кругл. (ЖНС), *мару́дны* прым. – Гродз., Лях. (СПЗБ), *мару́днік* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *мару́да* аг. – мясц. (Насовіч), *мару́дзька* аг. памянш. – мясц. (Насовіч), *цю́хця* м. і ж. зневаж. – Гор. (Мат. Маг.), *цюхце́ль* м. – Лаг. (Варлыга), *цю́хель* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *целяпа́йла* н. – Зэльв. (Сцяцко), *цялёпа* – Смален. р. (Дабравольскі), *зацялёпа* м. і ж. – мясц. (Станкевіч), *прыі́целепак* м. – Клецк. (НЛ), *таппту́н* м., *тапту́ха* ж. – Мёр., Жытк. (З нар. сл., ТС), *тэ́пталь* м. асудж. – Мёр. (З нар. сл.), *хамя́га* аг. – мясц. (Насовіч), *па́пля* аг. – мясц. (Насовіч), *пы́пля* м. і ж. іран. – Мсцісл., Смален. р. (Юрчанка, Дабравольскі), *пы́пла* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *ле́нты* прым. 'не энергічны ў працы' – Смарг. (Станкевіч), *таро́кала* м. і ж. асудж. – Мёр. (З нар. сл.), *мэ́ша* ж. зневаж. 'непаваротлівая, павольная ў працы жанчына' – Слуц. (Н. сл-сць), *ацiля́ка* м. і ж. асудж. – Мёр. (З нар. сл.), *кі́жла* м. і ж. 'той, хто марудна і няўмела што-н. робіць' – Кір. (НС), *кіжлу́н* м. – Кір. (НС), *мя́млік* м. 'павольны ў рабоце і размове, мямля' – мясц. (Насовіч), *няўпра́ўны* прым. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *няўклю́дны* прым. 'нясkладны, няспрытны' – Жытк. (ТС), *караўзно́* н. груб. перан. 'непаваротлівая асоба, лайдачка' – Жытк. (ТС), *дру́пала* аг. 'маруда' – Слон. (ЖНшС), *тру́ля* м. і ж. 'марудлівы чалавек' – Лід. (СРЛГ), *по́ркала* аг. – мясц. (Станкевіч), *калдыба́йла* аг. 'няхуткі ў хадзе і працы' – мясц. (Насовіч), *лунь* м. 'гультай, маруда, нерухлівы' – Лаг. (Варлыга), *кэ́ца* м. і ж. 'няўмека, маруда' – Драг., Бяроз. (ДСБ, НЛ), *бязру́чча* н. зневаж. 'няспрытны, няўдалы ў рабоце' – Лаг. (Мат. мін.-мал., СЦБ).

## Негаспадарлівы

*пустадо́мны* прым. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пустадо́м* м., *пустадо́мка* ж. – мясц. (Насовіч), *пустадо́мак* м. – Нясв., Пух. (СПЗБ), *апушчэ́льнік* м. – Мсцісл. (Бялькевіч),

*нехазя́йлівы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *раскі́дны* прым. – Маст. (Сл. Гродз.), *расташчы́ха* ж. – Краснап. (Бялькевіч), *пацяга́ка* – Леп. (ЖНшС), *блудзя́га* м. і ж. зневаж. 'бесклапотная і безгаспадарлівая асоба' – Мсцісл. (Юрчанка).

### Неруплівы, нядбайны

Нестаранны; які абыякава адносіцца да сваіх абавязкаў.

*нядба́лы* прым. – Віц. р., (Каспяровіч, Насовіч), *нядба́льны* прым. – Віц. р. (Каспяровіч), *нядба́йні* прым. – Стол. (ТС), *нядба́йлівы* прым. – Жытк. (ТС), *недбайлю́шчы* прым. – Стол. (ТС), *нядба́йла* м. і ж. – Віц. р., Паст., Брасл., Мёр., усх.-маг. р., Стол., (Каспяровіч, СПЗБ, З нар. сл., Бялькевіч, ТС, Насовіч), *нядба́ліца* ж. – Ветк., Бял., Бар., Іўеў., (Мат. Гом., Мат. дыял. сл., СПЗБ, Насовіч), м. і ж. – Карэл., Навагр. (СПЗБ), *нядба́йліца* ж. – Лід. (Мат. Гродз.), *нядба́йліна* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *нядба́йнік* м., *нядба́йніца* ж. – Чэрв. р., Ветк., Стол., Жытк., Глыб. (Шатэрнік, Мат. Гом., ТС, СПЗБ), *нядба́льшчык* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *нядба́йлішча* м. узмацн. – Зэльв. (СРЛГ), *нядба́йліска* м. узмацн. – Зэльв. (Сцяцко), *бязру́патны* прым. – Мсцісл., Воран. (Юрчанка, Станкевіч, Сл. Гродз.), *бязру́патлівы* прым. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *бязру́пацце* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка, Станкевіч), *разгільдзя́й* м. экспр. – Воран., Гом. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *лазгіма́х* м. здзекл. – Дзятл. (СРЛГ), *кацьма́к* м. зневаж. – Карэл. (Мат. Гродз.), *халя́йстра* м. і ж. – Беластоц. р. (СРЛГ), *нетурбо́тны* прым. – Мсцісл. (Бялькевіч).

### Няўмека, партач

Няўмелы, няздатны да працы; той, хто псуе працу.

*няўме́лы* прым. – Віл., Гл., Жытк., (СПЗБ, Янкоўскі, ТС, Станкевіч), *няўме́лушчы* прым. – Жытк. (ТС), *няўме́ка* м. і ж. – Мядз., Лаг., Чэрв. р., Віц. р., Мёр., Гом. р., Жытк., Гл., Петр., Зах.-бран. р., Чач., (СПЗБ, Варлыга,

Шатэрнік, Каспяровіч, З нар. сл., НЛГ, ТС, Янкоўскі, Мат. Гом., Растаргуеў, Мат. апыт., Насовіч, Станкевіч), *няўме́луха* ж. – Стол. (ТС), *няўме́лька* аг.– мясц. (Станкевіч), *няўме́чка* – Слуц. (ЖНшС), *няўме́ха* м. і ж. – Жытк. (ТС), *пэ́цкаль* м. ’дрэнны майстар, папсуй’ – Клім., Бял., Лаг., Чэрв. р., Смарг. (Бялькевіч, Яўсееў, Варлыга, Шатэрнік, Станкевіч), *пэ́цкала* н. – Навагр. (Н. сл-сць), *парта́ч* м., *парта́чка* ж. экпр. – Жытк., Зах.-бран. р. (ТС, Насовіч, Растаргуеў), *папсу́й* м., *папсу́йка* ж. асудж. – Бял., Лаг. (Яўсееў, Варлыга), *паро́цька* аг. ’асоба, што не мае поспеху ў рабоце; дрэнны працаўнік’– Лаг., Чэрв. р. (Варлыга, Шатэрнік), *зло́мак* м. – Мядз. (СЦБ), *лама́ка* м. і ж. перан. – Докш., Лаг., Ашм. (Мат. дыял. сл., Варлыга, СПЗБ), *ламакава́ты* – Лаг. (Варлыга), *няго́дны* прым. – Лоеў., Стол., Жытк. (Янкова, ТС), *негадзя́й* м., *негадзя́йка* ж.– Жытк. (ТС), *негадзя́шчы* прым. – Жытк. (ТС), *няўда́ха* ж. – Стол., Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *няўда́лы* прым. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *няўда́ліна* м. і ж. – Шчуч. (СПЗБ), *неўдало́та* м. і ж. – Астр. (СРЛГ), *гламазда́, грамазда́* м. і ж. ’няўмека; той, хто грувасціць, нагрувашчвае’ – Ваўк., Лаг., Мсцісл. (Мат. Гродз., Варлыга, Юрчанка), *нязгра́да, нязгрэ́да* м. і ж. – Жытк., Старадарож. (Н. сл-сць, ЖНшС), *ро́бля* ж. ’благая работніца’ – Лаг. (Варлыга), *бры́днік* м. асудж. – Маст. (СРЛГ), *саўлы́га* аг. неадабр. ’чалавек, які робіць абы-як’ – Смален. р. (Дабравольскі), *варзо́па, варзэ́па* – Смален. р. (Дабравольскі), *бяспро́кі* прым. – Віц. р. (Каспяровіч), *абу́знік* м. – мясц. (Насовіч), *бурзо́ла* м. і ж. асудж. ’неакуратная пры ядзе і ў рабоце асоба’ – Мёр. (З нар. сл.), *няўло́жаны* прым. ’непрывучаны да працы’ – мясц. (Станкевіч), *няўла́дзіца* аг. – мясц. (Станкевіч), *каўга́н* м. і ж. абразл. – Зэльв. (Сцяцко), *ка́луш* м. і ж. грэбл. – Зэльв. (Сцяцко), *ка́цпан* м. і ж. зневаж. ’неахайны, няўмека’ – Зэльв. (Сцяцко), *abламо́ха* м. і ж. – Маст. (СРЛГ), *шулда́* м. і ж. – Жлоб. (Мат. апыт.), *лёмця* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *някдэ́ба* м. і ж. – Гом. (Н. сл-сць), *нязда́ра* – Чэрв. р. (Шатэрнік), *няве́дала* м. і ж. – Ельск. (Мат. Гом.), *нясклёпа* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *нескладу́ха* ж. ’жанчына, якая робіць усё няўдала’ – Раг. (Мат.

дыял. сл.), *ністро́пця* ж. – Клецк. (НЛ), *недацёпа* м. і ж. – Добр. (Мат. Гом.), *не́ўра* м. і ж. – Ельск. (Мат. Гом.), *кавяр-зá* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *вара́кса* м. і ж. экспр. 'няўмека, пэцкаль, няўдаліца' – Стаўб. (З нар. сл.), *мазі́лка* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *няздзе́льніца* ж. – Краснап. (Бялькевіч), *кацала́пы* перан. асудж. 'той, у каго ўсё валіцца з рук' – Зэльв. (Сцяцко), *няўклю́да, няўхлю́да* м. і ж. – Ашм., Смарг. (СПЗБ), *ты́кля* м. і ж. – Воран. (СРЛГ), *загава́ла* м. і ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *ге́пала* м. і ж. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *кілдá* м. і ж. – Жлоб. (Мат. апыт.), *забарсень* м. перан. абразл. – Мсцісл. (Юрчанка), *кавярзе́нь* м. лаянк. 'няважны, няўклюдны работнік' – Смален. р. (Дабравольскі), *бры́нда* м. і ж. 'неахайны, неакуратны ў рабоце чалавек' – Слуц., Навагр. (ЖС, Н. сл-сць), *хамазá* ж. 'які хутка, але дрэнна робіць' – Светлагор. (ЛАБНГ), *ната́хкала* м. іран. 'які робіць усё хутка, але не якасна'– Лун. (ДСБ), *не́прадзь* 'жанчына, якая не ўмее прасці'– Лун. (Шаталава), *нятка́-ха* ж. 'жанчына, якая не ўмее ткаць' – Смален. р. (Дабравольскі), *трапяту́н* м. неадабр. 'чалавек, які знешне стараецца, а па сутнасці абыякава адносіцца да сваёй справы' – Ашм., Іўеў. (Сл. Гродз.), *запамо́га* ж. іран. 'няўмелы ці такі, хто не можа па здароўю рабіць што-н., але бярэцца дапамагчы' – Гл. (Янкоўскі), *уя́длы* прым. адм. 'нядобрасумленны працаўнік' – Гл. (Янкоўскі), *дзяло́к* м. зневаж. 'пра чалавека, які выстаўляецца сваімі здольнасцямі, а на самай справе нічога не ўмее добра рабіць' – Навагр. (ЖНС), *шаўлю́га* м. і ж. зневаж. 'нясcкладны чалавек, які не ўмее добра рабіць' – Навагр. (З нар. сл.), *кева́ла* м. 'дрэнны працаўнік' – мясц. (Насовіч), *нязгра́да* м. і ж. 'няўмека, няўклюда' – Жытк. (ТС).

## Працавіты, працалюбівы, старанны

Які многа, добра і шчыра працуе; дбайны, руплівы.

*рабо́чы* прым. – Брасл., Уздз., Чэрв., Ваўк., Кобр., Гом. р., Стол., Жытк., мясц. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., Шатэрнік, Сцяшковіч, Мат. Гродз., ЖНшС, НЛГ, ТС, Мат. Гом., Станкевіч), *рабацяга* м. і ж. – Добр., Маз., Смарг., Лельч., Жытк.,

Пін., Лоеў., Смален. р. (Мат. Гом., Станкевіч, Кучук, ТС, НЛ, Янкова, Насовіч, Дабравольскі), *рабяця́шчы* прым. – усходняя частка паўдн.-усх. з., спарадычна пал. р. (Юрчанка, Мат. апыт., Мат. Гом., ТС, ДСБ), *рабо́цька* м. і ж. – Хойн., Калінк. (Мат. Гом.), *рабацько́* м. – Слон. (СРЛГ), *рабо́тнік* м. – Жытк. (ТС), *рабо́тны* прым. – Стол. (ТС), *рабо́тлівы* прым. – Стол. (ТС), *рабача́й* м., *рабача́йка* м. і ж. – мясц. (Станкевіч), *трудзя́шчы* прым. – спарадычна паўн.-зах. з. (НС, Мат. мін.-мал., Сл. Гродз.), *трудзя́ка* м. і ж. – Лоеў., Браг. (Янкова, ГЧ, Мат. апыт.), *трудалюбі́мы* прым. – Мсцісл., Лоеў. (Юрчанка, Янкова), *трудзя́га* м. і ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *труця́га* м. – Калінк. (СПЗБ), *трудаві́ты* прым. – Іўеў. (СПЗБ), *трудаві́к* м. – Стол. (ДСБ, НЛ), *трудлі́вы* прым. – Лоеў. (Янкова), *трудзі́мы* прым. – Жытк. (ТС), *тру́жанік* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *працаві́ты* прым. – Віц. р., Чэрв. р., Жытк. (Каспяровіч, Шатэрнік, ТС, Насовіч), *праца́ўнік* м. – Лаг. (Варлыга), *працаве́нь* м. – Лаг. (Варлыга, Станкевіч), *працаве́ль* м. – Чэрв. (СПЗБ), *праца́ўлівы* прым. – Ашм. (Станкевіч), *праца́ўнэ́й* – Мсцісл. (Юрчанка), *працалю́б* м. – Слуц. (ЖНшС), *гару́шчы* прым. – Гом. р., Стол. (НЛГ, ТС), *гаро́ўны* прым. – Гл. (Янкоўскі), *гару́ха* ж. – Стол., Жытк., Пін. (ТС, ЖНС), *гарэ́мчы* прым. – Стол., Жытк. (ТС), *зага́рны* прым. – Лоеў. (Янкова), *зага́рлівы* – Маз. (ГЧ), *зага́ра* ж., *загару́ха* ж. – Жытк. (ТС), *руплі́вы* прым. ’старанны, клапатлівы’ – Чэрв. р., Гл., усх.-маг. р., Зах.-бран. р., (Шатэрнік, Янкоўскі, Бялькевіч, Растаргуеў), *ру́патлівы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка, Бялькевіч), *рупо́тлівы* прым. – Клім. (Бялькевіч), *ру́патны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *ру́пны* прым. – Смарг., Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *ру́паслівы* прым. – Чэрв. р., Смарг. (Шатэрнік, Станкевіч), *пару́пны* прым. – Ашм. (Сл. Гродз.), *ру́пнік* м., *ру́пніца* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *ру́песнік* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *ру́патнік* м., *ру́патніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *ру́пленнік* м., *ру́пленніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *стара́нны* прым. ’дбайны, клапатлівы’ – Віц. р. (Каспяровіч, Гарэцкі, Насовіч, Станкевіч), *старэ́нны* прым. – Віл. (НС), *стара́тлівы* прым. –

Навагр., Бар., Люб., Стол., Жытк. (ЖНС, НС, СПЗБ, ТС), *старáтны* прым. – Люб., Лоеў. (ЖНС, Янкова), *старáўлівы* прым. – Гродз., Воран. (Сл. Гродз., СПЗБ), *старáнлівы* прым. – Беластоц. р. (СПЗБ), *старáйлівы* прым. – Кам. (ЖНС, ЖНшС), *стараёнцы* прым. – Воран., Пух. (Сл. Гродз., Мат. мін.-мал.), *старáннік* м., *старáнніца* ж. – Гл., Круп., Мсцісл. (Янкоўскі, Мат. мін.-мал., Юрчанка), *старáцель* м., *старáцелька* ж.– Мсцісл. (Юрчанка), *старáцельнік* м., *старáцельніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *старáльнік* м., *старáльніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *старáлы* – Лаг. (Варлыга), *радзíвы* прым. 'клапатлівы, дбайны' – Слон. (Сл. Гродз., Насовіч, Гарэцкі, Станкевіч), *улéгісты* прым. 'старанны, неадступны' – Слуц. (ЖНшС, Насовіч), *акурáтны* прым. 'верны выканаўца' – Чэрв. р. (Шатэрнік, Насовіч), *дбáйлівы* прым. 'клапатлівы, руплівы' – мясц. (Станкевіч), *дбáйнік* м. – Бабр., Ельч. (ЛАБНГ), *піля́ка* аг. 'пільны да працы' – Лаг. (Варлыга), *шчы́ры, шчэ́ры* прым. 'старанны, дбайны, працавіты' – Кобр., Лоеў., паўн.-зах. з., Чэрв., Пух., Калінк., мясц. (ЖНшС, Янкова, СПЗБ, Насовіч), *шчыру́ха* ж. – Гом. р. (НЛГ), *гарапáшны* прым. 'шчыры ў працы; той, хто цяжкай працай здабывае сабе харчаванне' – Маз., Жытк., Драг. (ГЧ, Станкевіч, ТС, НЛ), *гарапáшчы* прым. – Стол. (ТС), *гарапáшнік* м., *гарапáшніца* ж. – Жытк., Драг., мясц. (ТС, НЛ, Станкевіч), *гарапáшлівы* прым. – Драг., Стол. (НЛ), *гару́тны* прым., *гару́тка* ж. – Валож. (ЖС), *цяглíй* м., *цяглéй* м. 'працавіты чалавек' – Іван. (НЛ, ДСБ), *няўтóльны* прым. 'старанны' – Карэл. (Сл. Гродз.), *здзялу́ха* ж. 'працавітая жанчына' – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *хціу́ны* прым. 'хцівы, прагны (да ведаў, да працы)' – Гом. р. (НЛГ), *сібíрны, сібéрны* прым. 'ахвочы да працы' – Слуц. (ЖНшС), *негарáка* м. 'небарака, шчыры працаўнік' – Жытк. (ТС), *запекáнік* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *забатня́к* м. 'руплівы чалавек' – Гродз. (Сл. Гродз.), *пары́вісты* прым. 'руплівы, ахвочы да работы' – Віл. (НЛ), *варавíты* прым. 'працаздольны' – Слон. (Сл. Гродз.), *чугáвы* прым. 'працаздольны' – Бераст. (Сл. Гродз.), *піцу́га* – Віц. р. (Каспяровіч), *лабавóз* м. іран. 'працавіты чалавек' – Бял. (Яўсееў), *пія́вы*

прым. ’працавіты’ – Чэрв. (СПЗБ), *ахвóчы* прым. ’не гультай’ – Лаг. (Варлыга), *таўкýшчы* прым. ’працавіты, бесперапынна заняты работай’ – Стол. (ТС), *пякéльнік* м. ’хто выконвае цяжкую працу, працуе да знясілення’ – Віц. р., Брасл. (Каспяровіч, СПЗБ), *смагýла* м. і ж. ’працавіты, але скупаваты чалавек’ – Мядз. (Н. сл-сць).

### Той, каго заўсёды трэба прымушаць працаваць

*папіхáйла* аг. – Смален. р. (Насовіч, Станкевіч, Дабравольскі), *папіхáлка* м. і ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *піхéнь* м. – мясц. (Станкевіч), *пех* м. – мясц. (Станкевіч), *папіхіч* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пасувáйла* аг. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пасóвішча* н. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *панукáла* м. і ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *прынудзілавец* м. – Паст. (СПЗБ).

### Той, хто дапамагае ў працы

*памачнік* м., *памачніца* ж. – Воран., Віл., Чэрв., Стол. (СПЗБ, СЦБ, ТС), *памагáч* м., *памагáчка* ж. – Валож., Віл., Лаг. (Мат. мін.-мал., СЦБ), *памагáтар* м. – Валож. (СЦБ), *памагáйла* м. і ж. – Рас. (СПЗБ), *памацнік* м. – Валож. (Мат. мін.-мал., СЦБ), *памóцнік* м. – Маладз. (СЦБ), *падсóбнік* м. – Чэрв. (СЦБ), *падрýчнік, падрýшнік* м. – Стол. (ТС), *патýжнік* м. ’здаровы працаўнік, добры памочнік’ – мясц. (Станкевіч, Насовіч).

### Увішны, спрытны ў працы

Жвавы ў рабоце, прагны да працы.

*зая́длы* прым. – Чэрв., Свісл., Бар., Саліг., Гл., Стол., Жытк. (Шатэрнік, Мат. Гродз., ЛАБНГ, Янкоўскі, ТС), *заéдлівы* прым. – Лельч. (Кучук), *заéда* ж. перан. – Жытк. (ТС), *зая́да* м. і ж. – Люб. (Н. сл-сць), *уя́длы* прым. – Чэрв. (Шатэрнік), *заўзя́ты* прым. – Лаг., Чэрв., Воран. (Варлыга, Шатэрнік, ЛАБНГ), *спры́тны* прым. – Віц. р., Мядз., Гродз.,

Слон., Чэрв., Кір., Лельч., Ельск. (Каспяровіч, ЛАБНГ, Шатэрнік), *спрытняќ* м., *спрытня́чка* ж. – Стол., Астр. (ТС, Сл. Гродз.), *спрытну́ха* ж. – Жытк. (ТС), *пры́тны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *руха́вы* прым. – Валож., Навагр., Чэрык. (ЛАБНГ), *рухлі́вы* прым. – Лаг., Іван., Лун. (Варлыга, ЛАБНГ), *рухо́мы* прым. – Стол. (ЛАБНГ), *ру́хлы* прым. – Слон. (Сл. Гродз.), *падхва́тны* прым. – Слуц., Мсцісл. (ЖНшС, Юрчанка), *пахва́тны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *ухва́тлівы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *ухва́цісты* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *паха́пны* прым. – мясц. (Станкевіч, Насовіч), *паха́плівы* прым. – мясц. (Станкевіч, Насовіч), *пахо́плівы* прым. – мясц. (Насовіч), *спра́ўны* прым. – Віц. р., Гродз., Чэрв., Чэрык., Брэсц., Жаб., Гл., мясц. (Каспяровіч, Мат. Гродз., Шатэрнік, ЛАБНГ, Янкоўскі, Насовіч), *упра́ўны* прым. – Лаг., Чэрв., Гл., Жытк. (Варлыга, Шатэрнік, Янкоўскі, ТС), *заю́ха* м. і ж. – Сен., Чэрв., Лаг. (ЛАБНГ, Станкевіч), *заю́шлівы* прым. – Краснап. (Бялькевіч), *развaро́тлівы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *развaро́цісты* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *вараці́ла* м. і ж. – Пол. (НЛ), *вёрткі* прым. – Гар., Астр., Чав., Касц., Бабр., Люб., Лельч. (ЛАБНГ), *увёрткі* прым. – Светлагор., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *увіро́тны* прым. неадабр. – Іўеў. (СРЛГ), *павярткі́* прым. – Віл. (ЛАБНГ), *рабо́чы* прым. – зах.-пал. г., Карэл. (ЛАБНГ), *рабо́тнік* м. – Бяроз. (ЛАБНГ), *рабацяга* м. і ж. – Слаўг. (ЛАБНГ), *рабо́цька* н. – Старадарож. (ЛАБНГ), *спо́ры* прым. – Добр., Чач. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *бы́стры* прым – Пух., усх. з., Стаўб., Лід., Маст., Клец., Малар. (СЦБ, ЛАБНГ), *быстрару́кі* прым. – Гродз. (Сл. Гродз.), *право́рны* прым. – Карм., Гом., Лельч., Стол. (ЛАБНГ), *праварніна́* м. і ж. – Жытк. (ТС), *паспе́шны* прым. – Дзятл., Клім., Слуц. (ЛАБНГ), *даспе́шны* прым. – мясц. (Насовіч), *агня́сты* прым. – Клім. (ЛАБНГ), *агні́сцік* м. – Бых., Бабр. (ЛАБНГ), *зві́нны* прым. – Зэльв., Пруж. (Сл. Гродз., ЛАБНГ), *завіна́шчы* прым. – Гродз. р. (Цыхун), *зда́тны* прым. – Бераст. (ЛАБНГ), *ху́ткі* прым. – спарадычна зах.-пал. г. і сумежныя з імі раёны, спарадычна паўдн.-усх. з., Пол., Ушац., Валож., Гродз., Бераст. (ЛАБНГ), *ско́ры* прым. – гродз.-бар. г., Смарг., Астр.

(ЛАБНГ), *хіжсы* прым. – Смарг., Бяроз. (ЛАБНГ), *шчы́ры* прым. – Мёр., Маладз., Гом., Рэч., Маз. (ЛАБНГ), *гара́чы* прым. – Смарг., Мсцісл., Івац., Іван., Пін., (ЛАБНГ), *шы́бкі* прым. – паўн. р., спарадычна паўн.-зах. з., Бых. (ЛАБНГ), *шпа́ркі* прым. – Паст., Брасл., Пол., Ваўк., Дзятл., Навагр., Мін., Бых., Пруж., Бяроз., Добр., Нараўл. (ЛАБНГ), *спо́ры* прым. – Чач., Добр. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *уда́лы* прым. – Верхнядзв., Круп., Бярэз., Капыл. (ЛАБНГ), *ёмкі* прым. – Бял., Маг., Бых., Ветк., Іван. (ЛАБНГ), *шу́стры* прым. – Шарк., Пол., Мядз., Віл., Круп., Слуц., Брэсц., Лельч., Мсцісл. (ЛАБНГ), *жва́вы* прым. – Астр., Ашм., Валож., Навагр., Брэсц. (ЛАБНГ), *шві́дкі* прым. – Слон., Пруж. (ЛАБНГ), *круты́* прым. – спарадычна паўночная частка паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *стара́тлівы* прым. – Чэрв. (ЛАБНГ), *тарапліва* прым. – Дзятл. (ЛАБНГ), *ую́н* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *тартары́ца* ж. 'вялікая і спраўная жанчына, якая лоўка і хутка працуе' – Пол. (НЛ), *шму́рны* прым. 'лоўкі' – Лельч. (ЖНшС), *кі́дкі* прым. 'спраўны ў рабоце' – Зэльв. (Сцяцко), *ха́бры* прым. – Лельч. (ЛАБНГ), *шурэ́цкі* прым. – Беш. (ЛАБНГ), *бо́йкі* прым. – Астр. (ЛАБНГ), *шыбя́сты* прым. – Пруж. (ЛАБНГ), *заві́дны* прым. – Леп. (ЛАБНГ), *мёткі* прым. – Буда-Каш. (ЛАБНГ), *пі́лны* прым. – Ушацк. (ЛАБНГ), *жывы́* прым. – Гор. (ЛАБНГ), *жэ́шкі* прым. – Кам. (ЛАБНГ), *я́ркі* прым. – Стол. (ТС), *тарапліва* прым. – Дзятл. (ЛАБНГ), *ша́ткі* прым. 'вельмі рухавы і спрытны ў рабоце, паваротлівы' – Гл. (Янкоўскі), *ле́ткі* прым. 'лёгкі да работы' – Зэльв. (ЛАБНГ), *дахо́дны* прым. 'які ўсюды паспявае, знаходзіць сабе доступ, дзякуючы сваёй стараннасці' – Ашм., Смарг. (Станкевіч), *руба́ка* м. 'які працуе без разваг' – мясц. (Насовіч), *захлы́нка* м. і ж. 'той, хто прагна хапае, робіць, не ўлічваючы сваёй сілы, магчымасцей, патрэб' – Гл. (Янкоўскі).

## 14. НАЗВЫ ЧАЛАВЕКА ПА АДНОСІНАХ ДА ЛЮДЗЕЙ

**Адыходлівы**

Здольны хутка забываць крыўду.

*адпусклівы* прым. – Смарг. (Станкевіч), *атхо́длівы* прым. – усх.-маг. р. (Бялькевіч).

**Ашукальнік**

Той, хто ашуквае, падманвае.

*абманя́ла* м. і ж., *абма́ннік* м., *абма́нніца* ж., *падманя́ла* м. і ж., *падманя́льнік* м., *падманя́льніца* ж., *падма́ннік* м., *падма́нніца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *ашука́нец* м. – Віц. р., Лаг. (Каспяровіч, Варлыга), *ашука́лка* ж., *ашука́льнік* м., *ашука́льніца* ж – мясц. (Насовіч), *акушэ́нец* м. – Віц. р. (Станкевіч), *абіра́ха* м., *манта́ч* м. – Лаг. (Варлыга), *абдува́ла* м., *празму́ста* м., *абма́ншчык* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *баламу́та* м. і ж. – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *во́шуст* м., *о́шуст* м., – Дзятл. (Сл. Гродз.), *круцэ́ль* м. – Лаг., Петр., Буда-Каш. (Мат. Гом., Варлыга), *абаку́льнік* м. – Маг. р. (Станкевіч, Бялькевіч), *канду́ла* м. і ж. – Акц. (Мат. Гом.), *пакішэ́ннік* м. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *браху́н* м., *брахуне́ц* м. – Чэрв. р., Смален. р. (Станкевіч).

**Бессаромны**

Які не мае сораму; нахабны, нясціплы.

*страмнік* м., *страмніца* ж. – Бял., Гор., Мсцісл., Чач., Лоеў., Зах.-бран. р. (Мат. Маг., Растаргуеў, Яўсееў, Янкова,

Юрчанка, Мат. апыт.), *стра́мнік* м. – Ушацк., Гл., Бял., Быx., Зах.-бран. р. (НЛ, ЖНС, Яўсееў, Янкоўскі, Растаргуеў), *страмата́* м. і ж., *бясстра́мны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *срамні́к* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *страмі́дла* м., *прасталы́тка* ж., *бессаро́мніца* ж., *прафу́ра* ж. – Бял. (Яўсееў), *бессаро́мны* прым., *бессо́рамны* прым., *бессарамя́жны* прым. – Віц. р. (Станкевіч), *бясты́днік* м., *бессты́дніца* ж. – Верхнядзв., Брасл., Зэльв., Маг., Чач., Паст. (СПЗБ, Мат. Маг., Шаталава, Сцяцко, Мат. апыт.), *стыду́лька* ж., *сты́дны* прым., *няўсты́дны* прым., *няўсці́вы* прым., – Лоеў. (Янкова), *бяссты́дны* прым. – Навагр., Лоеў. (Сл. Гродз., Янкова), *бэ́стынь* м. і ж. – Свісл. (Мат. Гродз.), *абры́дніца* ж. – Чэрв. (Мат. мін.-мал.), *галабру́й* м. – Кругл. (ЖНС).

**Бязлітасны**

Які не мае літасці, жалю, спачування; бессардэчны.

*катарэ́знік* м. – Карэл. (ЖНС), *кат* м. – Віц., Смарг. (Станкевіч), *скуралу́п* м. – Ашм. (Сл. Гродз.), *жывадзёр* м. – Лаг. (Варлыга), *бязжа́ласлівы* прым. – Мсцісл. (Насовіч, Юрчанка), *бяскрэ́ўны* прым. – Маз. (ГЧ).

**Ветлівы**

Ласкавы, далікатны, прыветлівы, выхаваны.

*ве́тлы* прым. – Віц. р., Стол., Жытк. (ТС, Каспяровіч), *прыве́тны* прым. – Віц. р., Лоеў., Чач. (Каспяровіч, Станкевіч, Янкова, Мат. апыт.), *прыве́тлівы* прым. – Лаг. (Варлыга), *прыя́тлівы* прым. – Жытк. (ТС), *прыві́тчы* прым. – Драг. (ЖНС), *уве́тлівы* прым., *ува́жны* прым. – Віц. р. (Каспяровіч), *даліка́тны* прым. – Смарг., Чэрв. ( Станкевіч, Насовіч, Шатэрнік), *прыёмны* прым. – Лід., Лоеў. (Сл. Гродз., Янкова), *прыя́млівы* прым. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *міжлю́дны* прым. – Ваўк. (СПЗБ), *прые́мчывы* прым. – Карэл. (СПЗБ), *прыю́тны* прым., *абаю́дны* прым.– Лоеў. (Янкова), *прылю́дны* прым. – Гродз. (Сл. Гродз.), *прыкі́длівы* прым., *прыкі́дны*

прым. – Жытк. (ТС), *прыту́льны* прым. – Астр. (Сл. Гродз.), *панара́ўны* прым. – Лід. (СРЛГ, Мат. Гродз.), *гжэ́чны* прым. – Астр. (СРЛГ), *людзя́ны* прым. – Клім. (Мат. Маг.), *лёзны* прым. – паўн.-зах. з. (ЖНС, СПЗБ), *малёдны* прым. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *ліса́вы* прым., *ма́сляны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *прыста́тны* прым. – Віц. р. (Каспяровіч), *васпі́таны* прым. – Мядз. (СЦБ).

### Грубы

Няветлівы, некультурны, рэзкі.

*гру́бы* прым. – агульн., Смален. р. (ЛАБНГ, Насовіч, Дабравольскі), *грубы́* прым. – паўн.-зах. з., Маг. р., спарадычна Віц. р. і Гом. р. (ЛАБНГ, ГЧ), *гру́бен* м., *гру́бец* м. – мясц. (Станкевіч), *грубія́н* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *ва́рвар* м. 'грубы, дзікі' – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *саў́лыга* м. і ж. – Кругл. (Мат. Маг.), *хабло́* н. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *хаму́йлік* м., *свіннава́ты* прым. – Мсцісл. (Юрчанка).

### Даверлівы

Які кожнаму верыць.

*даве́рлівы* прым. – Лаг. (Варлыга), *даве́рчываны* прым. – Мсцісл. (Юрчанка).

### Дакорлівы

Які выказвае незадавальненне, папрок.

*упіка́льшчык* м. – Мсцісл. (Бялькевіч), *выя́да* м. і ж. – Гродз. (Цыхун).

### Далікатны

Ветлівы, ласкавы ў абыходжанні з людзьмі; уважлівы.

*даліка́тны* прым. – Чэрв., Мсцісл., Жытк., Зах.-бран. р. (ТС, Шатэрнік, Юрчанка, Растаргуеў), *даліка́тар* м. – На-

вагр., Жаб. (НЛ, НС), *даліктýся* м. і ж. – Зэльв. (Сцяцко), *панéльны* прым. 'далікатны' – Мсціcл. (Юрчанка).

### Дзіўны

Які выклікае здзіўленне; незвычайны.

*дзíўны* прым. – Чэрв. (Шатэрнік), *дзівáчны* прым., *дзівóснік* м., *дзівóсніца* ж. – мясц. (Насовіч), *анцярэ́сны* прым. – Бял., Мсціcл. (Юрчанка, Яўсееў), *чуднэ́й* прым., *чудзéла* м. – Мсціcл. (Юрчанка), *прытарóмны* прым. – Маст. (Сл. Гродз.), *мóдны* прым. 'незвычайны, непрывычны, дзіўны' – Стол. (ТС).

### Добразычлівы

Які жадае людзям дабра, прыхільна, спагадліва адносіцца да іншых.

*яркóвы* прым. – Хойн. (ЛАБНГ), *мяркóўны* прым. – Сен. (ЛАБНГ), *мяркóваны* прым. – Малар. (ЛАБНГ), *памяргóўны* прым. – паўн.-зах. з., Арш., Дубр., Чав., (ЛАБНГ), *памяркóўны* прым. – спарадычныя паўн.-зах. з., Чашн., Бярэз., Бял., Клім., Гл. (ЛАБНГ), *прывéтлівы* прым. – Чэрв. (СПЗБ), *душэ́ўны* прым. – Гродз. (СПЗБ), *дабраахвóчы* прым. – Віц. (Каспяровіч), *парáдлівы* прым. – Ашм. (Сл. Гродз.), *прыя́зны* прым., *лю́дзкі* прым., *шчы́ры* прым. – Лаг. (Варлыга), *зычлíвы* прым. – Валож. (СЦБ, Насовіч), *дабрахóт* прым. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *лёста* ж. 'добразычлівая, вельмі памяркоўная жанчына' – Гл. (Мат. дыял. сл.).

### Добры

Чулы да людзей, спагадлівы, сардэчны.

*дабрáк* м. – Гом. (НЛГ), *дабрáч* м. – Лельч. (Кучук), *дабрэ́ц* м. – Стол. (ТС), *дабрыня́* м. і ж. – мясц. (Насовіч), *дóбры* прым. – агульн. (ТС, СЦБ, ЖС, Станкевіч, Янкоўскі, Мат. апыт.), *дабрýсенькі* прым. ласк. – Віц. р. (Каспяровіч),

*дабрэ́сенькі* прым. ласк. – Гом. (НЛГ), *дабраві́ты* прым. – Маладз. (Мат. мін.-мал.), *мя́ккі* прым. – Лоеў., Чач. (Янкова, Мат. апыт.), *мо́цкі* прым. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *хва́йны* прым. – Бар. (ДСБ), *лемянто́вы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *со́вясны* прым. 'добры, справядлівы' – Іўеў. (Сл. Гродз.), *сла́ўны* прым. 'добры, слаўны' – Жытк. (ТС), *чы́нны* прым. 'добры, прыстойны' – Шчуч. (Сл. Гродз.), *лаго́дны* прым. – 'добры, шчыры' – Паст. (СПЗБ), *пуцёвы* прым. – Старадарож. (ЖНС), *уго́дны* прым. 'добры, даспадобы' – Жытк. (ТС), *спага́длівы* прым. – Лаг. (Варлыга), *лю́дны* прым. 'людскі, добры' – Жытк. (ТС); **вельмі добры:** *дабрына́* ж. – Жытк. (ТС), *дабрэ́нны* прым. – Стаўб., Люб., Чач., Гом., Лоеў. (ЖНС, СЦБ, Н. сл-сць, НЛГ, Мат.апыт.), *дабраду́шны* прым. – Лід., Пух., Стол. (ТС, З нар. сл., Мат. Гродз.), *дабрэ́зны* прым., *дабрэ́чы* прым. – Жытк. (ТС), *дабра́чы* прым. – Жытк., Гом. (ТС, Н. сл-сць), *дабру́ленькі* прым. экспр. – Стол. (ТС), *дабро́тны* прым. – Гом. (Н. сл-сць), *задо́бры* прым. – Віл. (СЦБ), *раздо́бры* прым. – Маст., Гл. (Сл. Гродз., Янкоўскі), *прадабрэ́нны* прым. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *заві́дны* прым. 'надта добры, зайздросны' – Жытк. (ТС), *малі́навы* прым. 'вельмі добры, паслухмяны' – Бял. (Яўсееў), *дабраду́шнік* м., дабраду́шніца ж. 'лагодны чалавек' – Мсцісл. (Юрчанка), *дабрадзе́й* м. – Віц. р., Лаг. (Варлыга, Каспяровіч), *дабрадзе́цель* м. – Бярэз. (СЦБ), *прыя́ка* м. іран. – Бял. (Яўсееў), *дабрахо́т* м., *жычлі́вы* прым. – мясц. (Насовіч), *каса́тка* ж. 'чалавек добрай душы' – Чэрв. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *караду́шка* ж. 'добрая, ласкавая жанчына' – Валож. (ЖС), *шчыру́ха* ж. 'шчодрая, добрая жанчына' – Астр. (Сл. Гродз.).

### Дрэнны

З адмоўнымі якасцямі або ўласцівасцямі; кепскі.

*ляда́шчыца* ж. – Нясв. (Мат. мін.-мал.), *ля́ды* прым. – Маст. (Сл. Гродз.), *ляда́кі* прым. – Клецк. (Мат. мін.-мал.), *ляда́шты* прым. – Чэрв. (Шатэрнік), *ліхі́* прым. – Віц. р., Шчуч., Лаг. (Мат. Гродз., Каспяровіч, Варлыга), *ніčо́гі* прым. – зах.-

пал. г. (Мат. апыт.), *халéрны* прым. – Уздз., Кір. (НС, Мат. мін.-мал.), *халярыíсты* прым. – Маст. (Мат. Гродз.), *пáкасны* прым. – Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *пагáны* прым. – Пін. (ДСБ), *брыдá* м. і ж ’ дрэнны, надакучлівы’ – Нясв. (Мат. мін.-мал.), *благатá* м. і ж., *благóцце* м. і ж., *благí* прым. – Чашн., Смарг., Чэрв. (Станкевіч), *судóлле* м. і ж. – Бых. (Мат. Маг.), *бэ́сты* прым. – Свісл. (Сл. Гродз.), *кéпскі* прым. – Віц. р., Чэрв. (Каспяровіч, Шатэрнік), *пóшлы* прым. ’дрэнны’ – Рэч. (НС), *гáдкі* прым. – Воран. (Мат. Гродз.), *наýдыí* прым. – Зэльв. (СРЛГ), *труíзна* ж. ’вельмі дрэнны’ – Браг. (З нар. сл.), *мáрны* прым. ’дрэнны, нялюбы’ – Валож. (Мат. мін.-мал.), *вуніят* м. ’абманнік, дрэнны чалавек’ – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *пранцавáты* прым. – Кір. (НС), *негадзя́вы* прым., *негадзя́шчы* прым. ’паганы’ – Гродз., Вілен. р. (СПЗБ), *нелапыí* прым. ’няладны, нядобры’, *ненавíдны* прым. ’нядобры’, *нелюдскí* прым. – Смален. р. (Дабравольскі), *барахлóвы* прым. – Мсцісл. (Юрчанка).

## Жаласлівы

Схільны да жаласці, спачування; спагадлівы, чуллівы.

*жáласнік* м., *жáласніца* ж.– Віц. р., Лаг. (Каспяровіч, Насовіч, Варлыга), *жáласны* прым. – Віц. р. (Каспяровіч), *жáласцівы* прым. – Верхнядз., Дзятл., Пух., Чач. (СРЛГ, Мат. мін.-мал., Шаталава, Мат. апыт.), *жáласлівы* прым. – Люб., Жытк. (ТС, Насовіч, Мат. апыт.), *жалóслівы* прым. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *жалаблівы* прым. – Гродз. (Сл. Гродз.), *жвáлы* прым. ’жаласны’ – Чэрв. (СПЗБ), *шкадóўнік* м. – Жытк. (ТС), *шкадóўніца* ж., *шкадóўлівы* прым. – Стол. (ТС).

## Жорсткі

Суровы; бязлітасны, неміласэрны.

*азіят* м. – Віц. р., Лельч. (Каспяровіч, Кучук), *ваўкалáка* м. і ж., *канарэ́з* м. – Гл. (Янкоўскі), *гад* м. – Лаг. (Варлыга), *кат* м. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *шкуралýп* м.,

*шкуралу́піна* ж., *канарэ́зіна* м., *каналу́п* м. перан., *каналу́піна* м. узмацн., *крывапі́ўнік* м., *крывапі́ўніца* ж., *крывапівец* м. – Лаг. (Варлыга), *звераві́ты* прым. – Мсцісл. (Юрчанка), *крывапі́ўца* м., *крывасмо́к* м. – мясц. (Станкевіч), *лю́ты* прым., *ка́таўскі* прым. – мясц. (Насовіч), *жо́рсткі* прым. – Стол. (ТС, Станкевіч), *бязду́шны* прым. – Лаг. (Насовіч, Станкевіч, Варлыга), *бязлю́дзкі* прым. – мясц. (Насовіч), *акая́нны* прым. – Ганц., Лях. (СПЗБ), *пасія́к* м. 'люты' – Пін. (НЛ).

## Задзірысты

Схільны, ахвочы да боек, сваркі; задзірысты.

*задзі́ра* м. і ж. – паўн.-усх. з., Смарг., Лаг., Чэрв., (Мат. Гом., Шатэрнік, Станкевіч, Варлыга), *задзіра́ка* м. і ж. – Добр. (Мат. Гом.), *задзіра́ва* м. і ж. – Ветк. (Мат. Гом.), *задзі́рысты* прым. – Лаг., Гл., Зах.-бран. р. (Варлыга, Янкоўскі, Растаргуеў), *задзі́рлівы* прым. – Гл., Зах.-бран. р. (Янкоўскі, Растаргуеў), *задзіра́члівы* прым. – Кам. (ЖНС), *зая́да* ж. – Жытк. (ТС), *за́скацень* м. перан., *байча́к* м., *бо́ец* м., *рызыка́нт* м. – Стол. (ТС), *дзярка́ч* м. перан., *кару́за* м. і ж. зневаж., *кару́злівы* прым. – Гл. (Янкоўскі), *зано́за* ж. перан. – Буда-Каш. (Мат. Гом.), *забія́ка* м. і ж. – Буда-Каш., Раг. (Мат. Гом.), *уды́ра* м. і ж. – Леп. (ЖНшС), *задзёра* м. і ж., *задзіра́ннік* м., *задзіра́нніца* ж., *задзі́рлівы* прым., *задзёрлівы* прым., *прыдзі́рчасты* прым., зачэ́*па* м. і ж., *зачэ́пны* прым., *зачэ́пісты* прым., *шка́радзь* ж., *шкарэ́нда* м. і ж. – Мсцісл. (Насовіч, Юрчанка), *задо́рны* прым. – Беластоц. р. (СПЗБ), *кару́за* м. і ж., *кару́злівы* прым. – Лаг. (Варлыга), *дзяру́н* м. – Жлоб. (Мат. Гом.), *дзярка́ч* м. іран. – Нясв., Калінк., Карм. (Мат. Гом., Мат. мін.-мал.), *дзярклі́вы* прым. – Смарг. (Станкевіч), *драч* м. і ж. зневаж. – Віл. (НС), *зая́духа* ж. асудж. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *бадзю́га* м. – Ваўк. (СПЗБ), *буй* м., *біту́н* м., *ага́злівы* прым., *гіцлюга* м. – Віц. р., Чашн., Хоц. (Станкевіч), *перабу́й* м. – Віц. р. (Федароўскі), *шка́рада* м. і ж., *шка́радны* прым. – Бял. (Яўсееў), *зачэ́па* м. і ж. – мясц. (Насовіч), *завадыя́ш* м. і ж., *завадыя́ка* м. і ж., *завадэ́вуш* м.

і ж., *збо́йца* м. – Гродз. (Цыхун), *збро́йны* прым. – Зэльв. (Сцяцко), *сукава́ты* прым. – Чач. (Мат. апыт.), *засо́шысты* прым. – Івац. (ЖНС).

### Зайздросны

Схільны да зайздрасці.

*завіднік* м. – агульн., акрамя зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, ТС, СПЗБ, ЖНшС, Мат. мін.-мал., Мат. Гом., Насовіч, Шаталава, Юрчанка), *завіда* м. і ж. – Навагр., Мсцісл., Драг. (НЛ, З нар. сл., Юрчанка), *завідніца* ж. – Верхнядзв., Ушацк. ЖНшС, Шаталава, Станкевіч), *завідала* м. і ж. – Бял. (Яўсееў), *завідо́ха* м. і ж. – Ушацк. (ЖНшС), *завідлівы* прым. – агульн., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС, Мат. мін.-мал., Мат. Маг., Мат. Гом., Мат. дыял. сл., Бялькевіч, Растаргуеў, Юрчанка), *завідны* прым. – агульн., акрамя Віц. р. (ЛАБНГ, ЖС, ЖНС, СЦБ, Мат. Маг., Станкевіч, Юрчанка, Янкова), *завінны* прым. – Кобр. (ЖНшС), *завіжсы* прым. – Лельч. (НЛ, ЛАБНГ), *завідчывы* прым. – Бабр. (ЛАБНГ), *завіду́шчы* прым. – Віц. р., Маг. р., Гом. р., спарадычна ўсх.-маг. р., Маст., Віл. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. Гродз., Каспяровіч), *завідро́сны* прым. – Нясв., Рэч. (ЛАБНГ), *зава́длівы* прым. – Барыс. (Мат. мін.-мал.), *павідлівы* прым. – Чэрв., Капыл., Асіп., Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *зайдро́снік* м. – Уздз. (СЦБ), *зайдро́сны* прым. – Асіп., Карм., Бяроз., Стол., Рэч., Маз., Лельч., Нараўл. (ЛАБНГ, ТС), *зайдрысты* прым. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *за́йдрасны* прым. – Чэрв. (СЦБ), *зайдро́ны* прым. – Слон. (ЛАБНГ), *зайздро́нік* м. – Ваўк. (ЛАБНГ), *зайздро́снік* м., *зайздро́сніца* ж. – Чэрв. (Шатэрнік, Насовіч), *за́йздры* прым. – Жытк., Хойн. (ЛАБНГ, ТС), *зайздрывы* прым. – Ашм., Маладз., Лаг. (ЛАБНГ, Варлыга ), *зайздро́сы* прым. – Пол. (ЛАБНГ), *зайздро́сны* прым. – зах. з., Віц. р., Чашн., Тал., Чэрв., Гл., Бял., Бых., Карм. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *зайздро́ны* прым. – Лаг., Ганц. (ЛАБНГ, Варлыга), *за́йздрасны* прым. – Круп., Бял., Лельч. (ЛАБНГ), *зайздро́слівы* прым. – Навагр., Дзятл., Клецк., Браг. (ЛАБНГ, Насовіч),

*зазро́нік* м., *зазро́ніца* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *зазро́ны* прым. – Гродз., Зэльв., Івац., Брэсц. (ДСБ, НС, ЖС, Цыхун, Сцяцко), *заздро́нік* м. – Пін. (НЛ), *заздро́ны* прым. – Зэльв., Пруж., Жаб., Кобр., Бяроз. (ЛАБНГ), *заздро́сны* прым. – Гродз., Шчуч., Бых., Кам., Іван., Стол., Браг. (ЛАБНГ, Насовіч), *за́здрывы* прым. – Малар. (ЛАБНГ), *за́здры* прым. – Стол. (ТС), *задро́снік* м. – Буда-Каш. (ЛАБНГ), *задро́ны* прым. – Драг. (ЛАБНГ), *задро́сны* прым. – Бабр., Ельск. (ЛАБНГ), *за́драсны* прым. – Нараўл. (ЛАБНГ), *заві́сны* прым. – Гл., Смален. р. (Янкоўскі, Дабравольскі), *за́вісны* прым. – Верхнядзв., Шкл. (ЛАБНГ), *заві́слівы* прым. – Рас., Верхнядзв., Пол., Шум., Сен., Кір., Бабр., Брэсц. (ЛАБНГ), *ква́пны* прым. – Віц. р., Чэрв. (Каспяровіч, Шатэрнік, Насовіч), *кваплі́вы* прым. – Смален. р. (Дабравольскі), *крыво́тніца* ж., *крыво́тны* прым. – Гл. (Янкоўскі), *крывы́* прым. – Уздз., Стол. (ТС, Мат. мін.-мал.), *крыво́сны* прым. – Светлагор. (ЛАБНГ), *крыво́слівы* прым. – Стол., Жытк. (ТС), *крываслі́вы* прым. – Буда-Каш., Чач. (Мат. апыт.), *крыво́тлівы* прым. – Дзятл., Гл., Жытк., Светлагор., Петр., Маз., Нараўл. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гом., Сл. Гродз., Станкевіч, Янкоўскі), *зая́да* м. і ж., *зая́дны* прым. – Бял. (ЛАБНГ, НС), *загло́ба* м. і ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *загла́духа* ж. – Лід. (Мат. Гродз.), *злы́дны* прым. – Пін. (ЛАБНГ), *злы́нны* прым. – Кліч. (ЖС), *запе́слівы* прым. – Стол., Маз. (ТС, ЛАБНГ), *лапшы́вы* прым. – Стаўб. (СЦБ), *паві́длівы* прым. – мясц. (Станкевіч), *га́лкі* прым. – Ушацк. (ЖНшС), *аха́ла* м. і ж. – Бар. (ДСБ, НЛ), *скны́ры* прым. – Лельч. (ЛАБНГ), *пламі́дны* прым., *пламі́нны* прым. экспр. 'зайздросны' – Чэрв. (СПЗБ), *не́ббаль* м., *не́абаль* м. 'зайздроснік' – Пін., Бяроз. (ЖНС), *неабо́льны* прым. 'зайздросны' – Стол. (ЛАБНГ), *хо́ўчлівы* прым. – Пух. (СПЗБ), *хаўхлі́вы* прым. – Пух. (ЛАБНГ).

## З'едлівы

Схільны да едкіх, зласлівых насмешак; ядавіты.

*уя́да* м. і ж. – Маст. (Сл. Гродз.), *ядаві́ты* прым. перан. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *ку́сла* ж. зневаж. – Паст. (СПЗБ),

*з'ядлы* прым., *з'ядлівы* прым. – Лід., Іўеў. (Сл. Гродз.), *упічысты* прым. – Бял. (Яўсееў), *датклівы* прым. – Зах.-бран. р. (Растаргуеў).

### Злапамятны

Які доўга помніць крыўду.

*па́мятны* прым. – Ветк. (Мат. Гом.), *спаго́нлівы* прым., *уно́слівы* прым. – Стол. (ДСБ), *спаго́нчывы* прым. – Лун. (ДСБ), *заскаруязлівы* прым. – Лаг. (Варлыга), *зато́млівы* прым. – Смарг. (Сл. Гродз.), *непрасцівы* прым. – Лун. (Шаталава), *непрасцёвы* прым. – Маст. (Сл. Гродз.), *раме́слівы* прым. 'злaслівы, непрыхільны, злапамятлівы' – Жытк. (ТС).

### Злосны

Поўны злосці, варожасці, нядобразычлівасці.

*зло́снік* м., *зло́сніца* ж. – мясц. (Станкевіч, Насовіч), *зло́сны* прым. – Чэрв., Люб. (Шатэрнік, Насовіч, Мат. апыт.), *злю́ка* м. і ж. – Раг., Смален. р. (Мат. Гом., Дабравольскі), *злю́чы* прым. – усх.-маг. р., Барыс., Чач., Лоеў. (СЦБ, Мат. мін.-мал., Бялькевіч, Янкова, Мат. апыт.), *злюце́лы* прым. – Карэл. (Сл. Гродз.), *злы́дзень* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *злыбяда́* м. і ж. – Петр. (Мат. Гом.), *злы* прым. – агульн., Смален. р. (ЛАБНГ, ТС, Станкевіч, Дабравольскі), *зло́бнік* м., *злакама́нны* прым. – мясц. (Насовіч), *злабіцель* м., *злабіцелька* ж. – Мсцісл., Жлоб. (Мат. Гом., Юрчанка), *зло́слівы* прым., *зло́ўскі* прым. – Смален. р. (Дабравольскі), *злaслівы* прым., *зламы́сны* прым., *злакама́нны* прым. – мясц. (Станкевіч), *злённы* прым., *хлехату́н* м. неадабр., *вы́дрыпка* ж. 'злы, няўжыўчывы' – Мсцісл. (Юрчанка), *ляда́к* м., *ляда́кі* прым., *ляда́чы* прым. – гродз.-бар. г., Брэсц., Лях., Слуц., Акц., Добр. (ЛАБНГ, ЖС, З нар. сл., Мат. Гродз.), *ляда́шчы* прым. – Воран., Дзятл., Стаўб., Слуц., Лях. (ЛАБНГ, ЖС), *з'яд* м. – Клецк. (НЛ), *з'я́да* м.і ж. – Капыл. (Н. сл-сць), *зая́да* м. і ж. – Слон., Мін. (Н. сл-сць), *зая́духа* ж. – Стаўб.

(СЦБ), *заéдлівы* прым. ’злы, заўзяты’ – Жытк. (ТС), *зайдзёны* прым.’сярдзіты, суровы’ – Дзятл. (Сл. Гродз.), *хіжáк* м. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *хіжы* прым. – Бял. (НС), *хіжáсты* прым. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *ліхі* прым. – Чэрв., Гл., Малар., Кобр., Іван., Лун., Жытк., Ветк. (ЛАБНГ, ДСБ, Мат. Гом., Шатэрнік, Янкоўскі, Насовіч), *ліхóцце* н. ’пра злоснага, ліхога чалавека’ – Гл. (Янкоўскі), *плóхі* прым. – Ганц. (ЛАБНГ), *плахéй* прым. – Чэрык. (ЛАБНГ), *нягóдны* прым. – Асіп. (ЛАБНГ), *хітляны́* прым. ’злосны, няшчыры чалавек’ – Жытк. (ТС), *я́звіна* м. і ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *я́ры* прым. – Слон., Стол., Жытк. (ТС, Сл. Гродз.), *я́ркі* прым. ’заўзяты, злы’ – Астр. (Сл. Гродз.), *ю́даш* м. ’помслівы, злы’ – Астр. (Сл. Гродз.), *благі* прым. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пуктýн* м. асудж., *пýкта* м. і ж. асудж., *пýктала* м. і ж. узмацн., *буркýн* м. асудж., *бýркала* м. і ж. асудж. ’незадаволены, злы, бурклівы’ – Мёр. (З нар. сл.), *азія́тны* прым. – Маст. (Сл. Гродз.), *ад’я́да* м. і ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *ашчапéнны* прым. – Зэльв. (Сл. Гродз.), *агýрлівы* прым. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *патункóвы* прым.– Гродз. (Сл. Гродз.), *сярдзіты* прым. – Чэрв., Бяроз., Драг., Пін., Маз. (ЛАБНГ), *áспід* м. – Віц. р. (Каспяровіч, Насовіч), *мы́рма* м. і ж. абразл. – Капыл. (Н. сл-сць), *нягóдны* прым. ’злы, нядобры’ – Стаўб., Круп. (СЦБ), *згры́злівы* прым. – Смарг. (Сл. Гродз.), *падкалóдніца* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *цы́тра* ж. абразл. – Барыс. (Мат. мін.-мал.), *кує́* ж. – Жытк. (ТС), *сітýчка* ж., *звяры́сты* прым. – Віц. р. (Нікіфароўскі, Каспяровіч), *звяры́ца* ж. – Ушацк. (НС), *звераваты* прым. – Пух. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *ваўкáч* м. асудж. – Навагр. (СПЗБ), *ваўкачэ́ча* м. зневаж. – Слуц. (ЖС), *ваўчкаваты* прым. – Воран. (Сл. Гродз.), *вы́дра* ж. груб. ’злы, няўжыўчывы’ – Уздз. (СЦБ), *вужáка* м. і ж. ’хітры, злы’ – Зах.-бран. р. (Растаргуеў), *нічагéза* ж. – Стол. (ТС), *урэ́дны* прым. ’злы, сярдзіты’ – Брасл. (СПЗБ), *пад’зéмільнік* м., *пад’зéмільніца* ж. зневаж. – Мёр. (З нар. сл.), *раскóл* м. ’злы, нялітасцівы’ – Лід. (Сл. Гродз.), *я́гіня* м. ’злосны, шкадлівы’ – Стаўб. (ЖС), *шатáнскі* прым. ’злы, чартоўскі’ – Іўеў. (Сл. Гродз.), *шалёны* прым. перан. ’злосны, пераўзбуджаны’ – Стаўб., Жаб. (ЛАБНГ), *крýчаны* прым.

’шалёны, пераўзбуджаны’ – Жаб., Лун. (ЛАБНГ), *зладзюга* м. ’злы, шкодны’ – Свісл. (Мат. Гродз.), *халярычны* прым. ’злы, непамяркоўны’ – Астр. (Сл. Гродз.), *пага́ннік* м. ’паганы, злы’ – Віц. р. (Каспяровіч), *пага́ны* прым. ’дрэнны, злы’ – паўн.-зах. з. (СПЗБ), *надуцька* м. асудж. ’злы, насуплены’ – Мёр., Навагр. (З нар. сл., Н. сл-сць), *сібе́рны* прым. ’злосны, дрэнны’ – Слуц. (ЖС), *лю́тар* м. ’злосны, люты’ – Зэльв. (СРЛГ), *лютоўка* ж. – мясц. (Станкевіч), *гад* м. ’злы, брыдкі, агідны’ – Чэрв. (Шатэрнік), *акаянны* прым. ’злы, бессардэчны’ – Віц. р. (Каспяровіч), *свірыбы* прым. – Верхнядзв. (СПЗБ), *канто́вы* прым. перан. ’нявытрыманы, злы’ – Воран. (Сл. Гродз.), *максо́ніха* ж. – Хоц. (Мат. Маг.), *тыгрыца* ж. перан., *звярына* ж. перан., *вужа́ка* ж. ’злосная, хітрая’, *вуж* м. ’злы, каварны’, *гадзю́ка* м. і ж., *гню́сны* прым. ’злы, паганы, нядобры’, *вядзьма́к* м. ’злы, каварны’, *разлíхі* прым. ’вельмі злосны’, *ведзьма* ж. ’злая, сварлівая’, *зайдо́ха* ж. ’злая, сварлівая’ – мясц. (Насовіч), *закалёны* прым. асудж. ’злосны, жорсткі’ – Дзятл., Зэльв. (Сл. Гродз., Сцяцко), *праўра́жы* прым. ’нядобразычлівы, зласлівы’ – Лоеў. (Янкова), *гама́н* м. ’дурны, злы’ – Ашм. (Станкевіч), *га́ман* м. – Віц. (Каспяровіч).

**Клапатлівы**

Схільны да клопатаў, турбот; руплівы.

*клапатлівы* прым. – агульн. (ЛАБНГ, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч), *крапатлівы* прым. – Добр. (ЛАБНГ), *карплівы* прым. – Івац. (ЛАБНГ), *забо́тлівы* прым. – паўдн. р., Маг. р., усх.-маг. р., спарадычна гродз.-бар. г. і паўн. р., Віл. (ЛАБНГ, СЦБ), *забо́тны* прым. – Рас., Навагр., Лаг., Уздз., Хоц. (ЛАБНГ, СЦБ), *забо́чы* прым. – Шум. (ЛАБНГ), *руплівы* прым. – Бярэз. р., Маг. р., спарадычна паўн. р., Паням. р., пал. р., Слуц. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл.), *ру́плівы* прым. – Ашм. (ЛАБНГ), *ру́патлівы* прым. – спарадычна ўсх.-маг. р., Карм. (ЛАБНГ), *рупатлівы* прым. – Верхнядзв., Зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў), *ру́патны* прым. – Слаўг.

